24 лістапада 2017 | № 44 (558)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Меркель пойдзе на пенсію?

стар. 20

4–5 **«ЧАЛАВЕК МАЕ ВЫБІРАЦЬ ПАМІЖ КНІГАЙ І ФЭЙСБУКАМ»**



Пра фігуранта «Справы патрыётаў» і «кніганошу» Алеся Яўдаху вядома даволі шмат. А што ён расскажа пра сябе сам?

6 **ДОБРААХВОТНАЕ ДОНАРСТВА ОРГАНАЎ РАТУЕ НАЦЫЮ**

Дырэктар Брэсцкага Міжнароднага цэнтра «Донарства. Дыяліз. Трансплантацыя» і галоўны пазаштатны трансплантолаг Брэсцкай вобласці Расціслаў Лаўрынюк выказвае свой погляд на праблему донарства органаў

7– 18 **Літаратурная Беларусь**

22– 23 **ПАД НЕГАЛОСНЫМ АПЯКУНСТВАМ СПЕЦСЛУЖБАЎ**

Каб апазнаць праявы нацыяналізму, КДБ знайшоў самы просты спосаб: «Постоянно разговаривает на белорусском языке, значит, — националист»

# Шпіёнскія гульні

## Каму на карысць затрыманне ў Беларусі «ўкраінскага шпіёна»?



Сяргей ПУЛЬША

КДБ Беларусі напачатку тыдня паведаміў пра затрыманне чарговага шпіёна. Ім апынуўся ўкраінскі журналіст Павел Шаройка.

Як гэта водзіцца ў КДБ, шпіён адразу ва ўсім прызнаўся і здаў сваю «агентурную сетку», наступствам чаго было абвяшчэнне персонай нон-грата дарадцы пасольства Украіны ў Беларусі Ігара Скварцова. Супраць Шаройкі распачата справа паводле артыкулу 358 Крымінальнага кодэкса Беларусі «шпіянаж» — ад 7 да 15 гадоў зняволення.

У лепшых традыцыях дэтэктываў, Галоўнае ўпраўленне выведкі Міністэрства абароны Украіны адхрысцілася ад «праваленай яўкі». Маўляў, Шаройка сапраўды «праходзіў службу ў ГУР МА Украіны на пасадзе начальніка прэс-службы», але ў 2009 годзе быў звольнены па стане здароўя.

Уся гэтая гісторыя сапраўды нагадвае дрэнна напісаны шпіёнскі раман. У беларускай сітуацыі можна правесці паралелі са «справай Гайдукова», які шпіёніў-шпіёніў, ды недашпіёніў: яго справа са «шпіянажу» перацякала ў «намер шпіянажу», а потым і ўвогуле «без прыкметаў здрады дзяржаве».

Што не так са справай Шаройкі, і чаму яе параўноўваюць са справай Гайдукова?

Шмат хто адзначае, што ў разведках сядзяць не дурні. Дасылаць у ролі «крата» чалавека, які раней публічна працаваў у разведцы, — вяршыня глупства. Што, для шпіянажу не маглі знайсці менш засвечаную асобу?

Пры вобшуку ў Шаройкі, як паведамляе КДБ, знойдзеныя «копіі дадзеных выведкі», якія Шаройка ўжо перадаў свайму кіраўніцтву ва Украіну.

Шпіён захоўваў у сябе копіі ўжо перададзенай інфармацыі? Гэта ці дурасць, ці лухта. Але варта адзначыць, што захоўваць копію скарыстанай інфармацыі, — гэта не па-шпіёнску, але прафесійна па-журналісцку. Ніколі не ведаеш, ці давядзецца «вярнуцца да тэмы» (што ёсць звычайнай практыкай у журналістыцы). І тады копія скарыстанай інфармацыі вельмі прыдасца.

У якасці доказу віны Шаройкі па СТБ паказалі кадры, дзе ён кажа: «У 2016 годзе... мяне перавялі з аддзела, які займаўся журналістамі, якія працуюць пад прыкрыццём, у аддзел, дзе працуюць дыпламаты пад прыкрыццём...»

Магчыма, для чытачоў шпіёнскіх гісторый тыя словы — бальзам на вушы і сапраўды выглядаюць прызнаннем. Але... Хто яго перавёў? Якая структура? Пра выведку — ні слова. Што азначае «пад прыкрыццём»? У журналістыцы таксама шмат прафесійнага слэнгу, і «пад прыкрыццём» можа мець зусім не шпіёнскі сэнс. Асабліва ў расследавальніцкай журналістыцы.

Напрыклад, збірае Шаройка звесткі пра нашумелую сітуацыю: беларускія прадпрыемствы і фірмы гандлююць з сепаратыстамі ЛНР/ДНР. Факт звычайны, я сам бачыў у Радашковічах у продажы цукеркі вытворчасці Луганску. На маю думку, у гэтым няма нічога прыкрага, бо і Украіна з гэтымі тэрыторыямі не толькі гандлюе — нават пенсіі там выплачвае.

Але, зразумела, такія гандлёвыя сувязі наўрад ці магчымыя без пэўных дыпламатычных высілкаў, і, канешне ж, дзелавыя партнёры намагаюцца застацца ў ценю. А журналіст імкнецца раскапаць такія факты. Атрымліваецца, што і Шаройка «пад прыкрыццём», і дыпламаты «прыкрытыя». Можна расцаніць словы Шаройкі такім чынам? Цалкам верагодна.




**Лагічных «дзірак» у справе Шаройкі не менш, чым у справе Гайдукова**

Тым больш, што адразу за «прызнаннем» дыктар кажа: той «не адзін год» працаваў журналістам у Беларусі. І гэта праўда — спачатку кіраўніком карпункта УНІАН, потым — карэспандэнтам украінскага радыё.

Усе замежныя карэспандэнты для працы ў Беларусі атрымліваюць акрэдытацыю Міністэрства замежных спраў. Ці мог айчынны МЗС не ведаць, што Шаройка — былы прэс-сакратар разведкі Украіны? Сцвярджаць, што «не ведалі» — звышнаіўнасць. Ведалі. І, тым не менш, акрэдытацыю яму штогод падаўжалі.

На відэа прадэманстравалі пасведчанне Шаройкі ў якасці палкоўніка ўкраінскай выведкі. Бачна, што выдадзена яно ў «березні» (па-нашаму, у маі) 2004 года. Але не паказаны тэрмін заканчэння дзеяння дакумента.

Ці дзейснае яно і зараз? У мяне на гэты конт вялікія сумневы. Хаця б таму, што з таго часу ва Украіне змяніліся чатыры прэзідэнты і адбыліся дзве рэвалюцыі (Памаранчавая напрыканцы 2004-га і Рэвалюцыя Годнасці 2014-га). Так што, хутчэй за ўсё, гэтыя «корачкі» — не больш чым сувенір і памяць пра маладосць.

Карацей, лагічных «дзірак» у справе Шаройкі не менш, чым у справе Гайдукова. І выглядае гэта на тое, што журналіст стаў ахвярай нейкай іншай, больш глыбокай палітычнай гульні.

Некаторыя аналітыкі сцвярджаюць, што арышт Шаройкі — спроба сапсаваць імідж Беларусі перад самітам «Усходняга партнёрства» ў Брусэлі: псуецца наш «імідж міратворцы». Кіраўнік аналітычнага праекта «Belarus Security Blog» Андрэй Паротнікаў згадвае, што ўлетку ва Украіне быў затрыманы беларускі шпіён — і гэта можа быць нашым адказам на дзеянні ўкраінскіх спецслужбаў. Бачаць у гэтай сітуацыі і «руку Масквы», якой хочацца пасварыць Беларусь і Украіну.

Зараз Беларусь параўноўваюць са Швейцарыяй. Але, на жаль, не па ўзроўню жыцця ці грамадзянскіх свабодаў. А таму, што ў гэтай нейтральнай краіне падчас Другой сусветнай вайны пасвіліся ўсе разведкі свету. І наўрад ці такі імідж нам на карысць.

# Беларусь абмінуў другі Чарнобыль?

**У выніку магчымага выкіду радыяцыі пад расійскім Чалябінскам у верасні-кастрычніку радыеактыўнае воблака прайшло над Браславам і Пінскам, але радыяцыйнага забруджвання тэрыторыі Беларусі не адбылося.**

Павышаныя канцэнтрацыі рутэнію-106 выявілі ў Аўстрыі, Францыі і Германіі напачатку кастрычніка. Паводле справаздачы МАГАТЭ ад 10 кастрычніка, у канцы верасня і пачатку кастрычніка рутэній-106 быў знойдзены ў атмасферы шэрагу еўрапейскіх краін.

Французскае ўпраўленне радыяцыйнай абароны IRSN прыйшло да высновы, што падобныя наступствы мог пацягнуць выкід рутэнію-106 на ўзроўні 100–300 тэрабекерэляў (ТБК), які адбыўся ў апошні тыдзень верасня. Рутэній-106 — гэта прадукт дзялення, які змяшчаецца ў адпрацаваным ядзерным паліве, яго перыяд паўраспаду складае крыху больш за год (374 дні). Нямецкае ведамства па радыяцыйнай абароне ўказала на тое, што крыніца радыеактыўнага матэрыялу, хутчэй за ўсё, знаходзіцца на Паўднёвым Урале.

Расійская атамная манаполія «Расатам» адмаўляла расійскае паходжанне забруджвання. Але на просьбу «Грынпіс» Расгідрамет апублікаваў на сваім сайце справаздачу «Аб аварыйным, экстрэмальна высокім і высокім забруджванні навакольнага асяроддзя на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі ў перыяд з 6 па 13 кастрычніка 2017 года». Ведамства прызнала, што з 25 верасня да 1 кастрычніка перавышэнне радыяцыйнага фону ў атмасферы фіксавалі ўсе пасты, размешчаныя на Паўднёвым Урале, экстрэмальна высокае забруджванне адзначалася ў пунктах вымярэння ў сяле Аргаяш і пасёлку Навагорны (перавышэнне фону папярэдняга месяца ў 986 і 440 разоў адпаведна), размешчаных паблізу ад горада Азёрскі, дзе знаходзіцца атамнае вытворчае аб'яднанне «Маяк». Прадпрыемства займаецца вытворчасцю кампанентаў ядзернай зброі, захаваннем і перапрацоўкай адпрацаванага радыеактыўнага паліва.

У Расгідрамеце патлумачылі, што перанос паветраных мас і забруджвальных рэчываў з Паўднёвага Урала ў раён Міжземнамор'я і на поўнач Еўропы адбыўся з-за шырокага антыцыклону.

Першы намеснік начальніка Белгідрамету Марыя Германчук пракаментавала паведамленні пра магчымы выкід радыяцыі пад Чалябінскам. «Мы паведамлялі, што 3–5 кастрычніка ў Браславе і Пінску мы бачылі рутэній-106. Гэта ўжо час прайшоў. Сітуацыя была і тады не вельмі цяжкая, а цяпер яна ўжо зусім нармальная. Забруджвання тэрыторыі Беларусі не было», — запэўніла прадстаўніца Белгідрамету.

Прэс-сакратарка Міністэрства прыроды Алена Меляшкова паведаміла, што расійскія ўлады афіцыйна не інфармавалі пра выкіды рутэнію пад Чалябінскам. «У Мінпрыроды не паступала інфармацыі пра выбухі ці аварыйныя сітуацыі на расійскіх аб'ектах. Існуе сумесная беларуска-расійская праграма, згодна з якой мы павінны папярэджваць адзін аднаго пра нейкія надзвычайныя сітуацыі», — сказала прадстаўніца Мінпрыроды.

**Паводле РБК, Радыё «Свабода»**

# Лягуць пад бульдозеры, але знесці садок не дадуць

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Змаганне жыхароў вуліцы Данілы Сердзіча з чыноўнікамі за дзіцячы садок і парк працягваецца.**

Кіраўнік адміністрацыі Фрунзенскага раёна Арцём Мікалаевіч Цуран зрабіў выязную сустрэчу з жыхарамі вуліцы Данілы Сердзіча ў Мінску. Людзі не згодныя з рашэннем Адміністрацыі знесці былы дзіцячы садок і пабудаваць на яго месцы гарадское аддзяленне міліцыі.

У маленькай зале ЖЭС Фрунзенскага раёна было душна і цесна. Людзі выстраіліся нават на калідоры.

Кіраўніка адміністрацыі раёна сустрэлі словамі: «Хопіць пераліваць з пустога ў парожняе!» Арцём Цуран прапанаваў было паразмаўляць з кожным «у прыватным парадку ў асобным кабінеце», але пачуў у адказ: «Мы хочам адкрытасці і шчырасці!».

Амаль паўтара гады жыхары вуліцы Данілы Сердзіча змагаюцца за «адкрытасць і шчырасць». Людзі не могуць пагадзіцца з зацверджаным адміністрацыяй Фрунзенскага раёна планам аб зносе былога дзіцячага садка і вырубцы адзінага парку ў мікраараёне.

Мясцовы актывіст Дзяніс Тушынскі кажа, што кіраўнік Адміністрацыі сам прапанаваў жыхарам сустрэцца. Але за паўтара гады барацьбы за зялёную тэрыторыю выйграных боек амаль няма. «Аднойчы з намі сустрэўся мясцовы дэпутат, але прайшло ўсё безвынікова. А так — адны адгаворкі і адпіскі», — падсумаваў Дзяніс.

Жыхары найперш бунтуюць супраць зносу дзіцячага садка. Бацькі кажуць, што возяць сваіх дзяцей у садок у раён Каменнай Горкі, бо ва ўласным мікраараёне групы перапоўненыя, і дзяцей у іх проста не бяруць.

Другая прычына, па якой мітынгуюць жыхары кварталу, — экалагічная. Ацэнка стану навакольнага асяроддзя, якая была выканана ў межах дзяржаўных праграм «Прыродныя комплексы» і «Экалагічная бяспека», паказала, што экалагічная сітуацыя ў раёне адносна неспрыяльная. А гэта азначае не толькі тое, што жыхары раёна дыхаюць забруджаным паветрам, але і тое, што рызыка нараджэння дзетак з рознымі захворваннямі павялічваецца.

Таму народ на сустрэчы ставіў перад чыноўнікамі канкрэтнае пытанне: калі тыя адмовяцца ад забудовы? А большая частка жыхароў нават не ведала, што за аб'ект плануецца пабудаваць на месцы пасаджаных рукамі жыхароў мікраараёну дрэў.

А чыноўнікі зачыталі рашэнне адносна пабудовы, у якім сказана, што на месцы знесенага былога дзіцячага садка плануецца пабудаваць пракуратуру, гарадскі аддзел міліцыі і ўпраўленне ДАІ Фрунзенскага раёна. У дадатак да ўсяго, замест адзінага ў мікраараёне парка плануецца зрабіць стаянку на сто месцаў.

Грамадскі актывіст Дзяніс Тушынскі прадставіў кіраўніку адміністрацыі Фрунзенскага раёна запіс выступу кіраўніка дзяржавы ад 3 кастрычніка адносна забудовы мікраараёну. Лукашэнка параіў чыноўніка «не ісці на канфлікт з насельніцтвам» і «спыніць разбой з высяканнем дрэў».

На такі аргумент Арцём Цуран адказаў, што кіраўнік дзяржавы, маўляў, казаў не забудоўваць мікраараён жыллёвымі пабудовамі. «Не трэба спрачацца з прэзідэнтам!» — закрычалі ў залі.

Пытанне, якое найперш хвалюе мясцовых жыхароў, — якім чынам новыя паркавачныя месцы дапамогуць вырашыць адносна неспрыяльную экалагічную сітуацыю ў мікраараёне?

«На вырашэнне гэтага пытання мы адводзім прыкладна 45% часу. Я разумею, што ўсім хочацца з акенца глядзець на лясок і поле, але ў сталіцы не заўжды такое атрымліваецца...» — адказаў чыноўнік.

«А вы на што глядзіце? — пыталіся абураныя пенсіянеркі. — Сумняваемся, што на голыя шматпавярхоўкі!»

Валерый Міхайлавіч, сівы дзядуля з першага шэрагу, інтэлігентна звярнуўся да чыноўнікаў:

— Вы можаце сказаць шчыра, без пратаколу, проста па-чалавечы: як гэтыя паркоўкі палепшаць сітуацыю ў нашым раёне?

Чыноўнікі на гэта адказ не далі. А кіраўнік адміністрацыі вырашыў працягнуць прыём грамадзян прыватна ў сваім кабінеце.

На прыватную размову да Цурана пайшлі нямногія. Людзей сталага веку цікавіла пытанне капітальнага рамонту і ацяпленне старых дамоў.

А барацьбіты за зялёную тэрыторыю засталіся на калідоры абмяркоўваць свае далейшыя дзеянні.

«Мы не дазволім ім знесці садок! Так, праўда, зараз зіма... Але нічога... Бутэрброды, тэрмасы, шапкі — і наперад, бараніць нашу тэрыторыю!» — кажа Ларыса, якая ўсё жыццё жыве ў гэтым мікраараёне.

«Мы ўжо бачылі план забудовы. А калі план зацверджаны, то будаўніцтва можа пачацца як праз дзень, так і праз год. Але нават калі і пачнецца забудова, то мы будзем бараніць свой мікраараён», — падкрэслівае Дзяніс Тушынскі.

Прынамсі, некаторыя людзі сталага веку паабяцалі, што лягуць пад бульдозер, але не дадуць знесці дзіцячы садок.

# Чарговы штраф для Ніны Багінскай

**Роўна праз месяц пасля «Маршу абураных беларусаў 2.0» суд Першамайскага раёна сталіцы разгледзеў адміністратыўную справу 70-гадовай актывісткі Ніны Багінскай.**

Суддзя Таццяна Ліннік 21 лістапада вынесла пастанову ад прыцягненні актывісткі да адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 50 базавых велічыняў за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. Ніна Багінская на судзе не прысутнічала.

Таксама на 20 базавых велічынь была пакараная актывіста АГП з Акцябрскага Алена Луцковіч. Пратакол правапарушэння па арт. 23.34 КаАП быў складзены 9 лістапада ўчастковым інспектарам Акцябрскага РАУС Дзмітрыем Крумгольцам. 21 кастрычніка Луцковіч выйшла на «Марш абураных беларусаў 2.0» з плакатам «Беларуская армія — серыйны забойца».

28 лістапада суд Савецкага раёна Мінска пачне разгляд адміністратыўнай справы ў дачыненні да актывіста Беларускага нацыянальнага кангрэсу Арцёма Бабка таксама ў за ўдзел у акцыі 21 кастрычніка. Пачатак судовага пасяджэння ў 10-15.

За месяц, які прайшоў з моманту правядзення «Маршу абураных беларусаў-2.0», суды пакаралі арыштамі альбо штрафамі больш за 20 удзельнікаў акцыі пратэсту 21 кастрычніка з розных гарадоў Беларусі.

**Паводле spring96.org**

# «Ушаноўваючы памяць удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну, мы жывём як нацыя»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Адказны сакратар Сойму КХП-БНФ Алесь Чахольскі запрашае ўсіх, каго хвалюе лёс Беларусі, адзначыць 26 лістапада ўгодкі Слуцкага збройнага чыну.**

Заўнікі 20 лістапада атрымалі дазвол ад Мінскага аблвыканкама на правядзенне акцыі. Удзельнікі акцыі праедуць на аўтобусе па маршруце Грозаў — Семежава — Вызна — Слуцк. У вёсках Капыльскага раёна Грозаве і Семежаве мітынгі запланаваны на 11 і 12 гадзін адпаведна, у мястэчку Вызна Капыльскага раёна мітынг пачнецца каля 13.30. Пасля ўдзельнікі святкавання накіруюцца ў Слуцк, дзе а 15-й гадзіне на пляцоўцы гарадскога парка адбудзецца яшчэ адзін мітынг. Арганізатары спадзяюцца, што сёлета на акцыю ў Слуцку збярэцца большая колькасць людзей, чым у мінулыя гады.

Алесь Чахольскі зазначыў, што гістарычна Слуцкі збройны чын з'яўляецца агульнанацыянальнай падзеяй, якая яшчэ да канца не ацэнена.

«Нашы беларусы вельмі рахманыя і цярплівыя, іх цяжка зрушыць на ўзброеную барацьбу, — гаворыць Чахольскі. — А гэта быў той учынак, падчас якога случчане сцвердзілі рашучасць змагацца за сваё: за сваю маёмасць, зямлю, культуру і мову. У большасці сваёй гэта былі простыя людзі, якія зразумелі галоўныя нацыянальныя каштоўнасці і сталі войскам БНР. Для іх было зразумела, што калі прыйдзе чужынец, то не будзе ні зямлі, ні волі».

Палітык лічыць, што з тых часоў у нашай краіне мала што змянілася.

«На жаль, многія яшчэ не разумеюць, што вузкае змаганне толькі за правы чалавека і дэмакратыю не можа прынесці аніякага поспеху. Калі нацыя прыніжана і згвалтавана яе беларуская душа — гэта значыць, што фактычна яна жыве пад акупацыяй. У акупаванай дзяржаве чалавек не зможа мець паўнавартасных правоў, і на першую лінію барацьбы трэба высоўваць барацьбу за сапраўдную Незалежнасць, барацьбу за сваё», — выказаў сваю думку Алесь Чахольскі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Без аркестра

Сяргей САЛАЎЁЎ



Фота www.pravoslavie.ru

**Аляксандр Рыгоравіч на тыдні адрэпетаваў сваю навагоднюю прамову перад народам. Гэтая прамова будзе поўная надзеяў, але, як заўжды, нам не скажуць, за кошт чаго гэтыя надзеі будуць увасабляцца ў жыццё. А таму лагічна было б завяршыць яе словамі: «І хай дапаможа нам Бог».**

Толькі так можна расцаніць нараду ў кіраўніка дзяржавы па эканамічных пытаннях. Самы галоўны яе вынік — тое, што да Новага года «па пяцьсот» не будзе. І ў студзені 2018-га не будзе па пяцьсот.

Праўда, як заўсёды, знайшліся аб'ектыўныя фактары. Паводле меркавання Лукашэнкі, у студзені прычына не атрымаюць такі заробак праз «вялікую колькасць выходных». І ў лютым таксама не атрымаюць з той жа прычыны. І ўвогуле, «вялікая колькасць выходных» скончыцца толькі ў II квартале 2018 года, калі «мы павінны ўжо пераўзыходзіць 1000 рублёў хоць крышачку».

Ну а там знойдуцца яшчэ прычыны — вясна, дрэннае (ці, наадварот, добрае) надвор'е або проста не складуцца зоркі...

Увогуле, як сказаў на нарадзе беларускі правадыр, за 2018 год трэба будзе «выйсці на траекторыю» выканання абяцанняў на «пятую пяцігодку».

Па-першае, узнікае пытанне, што ж мы рабілі два з паловаю гады пасля прэзідэнцкіх выбараў. Па-другое, калі мы і выйдзем на траекторыю, дык што будзе? «Выканаць пяцігодку за два гады» — як у часы ваеннага камунізму?

Пры гэтым Аляксандр Рыгоравіч, напэўна, усё ж зразумеў, што ВУПам людзей не накорміш. І задаўся пытаннем, чаму пры росце гэтага ВУП не растуць даходы насельніцтва. «Я не настойваю на тым, каб гэта быў завоблачны рост — прымальны рост, і ён вызначаны», — адзначыў кіраўнік дзяржавы. І зноў запытаў: «У сувязі з гэтым што мы мяркуем у гэтай частцы на 2018 год?» Пра тое, як адказалі Лукашэнку на гэтае пытанне, не паведамляецца.

А што тут адкажаш? Усе ведаюць, што наш ВУП лічыцца ад выпрабленай, а не ад прададзенай прадукцыі. ВУП можа расці і на 10%, і на 20%, але калі гэтую прадукцыю прадаць не здолелі, то, зразумела, і грошай не атрымалі. А калі не атрымалі грошай — адкуль заробак?

Дарэчы, узгадаем, што ім жа самім планка заробку была пастаўленая не толькі ў 1000 рублёў на канец 2017 года. Але і 1500 рублёў цягам 2018-га. Нават калі мы раптам «скокнем» у II квартале 2018-га да тысячы, ці атрымаецца вылезці на 1500 у IV квартале, напрыклад?

Дый за што плаціць такі заробак? А галоўнае — каму? Нават Аляксандр Рыгоравіч заўважыў, што, хоць урад і кажа пра стварэнне новых працоўных месцаў (50 тысяч на год, як і думалі па плане), колькасць звольненых перавышае колькасць прынятых на працу амаль на тыя ж самыя лічбы (43 тысячы з пачатку года). За 5 гадоў Беларусь страціла 300 тысяч працоўных.

Гэта ўжо не лечыцца. Гэта азначае, што эканоміцы патрэбнае сур'ёзнае хірургічнае ўмяшанне, комплексны рамонт. І загадамі-прыпаркамі праблему не вырашыш.

Як ілюстрацыі да хранічнай хваробы эканомікі на тыдні прыйшлі дзве навіны. Па-першае, паводле дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, рынак нерухомасці ў Мінску расце трэці месяц запар. Больш за тое, расце і рынак загараднай нерухомасці Мінскай вобласці. Пры гэтым, рост адносна 2016 года ідзе з нарастаючай прагрэсіяй. Калі жнівень 2017 года апярэдзіў жнівень 2016 года ўсяго на 2,3%, то верасень — ужо на 6,2%, а кастрычнік — на 19,4%.

Па-другое: Камітэт дзяржкантролю ацаніў становішча будаўнічай галіны краіны як вельмі цяжкае: сітуацыя ў будаўніцтве далёкая ад прымальнай і кажа пра набліжэнне сістэмнага крызісу галіны. «Вельмі складанае становішча прадпрыемстваў будаўнічай галіны: 38% арганізацый стратныя. Такога ніколі не было», — цытуе БелТА старшыню КДК.

Як такое можа быць? Людзі актыўна набываюць кватэры і будуюць дамы, а будаўнічая галіна — на парозе крызісу, стратныя больш за трацiна прадпрыемстваў. Гэта значыць, у сістэме трэба нешта мяняць...

І яшчэ адна цікавая навіна. Памятаеце, да 1 кастрычніка Аляксандру Рыгоравічу павінны былі пакласці на стол чарговую версію дэкрэта аб дармаедах? Прайшло паўтара месяцы. І кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Качанава кажа: «Цяпер мы рыхтуем і практычна заўтра ўнясем новую канцэпцыю дэкрэта №3. Мы аналізуем гэтую сітуацыю, яна сапраўды сур'ёзная».

Калі б дэкрэта №3 не было — яго трэба было б выдумаць. У мінулым нумары мы згадвалі, што над ім працуе безліч чыноўнікаў, якія за гэта атрымліваюць заробак. Працуюць, як высвятляецца, без істотнага выніку, гатовыя «дапрацоўваць», «удакладняць» і «паляпшаць» яго бясконца. Звярніце ўвагу: Качанава не сказала, што «практычна заўтра» ўнясе новы, распрацаваны дакумент. Гэта будзе толькі «канцэпцыя».

Што ж, Аляксандр Рыгоравіч, які здзіўляецца, чаму ВУП расце, а заробкі — не, «заўтра», калі Качанава пакладзе яму на стол «канцэпцыю», ва ўсім пераканаецца сам. Бо праца над гэтымі паперамі — таксама чалавека-гадзіны, якія залічваюцца ў ВУП. Але ў дадзеным выпадку гэты ВУП бессэнсоўны і безвыніковы.

Ды што там казаць пра ВУП, калі ў нас не ўмеюць лічыць грошы нават у тым ведамстве, якое павінна рабіць гэта прафесійна! Дэпутатка Ганна Канапацкая запыталася ў Міністэрстве па падатках і зборах, колькі дзяржаўных грошай пайшло на абслугоўванне Дэкрэта №3. Але ў афіцыйным лісце з міністэрства ёй адказалі, што... асобнага радка ў дзяржаўных выдатках на «дэкрэт аб дармаедах» не ўводзілі. А паштовыя выдаткі на рассылку «лістоў шчасця» падатківікі аднеслі да агульнай сумы выдаткаў паводле артыкула «Аплата паслуг сувязі».

Між тым, адзначае Канапацкая, толькі рассылка 400000 заказных лістоў з паведамленнем «дармаедам» каштуе 1296000 рублёў (каля 648000 долараў ЗША). А цяпер бюджэтныя рэсурсы выдаткоўваюцца і на вяртанне выплачаных сум па дэкрэце №3 некаторым катэгорыям грамадзян. «Гэта ўсё, што трэба ведаць пра тое, як размяркоўваюцца нашы з вамі грошы, сабраныя ў выглядзе розных падаткаў і збораў, якія маглі пайсці, напрыклад, у дзіравы фонд сацыяльнай абароны, на развіццё аховы здароўя ці адукацыі», — напісала ў фэйсбуку Ганна Канапацкая.

Калі ўжо ў Міністэрстве па падатках і зборах не могуць палічыць грошы, дык што казаць пра астатнія ведамствы?

Зразумела, што ў такой сітуацыі надалей спадзявацца давядзіцца толькі на Божую ласку.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ігар Комлік



**Бухгалтар прафсаюза РЭП, фігурант «справы прафсаюзаў» больш за месяц дамагаецца ад следчых вяртання пашпарта.**

«Расследаванне справы працягваецца, прыкладна раз на тыдзень выклікаюць на допыт, — распавядае Ігар Комлік. — Але асабіста ў мяне цяпер крыху іншая праблема — мне дагэтуль не вярнулі пашпарт, які знаходзіцца ў следчых. Калі мяне затрымлівалі, забралі і пашпарт, але, як бачым, вяртаць не спяшаюцца. Хоць раней казалі, што, маўляў, аддамо дакумент у любы момант, калі той спатрэбіцца».

Паводле бухгалтара прафсаюза РЭП, адсутнасць дакумента дадае шмат праблем. «Не магу атрымаць банкаўскую картку, каб пералічыць заробак, прайсці абследаванне ў бальніцы, якая знаходзіцца не па месцы жыхарства, — кажа ён. — Прашу следчага: «Аддайце пашпарт!» У адказ — цішыня. Я ўжо нават з гэтай нагоды адмысловы ліст напісаў — можа, гэта дапаможа. Праўда, не афармляў яго ў канцылярыі, а аддаў непасрэдна ў рукі следчага. Адным словам, сітуацыя дзіўная і ў пэўным сэнсе абсурдная. Нічога не гавораць, калі аддадуць дакумент, і той жа момант праблема не вырашаецца».

Нагадаем, што Ігар Комлік утрымліваўся пад вартай з 2 жніўня ў межах крымінальнай справы, узбуджанай супраць яго і старшыні прафсаюза РЭП Генадзя Фядыніча паводле ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса РБ (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры). Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне да 7 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Праваабаронцамі Ігар Комлік быў прызнаны палітычным зняволеным. 2 кастрычніка ён быў вызвалены з СІЗА пад падпіску аб нявыездзе.

## Міхаіл Мясніковіч



**Былы беларускі прэм'ер, а цяпер — старшыня Савета Рэспублікі, выступіў з незвычайнай і звышліберальнай ініцыятывай.**

На дакладзе Аляксандру Лукашэнку 21 лістапада Мясніковіч прапанаваў увесці падатковую аўтаномію рэгіёнаў у Беларусі. Больш за тое, ён запэўніў, што гэтую ідэю падтрымліваюць і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, і чальцы Савета Рэспублікі.

«У абласцей мусяць быць заканадаўчыя гарантыі, што звышпланавыя даходы мясцовых бюджэтаў не абумоўяць адпаведнае зніжэнне планавых датацый рэспубліканскага бюджэту. Тэма не новая, але рашэнні не прынятыя. Ніякіх пагроз рэспубліканскім інтарэсам такая прапанова не нясе, а стымулы рэгіёнам дасць аднназначныя», — патлумачыў сваю пазіцыю старшыня Савета Рэспублікі.

Ён лічыць, што актуальнасць гэтай прапановы ўзрастае. «На 2018 год па асноўных падатковых даходах, а гэта падаткі на тавары і паслугі, якія складаюць ільвіную долю ад сукупных даходаў, мясцовым бюджэтам прапануецца пакінуць крыху ніжэй, чым у 2017 годзе», — дадаў Мясніковіч.

## Вікторыя Азаранка



**Знакамітая беларуская тэнісістка дала зразумець пра новы тэрмін вяртання на корт. Магчыма, гэта адбудзецца ў студзені 2018 года.**

Паводле звестак арганізатараў турніру ў новазеландскім Оклендзе, які пройдзе з 1 па 6 студзеня 2018 года, Вікторыя Азаранка можа згуляць на ім, паведамляе суполка фанатаў Азаранкі ў сацсетцы «ВКонтакте».

Згуляць у Оклендзе Азаранка зможа дзякуючы wild card ад арганізатараў. Цяпер беларуска займае 205-е месца ў рэйтынгу WTA, што не дазваляе ёй наўпрост трапіць у асноўную сетку спаборніцтваў.

Канчатковы спіс удзельнікаў турніру ў Оклендзе не зацверджаны. На цяперашні час пацверджаны ўдзел Караліны Вазняцкі, Агнешкі Радваньскай і дзеючай чэмпіёнкі Лорэн Дэвіс.

Азаранка планавала вярнуцца на корт у гэтым годзе пасля нараджэння дзіцяці. Аднак яе бойфрэнд вырашыў адабраць у яе сына. З-за гэтага Азаранка не змагла гуляць на турнірах, бо не можа пакідаць «месца прапіскі» — Каліфорнію. Зараз тэнісістка чакае рашэння суда наконт апекі над яе сынам і спадзяецца, што гэтае рашэнне дасць ёй магчымасць падарожнічаць па турнірах з дзіцем.

# Алесь Яўдаха: «Сучасны чалавек мае выбіраць паміж кнігай і фэйсбукам»





Алесь КІРКЕВІЧ

**Пра асобу Алеся Яўдахі, чарговага фігуранта «Справы патрыётаў», мы ўжо распавядалі на старонках НЧ, калі яшчэ сам Алесь знаходзіўся за кратамі. Гэта былі і сведчанні яго сяброў — футбольных заўзятараў, літаратараў ды журналістаў. Сёння ж дазволім герою распавесці пра сябе ад першай асобы.**

Раней Алеся ведалі ў краіне як кнігараспаўсюдніка і арганізатара першага ў краіне сайту для продажу беларускай літаратуры — knihi.by. Увесну следчыя арыштавалі яго разам з іншымі фігурантамі «Справы патрыётаў» — жыццё зрабіла новы круты паварот. У размове Алесь раскрываецца: за стрыманым і нешматслоўным фасадам бачныя шляхетнасць, інтэлектуальная глыбіня, жывыя пачуцці і гумар.

Чаму Алесь гадамі займаецца продажам беларускай літаратуры і як глабальна бачыць перспектыву кнігі ў сучасным лічбава-віртуальным свеце? Што такое «інфармацыйная гігіена»? За якую кнігу, з ліку апошніх айчынных навінак, аўтарам варта было б паставіць прыжыццёвы помнік?

Пра гэта ды шмат што іншае — у матэрыяле ніжэй.

## У 1990-я ўсмоктваў беларушчыну як губка

***— Грамадскасці ты больш вядомы праз свой кніжны бізнес. Якім быў твой шлях да беларускай кнігі?***

— Пасля школы паступіў у тэхнікум, пачаў больш у горад выбірацца са сваіх «Курасоўшчынаў». Пад'ём быў, вулічныя акцыі 1990-х гадоў — мяне гэта шчыра захапіла. Тады шмат інфармацыі з'яўлялася, гістарычных публікацыяў, я ўсё гэта як губка ўсмоктваў. Прыйшоў да ўсяго цалкам самастойна, у пэўны перыяд для мяне гэта адкрылася, а я адчуў гэта сваім. Так я і сфармаваўся чалавекам і беларусам.

То бок, спачатку была цікавасць да беларушчыны, пасля — бачанне, як яе можна пашырыць. Было гэта яшчэ ў даінтэрнэтаўскую эпоху, таму адзінай магчымасцю былі кнігі. Я і зараз лічу, што гэта выдатны адукацыйны спосаб. Магчыма, не варта называць гэта бізнесам у чыстым выглядзе — гэта сацыяльны праект, які можа быць самаакупным.

***— Праз цябе праходзіць безліч літаратуры. Ці была калі скруха, што тая ці іншая кніга пабачыла свет па-беларуску?***

— Ды не, нават кепскія кніжкі могуць несці глабальна станоўчы пасыл. Разумны чалавек у любой кнізе знойдзе нейкую карысць. Гэта як жывая і мёртвая вада, прадукт мае быць разнастайны, хай будзе магчымасць для параўнання, чаму не? Часам нейкая неважнецкая кніга мусіць з'явіцца хаця б для таго, каб людзі пабачылі, як не трэба пісаць ці выдаваць *(смяецца)*.

***— Якіх аўтараў вылучаеш асабіста для сябе?***

— У маладзейшым узросце Караткевіч, безумоўна. З сучасных падабаецца Юры Станкевіч і Сяргей Дубавец. З замежных цікавыя Габрыэль Гарсія Маркес, Кормак Маккарці.

## «Кніга вяртаецца да сваёй элітарнай нішы»

***— Ты працуеш з айчынным пакупніком, дык што ў нас карыстаецца попытам, а што не?***

— Аб'ём маёй дзейнасці знаходзіцца ў межах статыстычнай хібнасці, таму цяжка рабіць універсальныя высновы. Аб'ём кніг, якія праходзяць праз мяне, на агульным тле зусім не вялікі. Ёсць магчымасць для пашырэння, але сучаснае жыццё цалкам забівае асабістую інфапрастору чалавека, і калі кніжкі раптам знікнуць — глабальнай трагедыі не адбудзецца. Інфармацыйнага голаду чалавек не адчуе.

Ёсць фэйсбук, «УКантакце», таму паспалітаму чалавеку з вуліцы заўжды будзе што пачытаць: чытання там бездань. З іншага боку, магчыма, гэта і заканамерна: пасля агульнага падвышэння ўзроўню адукацыі, рыўка, які адбыўся ў XX стагоддзі, кніга зноў вяртаецца да сваёй элітарнай нішы. Працэс цалкам натуральны. Магчыма, усеагульная пісьменнасць гістарычна і не была абавязковай. Бальшавікі яе наўпрост выкарысталі, каб тлуміць галаву людзям: для патрэбаў сваёй прапаганды.

***— За савецкім часам людзі сапраўды чыталі надзвычай шмат: «Ціхі Дон», розныя горкія і сіманавы... Зараз чалавека нестае і на танюткую кніжку, не кажучы пра шматтомнікі. У чым сакрэт?***

— Інфармацыйныя плыні былі не такія насычаныя. Тэлевізара было не так шмат, чалавек пасля працы ці вучобы мог спакойна прысесці і пачытаць. Цяпер жа нашая ўвага разбіваецца між безліччу раздражняльнікаў. Нават у метро на цябе валіцца і візуальная рэклама, і аўдыё, а зараз яшчэ і відэа! Чалавек у такім стане не можа адчуць інфармацыйнага голаду: у гэтым сэнсе ён увесь час «нагадаваны ад пуза», няхай і «фастфудам»... Сесці і пачытаць кніжку — гэта ўжо нейкі чын: трэба высілкам волі сваю інфармацыйную прастору вызваліць для чытання.

Мы наўпрост захлынаемся сярод інфараздражняльнікаў, большасць з якіх нам абсалютна не патрэбныя, не робяць нас лепшымі ці разумнейшымі. Магчыма, «матрыца» нас гэтак трэніруе, залівае мазгі, каб мы не думалі пра нешта важнае. Зноў жа, падзяляецца ўвага: чалавек нават па аб'ёме інфармацыі не можа ўспрымаць нешта большае за твіт ці пост у фэйсбуку. Тры радочкі прачытаў — і хопіць, далей ніхто не лезе. Таму патрэбна нешта кшталту інфармацыйнай гігіены.

***— А як трымацца «інфармацыйнай гігіены»? Патрэбныя нейкія перазагрузкі свядомасці ці «гадзіны цішыні» без тэлефона, сацсетак і іншага?***

— Не глядзець тэлевізар, па-першае. Мінімізаваць сацсеткі. Часцей быць сам-насам з сабой. Больш часу аддаваць чалавечым дачыненням у офлайне, замест анлайну. Бо раней ці пазней, у іншым разе, замяніўшы рэальных сяброў віртуальнымі, можна дайсці да таго, што камунікаваць будзеш толькі з нейкімі ботамі. Што тады? Рэальнае гэта жыццё ці імітацыя жыцця?.. Так і ператворымся ў персанажаў камп'ютарнай гульні. Хаця, хто



Падчас выправы на байдарках — на першым плане Сяргей Дубавец

ведае, мо’ мы ўжо імі і ёсць? *(смяецца)*.

### «Можна прадаваць мабільнікі ці апоны, але…»

***— Ад глабальнага вернемся да лакальнага. Усё ж такі, чым яшчэ можна зачапіць нашага чытача: якасная прозай, гістарычнай літаратурай, перакладамі замежнікаў?***

— Людзі рэагуюць на тое, што добра рэкламуецца.

***— А як рэкламаваць кнігу? Білбордамі ды флаерамі?..***

— Ёсць такі паспяховы аўтар — Віктар Марціновіч. Дык ён з выхаду кожнай сваёй кніжкі стварае падзею! Людзей чапляе дынаміка. На прэзентацыях ён цікава і нетрывіяльна распавядае пра напісанае. Ён прысутнічае ў інфармацыйнай прасторы, дзякуючы сваім публікацыям і калумністыцы — рэкламуе сам сябе. Таму ягоныя кніжкі цудоўна прадаюцца! Гэта прыклад удалага маркетынгу, калі аўтар сам сябе раскручвае. Бо ёсць шмат вартых аўтараў, якія праз адсутнасць раскруткі і няўменне паказаць сябе застаюцца ў цені.

***— А выдаўцы не маюць займацца рэкламай?***

— Выдаўцы, на жаль, не займаюцца гэтым ці займаюцца мінімальна. Яны выжываннем займаюцца… Таму ў нас і нармальнага літаратурнага ды выдавецкага працэсу няма. Выдаўцы, як любы суб’ект гаспадаркі, больш занятыя лагістыкай і тэхнічнымі момантамі, чым рэкламай кагосьці.

***— Вяртаючыся да пытання бізнесу: кніжны гандаль — гэта бізнес ці гуманітарная місія? Бізнес жа прыбытак прадугледжвае… Дык можа лепей дапаможнікі для тэставанняў ці жаночыя раманы па-руску прадаваць?***

— Сістэма нас хоча пераканаць у тым, што жаночыя раманы і дапаможнікі выдаваць выгодней. Але калі мы хочам жыць у сваёй краіне, рабіць гэтую краіну лепшай і зручнейшай для сябе, нам трэба ўсё гэта адваёўваць. Таму мы маем выдаваць свае кніжкі, якія самі лічым цікавымі, якія могуць быць карыснымі для нашых дзяцей. Зразумела, каб зарабіць, можна прадаваць мабільныя тэлефоны ці аўтамабільныя апоны, але тады мы будзем змушаныя чытаць кніжкі па-руску.

***— А пасля па-кітайску…***

— А пасля — як пашчасціць *(смяецца)*. Можа і так. Наогул, любую справу можна зрабіць бізнесам. Сёння кніжны гандаль — гэта місія, сацыяльны праект, які, у ідэале, сам сябе акупляе. Ёсць розныя фактары: тая ж рэклама, ганарарныя патрэбы аўтараў, перамовы выдаўцоў з замежнікамі наконт аўтарскіх правоў, шмат нюансаў. Ясна, калі ты выдаеш кнігі накладам 10–20 тысяч асобнікаў — гэта адзін сабекошт. Калі ж у нашых рэаліях 500 асобнікаў лічацца добрым накладам, а 1000 выдатным… зарабіць на гэтым складана.

### Кнігі па-беларуску застаюцца ў Мінску

***— Што мае адбыцца, каб нашы кніжкі выходзілі накладамі па 10 тысяч?***

— Трэба рынак стварыць і зацікаўленасць. Трэба ўсім зацікаўленым асобам выпрацаваць праграму і паступова яе рэалізоўваць. Ясна, што калі ў нас дзяржава займае дамінантную ролю, добра, каб гэтым занялася менавіта дзяржава. Дзяржаўныя сеткі крамаў дамінуюць, але беларускую літаратуру распаўсюджваюць слаба. «Белкніга» мае філіялы па ўсёй краіне, але кнігі на роднай мове чамусьці пераважна застаюцца ў Мінску.

***— Чаму?***

— Гэта пытанне для «Белкнігі» ды яе маркетолагаў.

***— Магчыма, яны лічаць, што па-за межамі сталіцы яно не прадаецца?***

— Магчыма, але зноў жа — выбар мае быць у людзей. Можна не даваць у рэгіёны шалёную колькасць, але даваць трэба ўсё роўна, каб чалавек меў магчымасць купіць беларускую кнігу. Наколькі я ведаю, «Кнігазбор» возіць свае кніжкі па краіне сам. Я цікавіўся кнігай «Краіна Беларусь», пры тым, што яе бярэ на рэалізацыю «Белкніга», яна слаба трапляе па-за межы МКАДу. Хочаш, каб трапіла ў нейкі раённы горад, — ногі ў рукі і вязі!..

***— Дарэчы, якая кніга з выдадзеных апошнім часам найбольш уразіла?***

— «Айчына» Арлова і Татарнікава. За такія кнігі помнік аўтарам трэба пры жыцці ставіць! У гістарычным сэнсе, відома, нашым нашчадкам прасцей будзе даць ацэнку, але сёння гэта бачыцца менавіта так. Сыграла тое, на чым заўсёды былі правалы ў нашых выданнях — добры тэкст і добрае афармленне, звязка мастака, аўтара тэксту і зацікаўленага інвестара. Зоркі склаліся — і выйшла выдатная кніга. З апошніх падзеяў гэта самая натхняльная.



**Сістэма нас хоча пераканаць у тым, што жаночыя раманы выдаваць выгодней. Але калі мы хочам жыць у сваёй краіне, рабіць краіну лепшай, мы маем выдаваць свае кніжкі, якія самі лічым цікавымі, карысныя для нашых дзяцей**

### «У паходах злую на сяброў праз тэлефоны»

***— Адыдзем трошкі ўбок ад кніжнай тэмы. З таго, што ведаю, для цябе турызм — гэта цудоўная магчымасць адпачыць ад інфармацыйных плыняў, унутрана «абнуліцца»?***

— Так-так… (смяецца). Мне трэба некуды з’ехаць не менш як на тыдзень, каб пераключыцца. Меней — не працуе. Горы пакуль толькі ў планах, вельмі хочацца, але не атрымліваецца, на жаль. Пакуль самая адпрацаваная схема — гэта сплавы на байдарках па беларускіх рэках.

***— Заходняя ці Усходняя Беларусь?***

**Жыццёвыя прыярытэты ў мяне не змяніліся, бо ў маім узросце прыярытэты і правілы для самога сябе даўно сфармаваліся — змяніць іх ці паламаць не так і лёгка. Усё адно працуем, жывем**



— У мяне няма такога падзелу, бо я з Цэнтральнай *(смяецца)*. Палессе вельмі люблю, тамтэйшыя рэчкі. Магчыма, таму, што яны былі самымі першымі ў жыцці, але ўражанні менавіта адтуль найяскравейшыя. Сцвіга, Убарць тыя ж…

***— То бок, калі з’яўляецца час на адпачынак, найлепшым варыянтам будуць уцёкі з мегаполісу?***

— Час не з’яўляецца сам сабой. Трэба высілкам волі гэты тыдзень-два вырваць з працы і розных клопатаў, якіх заўжды будзе безліч. Матрыца сама цябе не адпусціць на тыдзень — трэба вырвацца, выключыць тэлефон…

***— А як жа сэлфі, фэйсбук?..***

— Не-не… Я злую на сяброў, якія ў паходах тэлефоны не адключаюць *(смяецца)*! Сапраўды, а для чаго ж тады ехаць?

***— Узімку таксама ходзіце?***

— Гэта ўжо складаней. Трэба адмысловая падрыхтоўка — і паплечнікаў у такіх паходах адразу менее. Таму — лета, восень. Увосень выбіраемся з сябрамі на Блакітныя азёры — гэта ўжо традыцыя. Алесь Юркойць, на жаль, пакуль адлучаны ад гэтых вандровак, Сяргей Дубавец у сямейных справах, яму цяжка вырвацца. Старая каманда, такім чынам, адышла ў гісторыю, таму хаджу з маладзейшымі — з Севам Сцебуракам тым жа.

### Футбольную пляцоўку знайсці цяжка, алкаголь — проста…

***— Што наконт іншых відаў спорту?***

— У маладосці, як усе нармальныя хлопцы, займаўся ўсім. Хадзіў у безліч спартовых секцыяў: лёгкая атлетыка, бокс, канькабежны спорт, класічная барацьба… Прыходзіць трэнер, усіх запісвае, а ты два месяцы пахадзіў і кінуў *(смяецца)*.

***— Але нешта і засталося?***

— Футбол найперш. Раз-два на тыдзень гуляем з сябрамі. Узімку таксама: пачысцілі пляцоўку ад снегу — і пагналі! Крытую пляцоўку складана знайсці, яны неапраўдана дарагія, школу нейкую шукаць… няпроста. А так — пачысціў поле, і з тэмпературай ад 0 да -5 можна гуляць.

***— Здаецца, ты заўзеў за «Дынама»?***

— Зараз гэта складана: мы ўжо і на стадыёны амаль не ходзім, бо сітуацыя ў беларускім футболе даволі сумная. Паход на футбол — гэта лішнія нервы, трэба ламаць сябе, быць гатовым атрымаць порцыю негатыву і ад самой гульні, і ад антуражу. Прэс праваахоўных органаў, манера праводзіць матчы… усё гэта прыгнятае.

***— Але ж у нашай краіне ці не з кожнай разеткі ідзе прапаганда здаровага ладу жыцця, адкуль складанасці?***

— Здаровы лад жыцця, збольшага, на паперы, дэкларатыўна. Мы, прыкладам, хочам гуляць у футбол, а ў Мінску складана знайсці для гэтага пляцоўку. Усё падштурхоўвае да таго, маўляў, не дуры ты галавы, вазьмі піўка ці гарэлкі, уключы тэлевізар і глядзі «Барселону». Пляцоўку знайсці цяжка, а вось алкаголь набыць надзвычай проста, як гэта патлумачыць?

Калі пра фанатаў, то актыўныя футбольныя заўзятары адрозніваюцца незалежнасцю, спецыфічнай субкультурай — так па ўсім свеце, — але ў нас сістэма баіцца, каб, не дай Божа, не выйшла як ва Украіне падчас Майдану, дзе фанаты адыгралі не апошнюю ролю. Таму ўсе нефармальныя аб’яднанні імкнуцца раскалоць ці ўзяць пад кантроль. А калі не бяруцца пад кантроль — знішчаюць. Фанацкі рух у нас пад прэсам.

***— Добра, але ці ёсць тут рацыянальнае зерне? Сапраўды ж ёсць факты справакаваных фанатамі боек… Дзе мяжа паміж цалкам абгрунтаваным кантролем і бязглуздымі рэпрэсіямі?***

— Мне падаецца, што гэта ўсё перабольшванні. Тую ж бойку можна справакаваць, стварыць інцыдэнты, уводзячы ў супольнасць сваіх людзей, зладзіць правакацыю. Вось вам і падстава для забаронаў і прэсінгу! Карцінка ёсць — паехалі… Фанацкая субкультура даволі самадастатковая, і ніякай глабальнай небяспекі для грамадства і яго спакою яна не ўяўляе — у гэтым я перакананы.

### «У брутальным фінале не бачу сэнсу»

***— Ці паўплывала «Справа патрыётаў» неяк глабальна на тваё жыццё?***

— Падпіска пра нявыезд абмежавала мае перасоўванні ў прасторы — гэта сумна. Жыццёвыя прыярытэты ў мяне не змяніліся, бо ў маім узросце прыярытэты і правілы для самога сябе даўно сфармаваліся — змяніць іх ці паламаць не так і лёгка. Падвешаны стан, у якім перабываю цяпер, зразумела, не падабаецца ані мне, ані маёй сям’і, але гэта дадзенасць. Пакуль змяніць яе не ў маіх асабістых сілах — я яе прымаю, як надвор’е. Усё адно працуем, жывем.

***— Маеш нейкі прагноз па справе?***

— Цяжка абапірацца на нейкія логіку, каб даваць прагнозы. У пачатку справы ж таксама ніякай здаровай логікі не было. Таму — няма прагнозаў. Адзінае, што ў нейкім брутальным фінале я наўпрост не бачу сэнсу — ні для каго.

**Фота з асабістага архіву Алеся Яўдахі**

# Расціслаў Лаўрынюк: «Добраахвотнае донарства органаў ратуе нацыю»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Трансплантацыя органаў ратуе чалавечыя жыцці, але адначасова закранае даволі шырокі спектр праблем. Медыцынскія, этычныя і прававыя аспекты перасадкі органаў хвалююць многіх грамадзян.**

### Ратуючы жыццё

Гісторыя супрацьстаяння Ларысы Паланевіч і айчыннай трансплантalогіі, пра якую пісаў НЧ, сведчыць пра недахопы ў існуючай донарскай сістэме і недавер родных памерлых да трансплантолагаў. Аднак у краіне паступова набірае моц і грамадскі рух, які прапагандуе развіццё гэтай галіны медыцыны ды імкнецца стварыць пазітыўнае стаўленне да донарства органаў.

Паводле дадзеных статыстыкі, зараз у краіне налічваецца некалькі тысяч чалавек, якім выканалі перасадку органаў.

Дырэктар Брэсцкага Міжнароднага цэнтра «Донарства. Дыяліз. Трансплантацыя» Расціслаў Лаўрынюк зацікаўлены ў папулярызацыі добраахвотнага донарства. Адначасова ён з'яўляецца галоўным пазаштатным трансплантолагам Брэсцкай вобласці. Адной з задачай



Расціслаў Лаўрынюк

цэнтру з'яўляецца комплексная падтрымка людзей, якія праходзяць працэдуру гемадыялізу, і людзей, якім перасаджаны ўнутраныя органы.

Медык спачувае гісторыі Ларысы Паланевіч, але выказвае свой погляд на гэты выпадак.

### Жорсткая фіксацыя

«Усе свае дзеянні медыкі павінны былі фіксаваць — асабліва факт смерці чалавека. Дактары робяць усё неабходнае, каб выратаваць чалавеку жыццё. Калі ёсць клінічныя прыкметы смерці мозга — збіраецца першы кансіліум. Гэта стандартная медыцынская працэдура, яна ўваходзіць у абавязкі доктара, які праводзіць лячэнне. Паміж двума кансіліумамі павінна прайсці не менш за 6 гадзін», — кажа Лаўрынюк.

Трансплантолаг падкрэслівае, што праверка на прыдатнасць органаў для трансплантацыі ажыццяўляецца да выняцця органаў — існуе пералік захворванняў, пры якіх яны не могуць быць скарыстаныя. Таксама ажыццяўляецца праверка на імунасумяшчальнасць органаў для перасадкі донара і рэцыпіента. Інфармацыя пра асобу донара, месца правядзення аперацыі і рэцыпіента звычайна захоўваюць у таямніцы.

«З артыкула не зразумела, ці існуюць дакументы, якія пацвярджаюць, што грамадзянцы Украіны выканалі аперацыю праз тыдзень пасля таго, як яна стала ў чаргу, — гаворыць Лаўрынюк. — Мне цяжка рабіць высновы па гэтым выпадку: у артыкуле не пададзеныя многія дакументы, у тым ліку копія пасведчання аб смерці і вынікі пракурорскай праверкі. Я не бачу крыміналу ў аплаце аперацыі грамадзянкай Украіны. Такія аперацыі робяцца бясплатна беларусам, а замежным грамадзянам, калі орган не падыходзіць беларусу, — за грошы».

### Не абавязаныя…

«Палажэнне артыкула 10 Закона аб трансплантацыі грунтуецца на прэзумпцыі згоды на адабранне органаў і тканак чалавека пасля яго смерці — гэта значыць, на здагадцы, што адсутнічае пярэчанне на выкананне медыцынскай акцыі. Прэзумпцыя азначае, што медперсанал не абавязаны высвятляць волю памерлага і яго блізкіх родзічаў, калі на момант забору органаў яны выразна не выявілі свае адносіны да такой аперацыі. Гэтая норма дае медработнікам максімальную ступень свабоды пры вырашэнні пытанняў пра забор органаў і тканак чалавека. Няма ў законе і патрабавання пра абавязковае паведамленне аб заборы органаў родзічам», — кажа Лаўрынюк.

### Міфы трансплантaлогіі

Трансплантолаг настроены катэгарычна супраць некаторых міфаў, якія атачаюць перасадку органаў.

**Міф №1: чалавека могуць «залячыць» спецыяльна, каб яго органы сталі донарскімі.**

«Згодна з заканадаўствам, рэанімацыяй чалавека і заборам органаў займаюцца розныя брыгады. То бок, спецыяліст, адказны за рэанімацыю, не ўдзельнічае ў заборы органаў. Задачай рэаніматолага з'яўляецца вяртанне чалавека да жыцця. Калі здароўю донара або рэцыпіента нанесеная шкода, звязаная з парушэннем умоў і парадку канфіскацыі органаў альбо тканак, альбо ўмоў і парадку трансплантацыі, установа аховы здароўя нясе адказнасць у адпаведнасці з Грамадзянскім кодэксам Беларусі», — кажа Лаўрынюк.

**Міф №2. Калі ў цябе ёсць грошы, ты зробіш аперацыю хутчэй.**



Камерцыйныя аперацыі з донарскімі органамі забароненыя заканадаўствам — гэта артыкул 5 Закона «Аб трансплантацыі органаў і тканак чалавека». Галоўным крытэрам для вызначэння таго, каму будзе перасаджаны орган, з'яўляецца імуналагічны — сумяшчальнасць органа. Гэты прынцып, акрамя іншага, спрыяе зніжэнню верагоднасці адрынання перасаджанага органа пасля трансплантацыі.

Расціслаў Лаўрынюк распавядае, што падбор донара і рэцыпіента — вельмі складаная працэдура. Перад аперацыяй абавязкова павінна быць зробленае даследаванне на сумяшчальнасць, бо мала перасадзіць орган — важна, каб ён прыжыўся і даў магчымасць чалавеку жыць. «Для вызначэння сумяшчальнасці ёсць вельмі выразныя крытэры: група крыві, антыцелы і генетычныя прыкмета, — расказвае пра працэдуру падбору органаў трансплантолаг. — Зараз распрацавана адмысловая кампутарная праграма, дзе зададзеныя медыцынскія крытэры фармуюць спіс сумяшчальных донараў. Мае значэнне ступень цяжару стану рэцыпіента — орган будзе перасаджаны таму, стан якога горшы ў параўнанні з астатнімі. Тэрытарыяльная прыкмета таксама аказвае ўплыў: кожны орган мае абмежаваны час, калі ён можа быць трансплантаваны».

Існуе адзіны рэгістр, у якім знаходзяцца дадзеныя пацыентаў. Таму чалавек, які «стаў у чаргу на трансплантацыю» не зусім даўно, аб'ектыўна можа атрымаць орган хутчэй за папярэдніх — калі орган донара падыходзіць толькі яму.

**Міф №3. Калі ты скажаш, што падтрымліваеш трансплантацыю, цябе парэжуць на органы. Людзей могуць забіваць, выкрадаць дзеля органаў.**

Гэту тэзу Лаўрынюк жорстка абвяргае: «Я ўжо гаварыў і паўтару, што ў краіне дзейнічае прэзумпцыя згоды: калі чалавек пры жыцці пісьмова не выказаў сваю адмову (пісьмовая заява падаецца ва ўстанову аховы здароўя і потым фіксуецца ў Адзіным рэгістры трансплантацыі) або яго сваякі вусна або пісьмова не выказалі сваю нязгоду адразу пасля яго смерці, то органы могуць быць вынятыя для трансплантацыі. Працэс ад выяўлення патэнцыйнага донара да перасадкі — складаная тэхналагічная працэдура, у якой задзейнічаныя да 50 чалавек. Спачатку павінен быць канстатаваны факт смерці мозгу. Гэта робіць кансіліум з некалькіх спецыялістаў. Пасля арганізм правяраюць на наяўнасць пэўных захворванняў — гэта вызначае, прыдатныя або непрыдатныя органы для перасадкі. Калі няма медыцынскіх супрацьпаказанняў, вывучаецца, якое было рашэнне чалавека адносна забору яго органаў пасля смерці. Калі чалавек пры жыцці або яго сваякі пасля яго смерці не выказалі сваю нязгоду, адбываецца забор органаў. Усе стадыі жорстка фіксуюцца. Гэтыя аперацыі высокатэхналагічныя, і іх нельга зрабіць у таямнічых нелегальных умовах», — кажа трансплантолаг.

### Трансплантaлогія ратуе жыцці

Дырэктар міжнароднага цэнтра лічыць, што патрэбна разнастайная інфармацыйная праца — як дзяржаўная, так і грамадская, каб змяніць адносіны да трансплантацыі органаў і каб у людзей нават не ўзнікалі падставы для сумненняў наконт гэтай праблемы.

Ёсць шмат гісторый, калі трансплантaлогія ратуе жыццё. Маладая жанчына Вольга, якой у 2010 годзе перасадзілі печань, распавядае: «Праблемы са здароўем пачаліся праз два месяцы пасля таго, як я нарадзіла сына. У мяне пажоўклі бялкі вачэй і сталі сыходзіць сілы. Я думала, што гэта з-за нядаўніх родаў. Аднойчы паднялася тэмпература, на наступны дзень мяне паклалі ў шпіталь, дзе праз месяцы аналізаў і даследаванняў агаломшылі дыягназам: «аўтаімунны цыроз печані». Мне было толькі 24 гады. Да гэтага часу я ўся была напоўнена жыццём: з задавальненнем вучылася ў музычным каледжы, мела сям'ю, немаўля».

Праз чатыры гады хвароба ператварыла Вольгу ў прывід. І цяпер ёй нават страшна прыгадваць, як яна ляжала ў бальніцы кожныя два месяцы і глытала жменямі пігулкі, каб запаволіць развіццё цырозу. «З-за спадарожнай энцэфалапатыі я забывала, які фільм глядзела, як завуць знаёмага чалавека, — працягвае гісторыю маладая маці. — Мая печань няўхільна руйнавалася».

У канцы 2010 года яна ў чарговы раз лягла ў гастраэнтэралагічнае аддзяленне Брэсцкай абласной бальніцы. Ёй зрабілі працэдуры, якія звычайна дапамагалі пазбавіцца ад ацёкаў, слабасці, тахікардыі. Але на гэты раз лепш не станавілася. Дактары звязаліся з Мінскім РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак, і яе напаўжывую павезлі на рэанімабілі ў Мінск.

Новы дзень нараджэння Вольгі прыйшоўся на 12 лістапада 2010 года. «Кожны дзень мы з мамай адкрывалі Біблію, маліліся Богу, каб усё адбылося так, як хоча Ён, як будзе добра і карысна для мяне. Кожны дзень пражывала ў чаканні, што ўвойдзе лекар і скажа: «Знайшоўся донар, рыхтуйцеся да аперацыі». Так, Бог панёс з гэтай зямлі чалавека, якога таксама хтосьці любіў і чакаў дома. Але яго было ўжо не выратаваць… Прымі яго душу, Госпадзе, і дай суцяшэнне яго блізкім», — кажа Вольга.

У Цэнтры «Донарства. Дыяліз. Трансплантацыя» працуе шмат валанцёраў, якія раней знаходзіліся на мяжы жыцця і смерці. Але ёсць і іншыя. Валанцёрка Таццяна Тхорава — здаровы чалавек. Уключылася ў працу Міжнароднага цэнтру, каб падтрымліваць хворых людзей і папулярызаваць ідэі добраахвотнага донарства.

Псіхалагічная падтрымка, наведванне хворых, сустрэчы, велапрабег «Па сцежках Пушчы» для людзей, што перанеслі трансплантацыі органаў, — гэтыя мерапрыемствы аб'ядноўваюць людзей для барацьбы з хваробай.

Расціслаў Лаўрынюк лічыць, што донарства ратуе нацыю і развівае міласэрнасць да людзей, у якіх ёсць шанец на жыццё.

***Ад рэдакцыі:***

*Добра, што тэма, узнятая Ларысай Паланевіч, атрымала працяг. Згаданыя спадаром Лаўрынюком дакументы ёсць у кнізе Паланевіч, але, на жаль, змясціць усе дакументы на газетных старонках мы не маглі. Мы перадалі кантакты Ларысы Паланевіч Расціславу Лаўрынюку, і спадзяемся, што ён зможа вывучыць усе неабходныя дакументы і даць абгрунтаваны каментар па справе.*

**Фота прадстаўлены Расціславам Лаўрынюком**

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №11 (135)
(лістапад)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Данута Бічэль: Дайсці да Каложы...

**Бываюць у жыцці такія дарункі лёсу — сустрэчы з людзьмі, таленавітымі, духоўна багатымі, якія становяцца нечакана вельмі блізкімі і дарагімі.**



Фота www.hrodna.life

Сустрэча з Данутай Бічэль адбылася найперш завочна — праз яе паэзію. Удзячліва помняцца і непасрэдныя сустрэчы...

Слова Паэткі — гэта падтрымка ў хадзе кожнага чалавека да спазнання сябе, свайго роду, Беларусі. Добра з паэткай гаварыць, бо найчасцей нічога не трэба пытацца, яна сама распавядае, і гэта заўсёды цікава. Не любіць гаварыць пра побытавае, хоць і ад яго нікуды не дзенешся... Жыве творчымі праблемамі, літаратурай... У свой юбілейны год паэтка пагадзілася на невялікую гаворку для сваіх чытачоў. Пачалі з пытання пра дату нараджэння.

***— Спадарыня Данута, у розных пісьмовых крыніцах даецца розная дата Вашага нараджэння — то снежань, то студзень. Якая ж дата дакладная?***

— Дакладная — 3 снежня 1937. Касцёльныя архівы згарэлі. Скончыўшы сем класаў Карнілкаўскай школы, я ў Лідскім архіве-загсе выпісвала метрыку, то мне, як і ўсім з нашай парафіі, рабілі паўторны запіс адвольна, пад дыктоўку, тады я назвала 1 студзеня 1938.

***— Пра што Вам найчасцей думаецца ў гэтыя восеньскія дні?***

— Я найбольш думаю пра тых, хто мяне любіў, шкадаваў, рабіў усё, каб мне было лягчэй жыць. Іх ужо няма тут, але памяць пра іх мяне саграе, робіць восеньскія дні вясновымі. І пра ўнукаў сваіх падумаю дык памалюся за іх.

***— Круглая дата жыцця ў Вашым успрыманні — гэта свята?***

— Выхоўвалася ў такой вёсцы, дзе жыццё было запоўнена простымі сялянскімі клопатамі, не святкавалі ніякіх дзён нараджэння, толькі дні свайго святога апекуна. Светкаванні дзён нараджэння з п'янкамі ў нас пачалося пры калгасах...

***— Пра плён Вашай працы сведчаць Вашыя кнігі паэзіі і прозы. У Вас пішуцца новыя вершы. Як нараджаюцца паэтычныя творы? Для Вас гэта таямніца?***

— Добра пра вершы сказаў Чэслаў Мілаш, звычайна, першы радок з'яўляецца аднекуль, Нехта, Невідочны, яго дыктуе, а далей пакутуй, шукай сам. Вершы, якія прыходзяць самі, як дождж, нараджаюцца ўночы. Я і малюся ўночы. Бывае, што за ноч згавару дзве часткі ружанца. Гэтак моляцца многія самотныя людзі. Падслухала, як адна жанчына другой расказвала: «Хлопец маёй дачкі будзіць яе ноччу, кажа: мне не спіцца... а я кажу дачцы: навучы яго маліцца на ружанцы»...

Калі ж верш трэба напісаць на тэму, то можна і днём. Я тады збіраю думкі, пра што павінен быць верш, запісваю іх, потым слоўцы перастаўляюцца на паперы і ў галаве, так шахматысты перастаўляюць шахматы, нарэшце ў мяне выходзіць рыфмаваны верш...

На эсэ трэба адпаведны настрой, час і здаровую галаву...

***— Выток Вашай паэзіі — у песні?***

— Галоўнымі настаўніцамі паэзіі былі загасцінскія спявачкі. Дакладней, аўтаркі песень, беларускіх, украінскіх, польскіх і рускіх. Яны і цяпер застаюцца — так і жывуць у памяці: цётка Броня магла б спяваць з любой сцэны... Міцкевіч быў маім галоўным паэтам, і яго, і мяне натхняў родны Нёман...

***— Ці працягваеце пісаць прозу — успаміны, эсэ?***

— Працягваю пісаць успаміны пра тых, каго помню і люблю... Бо што мне яшчэ застаецца рабіць?..

***— Проза жыцця заўсёды больш жорсткая за мастацкую прозу?***

— Бывае, што проза жыцця робіцца паэзіяй, а бывае, што ператварае жыццё ў пекла... І такім чынам робіцца «мастацкай праўдай»...

Калі казаць пра маю прозу — то гэта нібы каментары да маёй паэзіі. Я доўга складвала думкі ў слупочкі, збірала ў вершах. Нарэшце, нагрувасцілася думак, і я іх пачала запісваць прозай. Заўважыла, што чытачы ахвотней чытаюць прозу, каментары могуць быць цікавейшыя, чым самі вершы, іх лягчэй чытаць, бо над вершамі трэба думаць. І я ж выбіраю толькі ўсё светлае, добрае, шкадуючы нервы сваіх чытачак.

***— Вашыя стасункі з людзьмі... Што змянілася?***

— Людзі асабліва не мяняюцца. У маладосці я думала, што людзі такія, як я, бо быў спачатку тата, пасля муж і мае старэйшыя сябры: Быкаў і Карпюк, хто аберагаў маю наіўнасць, а цяпер я ведаю, што я не такая, як усе людзі. І што мне з гэтым рабіць?

***— Вы сказалі пра сябе ў паэтычным творы так: «Мяне маці тут нарадзіла, як сасну ў зямлю пасадзіла». Чаму сасну? Гэта такі прыгожы вобраз?***

— Гэта таму, што я вырасла сярод сосен. Другія дрэвы ў нашым лесе раслі таксама сярод сосен. І мая мама пакінула каля лугу барок, які яна пасадзіла... Ён рос разам са мною, мама часта апавядала, як яна садзіла гэты барок.

***— Сасна «прыжылася» ў Гародні. Што вызначае душу Гародні сёння?***

— Думаю, што грошы, назапашанае і аднекуль назбіранае, нацяганае багацце. Я ў Гародні не прыжылася, але пратрымалася як белая варона. А што мне заставалася рабіць, калі я не навучылася даіць карову?

***— Вы — паэтка ХХ і ХХІ стагоддзяў. Якія староўчыя працэсы адбываюцца сёння ў сучаснай беларускай літаратуры?***

— З'явілася шмат мадэрністаў, дэкадансаў і т.п. Змянілася геаграфія прозы. Маладыя аўтары ўмеюць прэзентаваць, раскручваць сваю творчасць, прыдумваць розныя праекты, фестывалі, трыялогі, конкурсы і прэміі, абмены перакладамі з суседзямі. Поўная свабода творчасці. Можна пісаць у стол. Прыватныя выдаўцы не баяцца ніякай цэнзуры.



Каложская царква

Пісьменнікі, якія ўмеюць толькі пісаць, застаюцца за кадрам, мусіць, самі вінаваты. Такі час.

***— Вашая творчасць — гэта своеасаблівы храм роднай мовы. Што ўратуе беларускую мову? Літаратура? Грамадства? Дзяржава?***

— Толькі Бог і мы самі. Думаю, што наша літаратура вартая таго, каб яе не скідваць у нябыт. Ды мяшчане скажуць, што гэта цяпер не актуальна і пойдуць на канцэрт Стаса Міхайлава. Без дзяржаўнай палітыкі, гурткамі, мы пратрымаемся толькі нейкі час...

***— У Вашым вершы «Словам Скарыны» ёсць радкі: «Колькі ж можна губляць, каб людзьмі называцца». Гэта рытарычнае пытанне, і ўсё ж...***

— І ўсё ж... не трэба плакаць, а жыць і рабіць, што ўмееш.

***— Вас вельмі любіла Ларыса Геніюш. Гэта відаць і з апублікаванай перапіскі. Чаму так адбылося? І што павінна адбыцца, каб Ларыса Геніюш была рэабілітавана?***

— Ларыса Антонаўна любіла ўсіх, хто да яе прыходзіў, прыязджаў і размаўляў па-беларуску. А я прывозіла з Гародні лекі — ёй, Яначку і іх сябрам па няволі, бо Марыя Рудзь, дзяўчына з нашай вёскі, скончыла ў Львове фармацэўтычны факультэт і загадвала ў Гародні аптэкай... Я прывозіла ім газеты і кнігі, набірала на машынцы яе вершы для часопісаў і выдавецтва...

Яна чытала мне свае новыя вершы, а я чытала ёй. Я заставалася ў іх начаваць, мы ўсю ноч размаўлялі. Я ўвогуле ўмею слухаць людзей. Для яе, такой эмацыйнай, заўсёды ўзбуджанай, было гэта вельмі патрэбна. Здаецца, яна не лічыла мяне шпіёнкай, хоць падазрэнне і страх прысутнічаў. У мяне таксама, я заўсёды ўсяго баюся...

Мяне зусім не хвалюе гэтая рэабілітацыя, бо мы тут усе не рэабілітаваныя. Уся наша культура развіваецца на задворках, трымаецца на саматужніцтве. Калі ў Беларусі будзе Беларусь, тады ўсё стане на свае месцы.

***— Музей Максіма Багдановіча Вы стваралі як «Беларусь у мініяцюры». Музеі пісьменнікаў... Гэта такая праблема ў Беларусі. Якія музеі трэба было б ствараць на дзяржаўным, а не толькі грамадскім узроўні?***

Працяг на стар. 10 (4) »

# Соты выпуск «Кнігарні пісьменніка»

**Гэта адбылося! У Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў вялікае свята: выйшаў юбілейны 100-ты выпуск кніжнай серыі. Ад часу заснавання мінула восем гадоў. «Замыкае» стокніжжа серыі новы зборнік прозы вядомага беларускага пісьменніка Віктара Карамазава «Пад крыжам».**




Віктар Карамазаў сёння з'яўляецца старэйшынам беларускай прозы. Першае ягонае апавяданне было надрукаванае ў далёкім 1958 годзе. З таго часу выйшла некалькі дзясяткаў кніг Віктара Філімонавіча: апавяданні і нарысы, аповесці і раманы, шмат якія з іх вывучаюцца ў школах і ўніверсітэтах як узорныя творы беларускай літаратуры. Найбольш вядомымі сталіся апавяданні «Дзяльба кабанчыка», раман «Пушча», падарожны нарыс «Глядзіце ў вочы лемуру».

З пачатку 1990-х гадоў асноўнай тэмай кніг Віктара Карамазава з'яўляюцца творчыя біяграфіі мастакоў — беларускіх і тых, чый лёс і творчасць былі звязаныя з Беларуссю. Найвядомейшай кнігай у гэтым кірунку сталася аповесць «Крыж на зямлі і поўня ў небе» пра Вітальда Бялыніцкага-Бірулю (1991 год). Неўзабаве паўсталі і мастацкія біяграфіі Антона Бархаткова, Станіслава Жукоўскага, Гаўрыіла Вашчанкі, Мікалая Неўрава ды іншыя.

Новая кніга Віктара Карамазава «Пад крыжам» таксама асэнсоўвае тэму мастацтва. У апавяданнях і навэлах «Ван Гог», «Макі», «Бабіна лета» — эпізоды з жыцця мастака як такога, апісанне ўнікальнага мастацкага адчування свету, вылоўлівання ўражанняў з навакольнага свету, якія маглі б стаць асновай для кампазіцыі карціны.

Галоўнае ж месца ў кнізе займае аповесць «Зямля Фердынанда» — мастацкая біяграфія найвядомейшага беларускага і польскага мастака Фердынанда Рушчыца.

У Мінску кнігу можна купіць у наступных крамах: «Цэнтральная кнігарня» (пр-т Незалежнасці, 19), «Акадэмкніга» (пр-т Незалежнасці, 72), «Кнігі і кніжачкі» (пр-т Незалежнасці, 14), «Кнігарня пісьменніка» (вул. Казлова, 2), «Светач» (пр-т Пераможцаў, 11), «Веды» (вул. К. Маркса, 36), а таксама ў ІП А. Яўдаха (Knihar Knihiby).

**Прэс-служба СБП**

# 15-годдзе «Дзеяслова»

**У мінскай кавярні-клубе «Грай» прайшоў юбілейны канцэрт, прысвечаны часопісу. Быў прэзентаваны новы, дзевяносты нумар унікальнага выдання.**

На «дзеяслоўскіх» старонках, без перабольшання, друкуецца ўся лепшая сучасная беларуская літаратура, прадстаўлена творчасць усіх пакаленняў нашых пісьменнікаў ды фактычна ўсе роды і жанры літаратуры. Павіншаваць «Дзеяслоў» і яго стваральнікаў прыйшлі многія: аўтары, чытачы, сябры рэдакцыі, аматары мастацкага слова і музыкі.

Першы нумар часопіса, як распавёў адзін з яго заснавальнікаў і галоўны рэдактар Барыс Пятровіч, пабачыў свет 23 верасня 2002 года. Цягам свайго існавання калектыў рэдакцыі, колькасць якога, дарэчы, ніколі не перавышала 4-ох чалавек, імкнуўся як мага больш шырока і дэмакратычна рэпрэзентаваць нацыянальную літаратуру.

Творы, упершыню апублікаваныя ў выданні, пазней атрымлівалі высокія літаратурныя ўзнагароды, такія, як Прэмія Гедройца, «Дэбют», «Кніга году» ды іншыя. «Час second-hand» Нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч у перакладзе на беларускую мову таксама быў апублікаваны ў часопісе, а пазней выдадзены асобнай кнігай дзякуючы намаганням Саюза беларускіх пісьменнікаў. Акрамя таго, у 2006 годзе рэдакцыяй была заснаваная кніжная серыя «Бібліятэка часопіса «Дзеяслоў»», у якой выйшла ўжо 20 кніг.

Існуе і штогадовая прэмія «Залаты апостраф» за найлепшую публікацыю ў «Дзеяслове».

Паэт і грамадскі дзеяч Уладзімір Някляеў сказаў шмат цёплых слоў пра часопіс, у якім аўтар друкаваў і друкуе свае лепшыя творы, і перадаў віншавальную грамату ад імя Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны.

Выступілі вядомыя пісьменнікі, кожнаму з якіх было чым падзяліцца з гледачамі: добрымі ўспамінамі, звязанымі з часопісам, сваімі вершамі, перакладамі і песнямі.

На сцэне прагучала жывая музыка ў выкананні барда Віктара Шалкевіча, беларускіх гуртоў «Рэха» і «Bar Akatyna», завяршыўся канцэрт выступам легендарнай «Крамы».

**Тэкст: Віка Трэнас, фота: Аляксандр Кісялёў**



# Літаратурны фестываль «Знак роўнасці»

**З 17 па 19 лістапада ў Мінску Саюз беларускіх пісьменнікаў ладзіў літаратурны фестываль «Знак роўнасці», які меў на мэце актуалізаваць дзейнасць тых творцаў, якія пачасту выціснутыя на перыферыю беларускага літаратурнага працэсу.**

Крытычны погляд на айчынную літаратурную сітуацыю па-ранейшаму выяўляе яе цэнтралізаванасць і іерархічнасць. Аднак наша грамадства не стаіць на месцы: ім на змену прыходзіць павага да іншасці і разнастайнасці. Але наколькі беларуская літаратура гатовая адпавядаць выклікам часу?

Трохдзённая праграма фестывалю «Знак роўнасці» прапанавала звярнуцца да жаночай прысутнасці ў сучаснасці і мінулым беларускай літаратуры і тэатру, даць магчымасць беларускім пісьменніцам абмяняцца меркаваннямі, агучыць пісьменніцкі досвед рэгіянальных аўтараў і абмеркаваць асаблівасці літаратурнага жыцця па-за межамі сталіцы, а таксама разгледзець асноўныя спосабы «гаварэння» пра іншасць у дзіцячай літаратуры.

Беларуская дыскусійна-лекцыйная частка праграмы была прадстаўленая такімі імёнамі, як Алена Брава, Таццяна Скарынкіна, Марыя Мартысевіч, Вольга Гапеева, Аксана Данільчык, Віктар Жыбуль, Таццяна Барысік, Аляксей Братачкін, Таццяна Арціловіч, Аляксей Стрэльнікаў, Альгерд Бахарэвіч, Марына Казлоўская, Ганна Бутырчык, Надзея Кандрусевіч-Шыдлоўская, Ганна Янкута, Анка Упала, Таццяна Сяцко, Юлія Чарняўская, Юля Цімафеева, Анатоль Брусевіч і іншымі. Таксама ў дыскусіі, прысвечанай актуальнасці «жаночага» пытання, бралі ўдзел пісьменніцы Ульрыка Кэрнборг (Швецыя) і Хэйдзі Мары Крызнік (Нарвегія). Вось толькі некалькі лекцыйных і дыскусійных тэмаў «Знаку роўнасці»: «Сэкс і сэксуальнасць у беларускай літаратуры», «Досвед іншасці ў дзіцячай літаратуры Швецыі», «Жаночыя тэксты і кантэксты ў беларускім тэатры».

Адбылася прэзентацыя «жаночых» кніг з выдавецкіх серый «Саюза беларускіх пісьменнікаў» (сярод іх — і анталогіі беларускай жаночай паэзіі 1920–30-х «Бліскавіцы»). Пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску прайшла прамоцыя кнігі выбраных вершаў Дароты Коман «36 квадратных мэтраў думак».

Цягам трох дзён акрамя дыскусій, лекцый і прэзентацый наведнікі і наведніц чакалі літаратурныя чытанні ад Валянціны Аксак, Насты Кудасавай, Людкі Сільновай, Таццяны Нядбай, Вікі Трэнас і ўдзельнікаў ды ўдзельніц дыскусій.

За музычную частку праграмы «адказвала» Паліна Рэспубліка.

# Рэгіянальны круглы «літстол»

**На восьмы штогадовы рэгіянальны круглы стол літаратараў і журналістаў, зладжаны Лунінецкай філіяй Беларускай асацыяцыі журналістаў і сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў прыехалі госці з Пінска, Століна, Ганцавічаў і Баранавічаў.**

У межах імпрэзы адбыліся дзясятыя Лунінецкія краязнаўчыя чытанні і прэзентацыя зборніка «Краязнаўчымі шляхамі Лунінеччыны», які ўклаў гісторык, журналіст і літаратар Вадзім Жылко.

«Краязнаўчая тэматыка ў той ці іншай ступені цікавіць многіх чытачоў, таму рэгіянальныя СМІ ахвотна выкарыстоўваюць яе», — адзначыў ён у прамове.

Яго калега з «Информ-прогулки» Мікалай Ільючык падкрэсліў: «Усе мы крыху краязнаўцы, бо ў кожнага ёсць малая Радзіма… Ты чапляешся за ідэю, асэнсоўваеш, пішаш, бо разумееш, што гэта трэба».

Шэраг станоўчых прыкладаў прывялі Наталля Базар, Васіль Мацкевіч — журналісты партала «Медиа-Полесье».

Святлана Гарда заклікала даследчыкаў актыўней карыстацца інтэрнэтам для папулярызацыі і прасоўвання сваіх твораў, каб большая аўдыторыя мела магчымасць папоўніць свае веды па гісторыі роднага краю. «Навіны прыходзяць і сыходзяць, а краязнаўчая тэматыка застаецца для нашчадкаў», — канстатавала спадарыня Гарда.

Віктар Пінігін і Павел Куніцкі зрабілі акцэнт на краязнаўчых фота- і відэаматэрыялах, Аляксей Белы і Аляксей Галаскок — на тэме роднага краю ў літаратурнай творчасці.

Як зазначыў пінскі гісторык, рэдактар часопіса «Гістарычная брама» Аляксандр Ільін, палескія краязнаўцы працуюць вельмі плённа і актыўна супрацоўнічаюць са сродкамі масавай інфармацыі.

**baj.by**

# Міжнародная прэмія імя Лабадоўскага — у Беларусі

**Пісьменнік Павел Ляхновіч, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, атрымаў прэстыжную Міжнародную літаратурную прэмію імя Юзафа Лабадоўскага за перакладны зборнік апавяданняў вядомага польскага пісьменніка Збігнева Уладзімежа Фрончака «Анёлы, чэрці і кабеты».**

Лаўрэатам гэтай прэміі таксама стаў Пётр Кралюк, прарэктар Астрожскай акадэміі (Украіна), у сценах якой і адбылася цырымонія ўзнагароджання. Удзел ва ўрачыстасцях бралі польскія пісьменнікі, дзеячы ўкраінскай культуры і дыпламаты.

Зборнік «Анёлы, чэрці і кабеты» — плён сямігадовай супрацы пісьменніка Паўла Ляхновіча з аўтарам апавяданняў Збігневам Уладзімежам Фрончакам. Шмат гадоў таму спадар Павел адгукнуўся на прапанову паэткі Ніны Мацяш перакласці на беларускую мову два апавяданні папулярнага ў Польшчы пісьменніка з Любліна, але ўцягнуўся, і прапанаваная да ўвагі чытачоў кніга ўтрымлівае аж шэсцьдзесят твораў, якія сваёй формай нагадваюць прыпавесці. Некаторыя з іх з'яўляліся і на старонках «новачаснай» «Літаратурнай Беларусі».

Выданне зборніка апавяданняў Збігнева Уладзімежа Фрончака стала магчымым дзякуючы спрыянню гарадской адміністрацыі горада Любліна (Польшча) і прысвечанае 700-годдзю горада.



# Янка Купала ў плузе паэзіі



Вальжына МОРТ

**Калі я чытаю верш, я прымаю форму гэтага верша. Верш пачынаецца з кампазіцыі — адчування цэласнасці верша яшчэ да таго, як ты пачала яго пісаць (гэтае адчуванне можна параўнаць з відзежай — паэт бачыць прывід яшчэ ненапісанага верша).**

Ад таго, як паэт адчувае кампазіцыю, залежаць рытм, радок, вобразы, ступень напружанасці мовы. Рытм — гэта дыханне, удых і выдых, вербалізаваныя словам. Рытм вызначае гукавую структуру верша — дым гукаў над вогнішчам сэнсу. Гукавая структура і семантычная структура — два магніты. Калі гэтыя магніты сыходзяцца, верш замацоўваецца паэтычнай праўдай. Паэтычная праўда паходзіць з ілюзіі гэтага нязмушанага магнетычнага супадзення формы і прадмета верша, сэнсу і музыкі. Прадмет — любы прадмет верша — цікавы, патрэбны менавіта таму, што знайшоў сваю музыку.

Паэтычная форма патрабуе завершанасці, абсалютызму. Мае любімыя вершы — сама завершанасць, адзін жэст. «Я не бачу розніцы паміж вершам і поціскам», Паўль Цэлан. Замяні адно слова на іншае, памяняй словы месцамі, — і гэта мусіць гучаць памылкай, няправільна ўзятай нотай. Калі словы аказваюцца замяняльнымі, калі верш не пачынае спатыкацца ў выніку перастановак, гэта значыць, што ў ім яшчэ няма дастатковага напружання, што ён яшчэ не знайшоў сваю музыку, сваю адзіную форму: ён яшчэ не гатовы сціснуць у поціску нябачную руку чытача.

Вершу неабавязкова рабіцца музыкай ці песняй, але ён хоча, каб яго спявалі, як, напрыклад, спяваюць малітву. Я чую паэтычныя фігуры амаль выключна як фігуры музычныя; прасадычныя матывы як мелодыі. Мастацтва размеркавання розных вобразаў і матываў, іх чарада ў вершы — гэта, па сутнасці, мастацтва разнастаіць. Вось, напрыклад, музычны твор з чатырох частак, саната, скрыпічны квартэт альбо сімфонія: жвава — павольна — танец — жвава. Асобныя тэмы распрацаваныя, апрацаваныя, трансфармаваныя, пакуль яны ўжо зусім не асобныя (метафара — прыклад паэтычнай кампазіцыі ў мініяцюры). Ніхто не навучыць нас вершаскладанню лепш, чым разуменне таго, што пасля «жвава» мусіць прыйсці «павольна», і гэтак далей. Калі мы ідзем услед за мелодыяй, не ведаючы, што чакае яе ў наступным такце, калі мы здзіўляемся таму, як мелодыя знікае і зноў з'яўляецца, мы вучымся паэтычнай кампазіцыі. Возьмем фугу і навучымся старажытнаму мастацтву паўтарэння. Возьмем харал і навучымся спалучаць ключавы вобраз з дадатковымі: ключавы вобраз (сапрана) і тры дадатковыя галасы, што далучаюцца гарманічна, але без тлумачэння, без «выбачайце, калі ласка», — гэта паэтычны скок, паварот, вольта.

Паварот — адзін з самых важкіх элементаў верша, які адсылае нас да грэцкага паходжання слова «верш»: versus, паварот плуга з грады на граду. Ён увасабляецца ў руху ад радка да радка, ад страфы да страфы, ад вобраза да вобраза, ад метафары да метафары, злучаных не звычайнай, штодзённай логікай, а рухам музычнага «я» — логікай паэтычнай. Верш — гэта заўжды супастаўленне вобразаў без плаўных (празаічных) пераходаў ад аднаго да другога, калаж метафар, што цягнуцца, як павуціння, ва ўсіх напрамках. Гэта і ёсць самае цікавае ў вершы: не тэма, не прадмет, а рух паэтычнага мыслення ад назоўніка да назоўніка. Вершу цікава адказаць на пытанне не «што? хто?» а «што за чым?», «у якім парадку?».

Сціснутае ў паэтычны радок, у якім заўжды мала месца, падпарадкаванае патрабаванням рытму, паэтычнае слова дэфармуецца. Такая мутацыя дазваляе слову азначаць калі не нешта іншае, дык па-іншаму, чым у прозе. Такім чынам, асабістае «я» дэфармуецца ў лірычнае «я», і гэтае лірычнае «я» размаўляе словамі, што, у невыносных умовах радка, сталі музычнымі словамі. У вершы ўсё з пераломам: дэфармаваная семантыка, сінтаксіс дэфармаваны анжамбеманам, спрэчка сказа з радком, розныя рэчы склееныя разам у гратэскныя метафары, разрывы між строфамі. Усе гэтыя паэтычныя элементы ляжаць у шпіталі кампазіцыі, дзе лекі выдаюць па гадзінніку, мераюць тэмпературу, і абцасы медсястры цок-цок-цок уздоўж калідораў пад ледзь чутныя гукі фугі.

Мне здаецца не зусім дакладным, калі беларускую мову апісваюць салодка-абстрактным словам «мілагучная». (Тут трэба заўважыць, што слова «мілы» звязанае са словам «мёд» — miel, mel — мядовае гучанне, адсюль і невыносная слодыч, але мёд яшчэ і гнуткі, пластычны, мёд ліецца — сцякае на наступны радок рыфмай, паўторам. Толькі гэтае значэнне нам можа падысці.) Беларуская мова не мілагучная, яна музычная, і музыка яе вельмі зямная, чарназём глухіх і шыпячых зычных, анаматапія, падваенне зычных. Такія словы, як «жах», «шэпт», «лунь» здаюцца да-моўнымі, перад-лінгвістычнымі. Такія словы хочуць не азначаць, а быць. Чым больш у мове такіх слоў, тым яна паэтычнейшая.

**Паварот — адзін з самых важкіх элементаў верша, які адсылае нас да грэцкага паходжання слова «верш»: versus, паварот плуга з грады на граду. Ён увасабляецца ў руху ад радка да радка**

Ангельскі паэт Базыль Бантынг некалі зрабіў правакацыйную заяву: «Poetry is sound» («Паэзія — гэта гук»). Паэт піша верш не ад ідэі да ідэі, і нават не ад вобраза да вобраза, а ад гука да гука («Ко звуку звук не идет», Пушкін; «Я один, который работает от слуха, а вокруг вся остальная сволочь пишет», Осіп Мандэльштам).

Янка Купала напісаў «Курган» анапестычным метрам, які часта апісваюць напружаным, стыхійным. Паглядзім, як у першай страфе напружанне ўзмацняецца алітэрацыямі, што, у адрозненне ад трохскладовай стапы (паміж ПУСтак баЛОТ белаРУСкай зямЛІ), ідуць парамі: паміж пустак; балот беларускай, зямлі на ўзбя-, -рэжжы ракі... Паміж словамі першай страфы існуе і шмат іншых унутраных адгалоскаў, але менавіта гэтыя парныя моманты алітэрацыі гучаць у апазіцыі да трохступеневай стапы, нібы інструмент, што грае не ў такт, прадвяшчаючы трагічны змест паэмы.

Гукавая структура верша — гэта асобнае (і можна спрачацца, што асноўнае) яго вымярэнне. Тапалогія слова — яго месца ў радку ў дачыненні да іншых слоў — і ўнутраныя адгалоскі, што агучваюцца ў выніку такіх суседстваў, складаюць сваю асабістую семантычную структуру, неідэнтычную слоўнікавай семантызацыі. Так, у першым радку цяжка не заўважыць, што словы балота і беларускай — радзіна па зычных. Абодва словы выходзяць з б-галосная-л-галосная. Як бы непрыемна гэта ні было гарадскому паэту, семантызацыя Беларусі праз балота закладзеная ў мове.

Наступныя сем'і слоў, сфармаваныя гукавой структурай, з'яўляюцца і спалучаюцца, каб даць нам нашага героя — удзірванелы курган. Узбярэжжы, дрэмле і дзён даюць удзірванелы. «Як удзірванелы?» — пытае мова. Паэтычная мова адказвае: «удзірванелы днямі дрымоты на ўзбярэжжы». З'яўленне ключавога назоўніка курган перадумоўленае больш няўлоўна. Гэта першае слова на літару к у вершы і другі выпадак націскной а. Распеўшыся ў словах пустак, ракі, памятка, уцяклі, к набірае моц, каб узначаліць курган. Курган — гэта памятка дзён, на якой стаіць дуб. Вось яна, гукавая радзіна: два выпадкі націскнога а ў страфе(курГАН, ПАмятка), памятка — яна не сама па сабе, а памятка дзён, н закрывае курган. Дуб, што адкрывае наступную страфу, дае нам у.

Дуб у Янкі Купалы не абы-які, а каранасты. Каранасты для кургана — тое самае, што беларускі для балота. На ўзроўні празаічнай семантыкі гэтыя прыназоўнікі не азначаюць гэтыя назоўнікі, але ў гукавой семантыцы верша — к-галосная-р-галосная — сам курган робіцца каранастым, бо курган — гэта магіла, помнік продкам. Адным словам, курган — гэта карані. Так нас вучыць сама мова.

Іншыя цікавыя моманты недакладнай, дысананснай рыфмы («Tell all the truth, but tell it slant», Эмілі Дыкінсан): уцяклі-галлё-сухазелле-купалле; галосе — косы; косы-зоры-мо. Менавіта націскныя о ў Янкі Купалы яднае часткі I і II: (I) косы — зоры — ходзіць — (II) крутой — ракой — сотня — болей — хорам — сцяной — прыволле. Звярніце ўвагу на тое, што хорам стаіць грозна на гары. Ізноў мы бачым, як паэт фармуе семантыку верша гукамі: г (х) — р.

Адзін з маіх любімых радкоў у паэме — трэці радок другой страфы ў другой частцы: «Сонных вёсак шары, хат амшалых, як мар...». Тут некалькі цікавых паэтычных развязак. Па-першае, слова сонных перадумоўленае яшчэ з папярэдняй страфы: недаступнай сцяной — грозна, думна — нагах — гонкіх — пахані — сонных. Гэтая чарада нарэшце прывядзе нас да канца страфы — двух прыметнікаў, падданых, пакорных. Па-другое, нельга не звярнуць увагу на сінтаксіс гэтага радка: за структурай прыметнік — назоўнік — назоўнік-метафара ідзе, без аніякага злучальнага слова, структура, якую можна назваць адлюстраваннем першай: назоўнік — прыметнік — назоўнік-параўнанне. Радок адкрываецца сном, а завяршаецца марай. Такім чынам, мы, з аднаго боку, рухаемся наперад, ад назоўніка да назоўніка, ад вобраза да вобраза, але ў той самы час робім нечаканы сінтаксічны разварот на 180 градусаў.

Гэты радок асабліва выйграе ад анапеста: сонных ВЁсак шаРЫ хат амШАлых як МАР. Слова хат — важны назоўнік, што называе вобраз, — праглытваецца паміж РЫ і ША. Рухаючыся ад стапы да стапы, мы ўсведамляем новы вобраз, толькі калі ўжо напалову праз яго прайшлі. Адсюль і пачуццё развароту, але ў той самы час пачуццё мары, сну, зачаравання ландшафтам і мовай. Гэты радок чытаецца як замова. Акрамя злучніка «як» у сказе няма ніводнай службовай часціны мовы. Чытач (альбо, слушней — слухач) цяпер знаходзіцца за адзін радок ад князя, што жыве ў хораме і вакол якога адбудзецца дзеянне паэмы. Гэтыя апошнія радкі экспазіцыі загаворваюць, гіпнатызуюць, каб перанесці нас у векавечны час легендаў, дзе мы можам апынуцца толькі з дапамогай сну — сну ўнутры паэтычнай мовы.

Але хіба так піша паэт: хіба лічыць ён склады і націскі, хіба расстаўляе наўмысна, як пасткі, патрэбныя камбінацыі гукаў? І так, і не. Паэт, праз штодзённы вопыт чытання і пісьма, аддае сябе мове, і мова прыносіць яму падарункі. Чым уважлівей паэт слухае мову, тым часцей атрымлівае ад мовы падарункі. Так «сон» пераварочваецца, як пясочны гадзіннік, і дае «вёс» (со-ёс); «шар» рыфмуецца ўнутры радка з «мар», а таксама няпоўнай рыфмай з «хат» і «-шал-» у «амшалых». Кожная хата марыць і ёсць марай, а таксама ёсць амшалым шарам, што значыць старажытным сусветам, космасам унутры космасу соннай вёскі.

Такім чынам, гукавая структура верша — гэта асаблівая структура сэнсу, якая стварае перадумовы для шматзначнасці паэтычнага слова і сінтаксісу. З дапамогай кантэкстуальнага збліжэння родных па гуку слоў Янка Купала лечыць словы ад энтрапіі, а сінтаксіс — ад атрафіі. Ён не спажывае мову як сродак штодзённых зносін, а аддае сябе ёй на спажыву: робіцца прыладай мовы, тым самым плугам, што ўзворвае старонку, града заградой, радок за радком. У выніку, сэнс паэтычнага слова беспрапынна пашыраецца, і яго сэнсавыя магчымасці — бясконцыя.

prajdzisvet.org

# Данута Бічэль: «Дайсці да Каложы…»

« Працяг.
Пачатак на стар. 7 (1)

— Музей Максіма Багдановіча быў дзяржаўным, толькі ў такой дзяржаве трэба было выкручвацца, укладваць у справу і душу, і сэрца… У мяне быў хрысціянскі прынцып: я збірала музейныя экспанаты, не выманьвала ў простых людзей іх «скарбы» за бясцэнак, а імкнулася заплаціць больш-менш вартую цану, хоць усё тады было таннае, а краязнаўцы любілі Максіма…

Усе літаратурныя музеі, не толькі ў Беларусі, ствараюцца і трымаюцца на адным чалавеку. І не толькі літаратурныя. Цяпер у Гародні застаўся адзін такі чалавек Януш Паруліс, яго продкі збіралі, і ён назбіраў скарбаў даўніны, ды ў яго няма месца, толькі цесны дом і падворак… Я нават не магу разважаць пра музеі на дзяржаўным узроўні, бо перад вачыма стаяць чыноўніцы, якіх я не хачу пускаць у свае ўспаміны. Гэта трэба, каб сабраўся гурт аднадумцаў. Да стагоддзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча такі гурт сабраўся ва ўсіх мясцінах Беларусі, дзе паэт бываў, і Вільня нам дапамагала. А дзяржава перашкаджала. Музей Багдановіча ў Гародні зноў стаў літаратурным аддзелам. Яны яго «рэдагуюць», шкуматаюць так, як кнігі ў дзяржаўных выдавецтвах.

***— Як бы Вы намалявалі Беларусь сваёй мары?***

— Я ж гэта толькі і раблю — малюю Беларусь сваёй мары. Гэта мая спаленая хата са снапком валошкаў у коміне, з душой Сяргея Ільіна на хмарцы, там, дзе «над лугам бусел праляцеў», з мамай і татам у акенцы, са шпакоўняй і тлусценькай свіначкай…

***— Вы напісалі прадмову да кнігі А. Карпюка «Развітанне з ілюзіямі». А з якімі ілюзіямі развіталіся Вы і ці не з'яўляюцца ў Вас новыя ілюзіі?***

— Прадмову я напісала, бо мяне шчыра аб гэтым папрасіў Аляксей Карпюк. Валодзя Калеснік, сябра з маладосці, зрабіў бы гэта лепей. У мяне не было і няма ілюзій, якія былі ў Карпюка, я не была ў партыі, неяк выкруцілася, не ўступіла, мяне з камсамола выкінула «па блаце» Вольга Іпатава, яна маю картку ў картатэцы парвала. Мяне выхавала мая вёска, дзякуй ёй за гэта.

***— У Вас шмат твораў для дзяцей, а яшчэ болей тых, якія варта было б дарослым і дзецям чытаць разам. Уражвае Ваша пяшчота і ласка, гумар, вобразнасць, і разам з тым такая шчырасць і яснасць…***

— Кніжачку выбраных вершаў для дзяцей я склала, нават карцінкамі яе ўпрыгожыла, выбіраючы іх з розных сайтаў. Мой унук Андрэй страшыць мяне, што яны застануцца ў маім кампутары, не перакінуцца на флэшку, а я не веру… Я надрукую яе як-небудзь у двух ці трох асобніках. Называецца мая кніжачка «Арэшынка». А яшчэ я перапрацавала і дапоўніла «Батлейку». Таксама пакуль што яна ў кампутары.



Кафедральны сабор Святога Францыска. Гародня

***— Беларуская мова вельмі музычная. Ніна Мацяш многія свае вершы спявала, стварала музыку. Ці «напяваеце» Вы свае вершы?***

— Ніна была ва ўсім смялейшая за мяне. Я напяваю тыя песні, якія спявалі мае цёткі Броня і Яніна, мая мама і сястра, успамінаючы іх са слязой… Мае вершы спявае Вольга Хвашчынская, некалькі песняў стварыла Тацяна Беланогая… Алесь Дзянісаў з гуртом «Людзі на балоце» праспяваў кніжачку «На белых аблоках сноў», ды гурт «Людзі на балоце» распаўся, але Алесь плануе неяк сабраць гурт і запісаць дыск на мае вершы.

***— Зборнік Вашых выбраных твораў, што выйшаў у серыі «Беларускі кнігазбор», здзівіў некаторых чытачоў вялікай колькасцю вершаў рэлігійнай тэматыкі. Чым абумоўлены такі падыход?***

— Я не ведаю, магчыма, я хачу, каб Беларусь пачала маліцца на роднай мове не з перакладаў з польскай мовы, а прамаўляла свае самабытныя тэксты, далучаюся да малітваў Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш і Канстанцыі Буйлы. Я не крытык сваіх вершаў, ды мне здаецца, што і тут я пішу пра Беларусь…

***— У Вашай творчасці вылучаецца своеасаблівая форма: гэта паэтычныя цыклы «Мастаўляны», «Еўфрасіння Полацкая», «Да стагоддзя з дня нараджэння Ларысы Геніюш», «Да бабуляў Францішкі і Канстанцыі, да дзядуляў Адама і Вінцука», а таксама «малітоўныя вязанкі» — «Вастрабрамскае ўзнясенне», «Стакроткі ў вяночак Маці Божай Будслаўскай». Раскажыце, калі ласка, пра іх стварэнне.***

— Як бы я выглядала, жывучы ў Гародні, каб не напісала пра легенду Беларусі Кастуся Каліноўскага?! Мы з ім спыніліся ў тым самым доме, на той самай вуліцы Дамініканскай, цяпер Савецкай… Ён там збіраў свае таемныя сходы. Я пражыла на паддашшы паўгода і год на другім паверсе.

Усю кніжку «А на Палессі» (1990 год) можна было змяшчаць і ў «Кнігазбор», але вершы я перапрацоўвала. Чамусьці цяпер я дыхаю іначай, чым у 80-я гады, важныя ў маёй творчасці, сумныя ў маім жыцці. Нізку пра Еўфрасінню я таксама злёгку перапрацавала, і дапісала верш «Адзігітрыя», зразумеўшы, што абраз, які святая Еўфрасіння атрымала для Полацку і для Беларусі, самае галоўнае ў яе збаўленчай дзейнасці. Я люблю чытаць гэты верш перад аўдыторыяй. Малітоўныя вершы да Маці Божай у Будславе мне «заказаў» айцец-бэрнардын Славамір Вятлугін, калі мы сустрэліся ў Будславе…

***— Вашыя вершы-малітвы — адметная з'ява ў сучаснай беларускай культуры. Як яны прыходзяць да Вас?***

— Вёска Біскупцы складаецца з каталікоў і праваслаўных, якія жаніліся паміж сабой і пераходзілі з адной веры ў другую ў залежнасці ад таго, хто з маладых быў дужэйшы, багацейшы. Так, мая сястра выйшла за праваслаўнага і прыняла яго веру. Але ўся вёска малілася разам пад крыжам, асабліва ў маі — адмаўлялі Ружанец… Царква ў Дакудаве працавала заўсёды, касцёл згарэў у 1950-х. Ездзілі ў Ліду, Ліпнішкі, Мянойты. Я вырасла ў такім асяроддзі… Мама малілася кожны дзень. Калі я дайшла да яе ўзросту, а мамы не стала, нехта павінен яе замяніць.

У мяне ўсё пачалося з «Сонечнай песні» святога Францішка, гэты гімн натхніў мяне на духоўныя вершы. Ды ў Беларусі працавалі святары — празаікі і паэты Андрэй Зязюля, Казімір Сваяк, Вінцук Адважны, Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Язэп Татарыновіч, дарагі наш Уладзіслаў Чарняўскі, уніяцкія біскупы Чэслаў Сіповіч і Аляксандр Надсан, яны пакінулі нам малітоўную спадчыну, яны святыя…

А нашы паэткі Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш, Ніна Мацяш і Зоська Верас… Не буду пералічваць святароў, паэтаў і празаікаў, якія працуюць цяпер у выдавецтвах, у інтэрнэце… Вялікая магутная сіла, толькі трэба духоўнае яднанне, а гэта прыносіць малітва.

***— Малітва на ружанцы — адна з самых старажытных. Як да Вас прыйшоў Ваш першы ружанчык? Má́ю ад Вас прыгожы — валошкавы, нябесны…***

— Першы ружанчык у нас быў мамін. Пасля мне зрабіў ружанчык Антак, з якім я пасвіла каровы. Пасля падараваў Мацей Юзаф Кананові́ч… Пасля прывёз з Рыму ойча Ігар Лашук… Мне даруюць ружанцы сяброўкі, хто ездзіць у санктуарыі свету. Стась Ільін, мой унук, прывёз мне ружанец з Гвадэлупы. Меней чым 30 ружанцаў у мяне не бывае, я іх раздорваю ўсім, хто хоча маліцца. Бо ружанец — магутная зброя ў руках чалавека. Паўтарацъ адну і тую ж малітву практыкавалі даўно. Маліцца на святым Ружанцы пачалі дамінікане ў першай чвэрці XIII стагоддзя: святому Дамініку аб'явілася Маці Божая, падказала малітву і падаравала Ружанец…

Ружанец — як паўтарэнне адной і той жа малітвы многа разоў з паглыбленнем у сумоўе з Богам, з просьбамі і падзякай.

***— Гародня. Каложа. Нёман… Рамантычна, узнёсла апелі Вы іх у сваіх творах. І Ваш новы зборнік мае назву «Дайсці да Каложы». Раней Вы напісалі:***

***Цудны каложы снапок:
Кветка і крыж…
Цуд гэты звыш…
Мусіць, быў дойлідам Бог…
Так чалавек бы
не змог…
Што прапануеце чытачам
у новым зборніку?***

— Тыя самыя думкі пра Вечнасць, пра сілу духу ў яднанні, ва ўзаемадараванні.

Цяпер Каложа, старажытная царква, якая захавалася, працуе як храм і адчынена ўвесь час як музей… Можна там пасумаўляцца з Богам і людзьмі, успомніць, як Валодзя Караткевіч адчыніў мне дзверы, сам пабег наперад, схаваўся ў алтары, пасля паявіўся высока з левага боку ў байніцы і заспяваў…

Дайсці да Каложы… Вярнуцца да сваіх, не заблудзіцца, не пераблытаць сцяжынку, якая вядзе да святыні, да Бога, да таты і мамы, да продкаў, пакінуць гэты шлях сваім дзецям, унукам, сябрам, родным людзям…

***— Як нарадзілася гэтая кніжка?***

— Я не планавала выдаваць кніжачку вершаў да свае поўнай даты жыцця. Апошнія мае вершы ствараліся да святаў, паколькі жыццё маё цяпер ціхае, найлепшыя хвіліны праходзяць у касцёле, то і вершы касцельныя. Я размаўляю са святымі, абдумваю іх жыцці, іх пакуты, пасвячэнні сябе Хрысту. Пры гэтых таемных размовах нязменна невідочна прысутнічаюць дарагія людзі, з якімі мне было добра, перш за ўсё — мама і тата. Кніжачка «Дайсці да Каложы» — калі яна выйдзе — гэта будзе прыватны малітоўнічак, які можа стаць малітоўнічкам і маіх сяброў, чытачак, добрых людзей. Валодзя Калеснік усе мае кніжачкі вершаў так называў: «Я твой малітоўнічак прачытаў» або казаў: «Я тваю кантычку прачытаў».

***— Які твор-пасланне Вам хацелася б прачытаць сёння?***

— Уся мая творчасць, у нейкай ступені, пасланне чытачам… З гэтай, апошняй, кніжачкі, яшчэ не выдадзенай, кніжачкі я прачытала б верш «Божае Цела», праілюстравала б яго фатаграфіяй Руслана Кулевіча, як працэсія гарадзенскіх вернікаў ідзе за Гостыяй па мосце святога Францішка:

*Езус Хрыстус у Гостыі
Змяшчаецца ў сонечным крузе.
Узвышаем Цябе,
як Жаданага Госця,
над залатой Беларуссю!*

*У вянках з каласкоў і валошкаў
пойдзеш з намі, Божанька Мілы…
Нашы збітыя ногі
ад Тваіх Святых Ножкаў
няхай набіраюцца сілы…*

*Нехта заплача ў натхненні.
Будзем шчыра малітвы спяваць,
хворыя нашы калені.
будуць брук святы цалаваць…*

*Гостыя!
Свае смуткі, цярпенні,
грэх заскарузлы стары
пакладзем перад Госпадам
на ўсе вулічныя алтары…*

*Вясёлка з душаў людскіх
паўстане ў шчырым зацішку
ад святога Бэрнарда
да святога Францішка…*

*Нехта з нас памрэ ў гэты дзень
у засені вуліц,
прыняўшы Божае Цела…
Скажуць: — У адчынены Рай
душа яго паляцела…*

*Езус Хрыстус да Сэрца
жывых і памерлых прытуліць.*

*Найсвяцейшая Гостыя
сагнутых жыццём выпроставае,
над узростам, над вёрстамі —
у вышыні Хрыста Ўваскрослага!*

***— У Вашай творчасці гучыць падзяка Богу і людзям за спазнаныя ласкі і пакуты. Вашая творчасць — шлях да спазнання сябе і Божага свету, шлях да міласэрнасці і любові, шлях да роднага Слова. Дзякуй Вам, няхай і далей гучыць у Вашай душы, творчасці «боская нота і ласка»!***

**Марыя Новік**

# Надозір за радком...



Васіль ЗУЁНАК



**Пасля маразоў...**

*Пасля маразоў аголеных,*
*Што ўсё жывое праз строй*
*Ганялі шпіцрутэнаў голлямі, —*
*Такі паэтычны настрой!*

*Услых абяцае радыё*
*На цэлы дзень снегапад.*
*Сняжынкі, як рыфмы дакладныя,*
*Снуюцца з думкамі ў лад.*

*Ні дысанансаў, ні дактыляў, —*
*Пануе спакой трапяткі.*
*З цэнзураю чорных рэдактараў*
*Цэзуру трымаюць гракі.*

*Сумёты — як вершы белыя, —*
*Чытай, зямля, на сугрэў!*
*Святлеюць, ад сцюж агрубелыя,*
*Душы людскія дрэў.*

* * *

*Калі зямны — жывы — стаю*
*З жывымі поруч,*
*Сваё натхненне аддаю*
*Таемным зорам.*

*Блукаю ў вышыні начной,*
*І спяць турботы:*
*А там усё яно са мной*
*Як будзе потым?*

*І што́ мне зоры, што́ мне свет,*
*Дзе вас не стане, —*
*З прысудам: вечнасці сакрэт*
*І — невяртанне...*

*Якую ж радасць мець, калі*
*З тым зорным небам*
*Чужым зраблюся на зямлі*
*І непатрэбным?!.*

**Прыяміна**

*Залесны паўстанак Прыяміна*
*Вяскоўцаў у свет выпраўляў.*
*Яго па-дзіцячы з ямаю*
*Я ў даўнім калісьці раўняў.*

*Здавалася: вось ад'язджаюць —*
*І нельга вярнуцца назад,*
*Бо ўсіх там у яму саджаюць,*
*Каго павыманьвалі з хат...*

*А «яма», як потым дазнаўся,*
*Зусім і не «яма», а «ям», —*
*Паштовы так стан называўся —*
*Як рэха з татаршчыны нам.*

*Татарскае слова падкінуў*
*Нам фурман — і ўзяў на пастой:*
*Пры яме — часовы прыпынак*
*На доўгай дарозе ямской...*

*Прыяміна, — служба па часе*
*Прыямная перайшла*
*Чыгунцы. А нам засталася*
*Ўсё тая ж дарога з сяла...*

*Праз лес, праз балотныя нетры*
*Вясной і зімой — след у след —*
*Тых дваццаць ішлі кіламетраў,*
*Каб з'ехаць з Прыяміна ў свет.*

*Аднойчы завейным тым следам*
*Гукнуў і мяне паравоз...*
*І еду, і еду, і еду —*
*Нібы даганяю свой лёс...*

*Навек і мяне заманіла*
*Прыяміна ў пастку сваю...*
*І еду — і, як над магілай,*
*Над ямай той, грэшны, стаю...*

**Шчодры вечар**

*Крыўды й скрухі ўсе далечваем —*
*П'ём свянцоную ваду...*
*Сам мароз са шчодрым вечарам*
*Мяне ўподручкі вядуць.*

*Не таму, што дол хістаецца*
*Ці гайдае землятрус, —*
*Проста сёння пабраталіся*
*Мы ў траісты наш саюз!*

*І святкуем. Як і трэба,*
*Шчодры стол сям'ю сабраў.*
*Маем хлеб, і ёсць да хлеба:*
*На стале — дванаццаць страў.*

*Каўбаса і паляндвіца,*
*У мачанцы блін плыве,*
*Бульба параю дыміцца —*
*Ну а як жа без яе?!.*

*Страў дванаццаць — то й дарэчы*
*Тройчы келіх празвінеў:*
*За мароз, за шчодры вечар,*
*Ну й, між іншым, за мяне...*

*Вось і выйшлі, — прагуляцца,*
*Зоркі ў небе палічыць.*
*Самы раз паразмаўляць нам —*
*Ёсць нагода, ёсць аб чым...*

*Усясветныя размоўнікі*
*Ў сэрцы тояцца маім.*
*І цікуе месяц поўненькі:*
*А ці цвёрда мы стаім?..*

**Толькі маці...**

*Бег са свету,*
*бег здалёку і зблізку,*
*бег апрамець,*
*Нёс і смех свой і слёзы дахаты:*
*Толькі маці магла зразумець,*
*Дзе нявінны я*
*і дзе вінаваты.*

*Больш няма куды бегчы,*
*няма да каго,*
*І няма тых вачэй,*
*каб пабачыцца, хто я:*
*ці Авель, ці Каін.*
*Свет вялікі,*
*бясконцы,*
*без меж-берагоў,*
*А бягу да сябе —*
*ад сябе,*
*ад сябе ,*
*ад сябе —*
*уцякаю...*

**Шпак**

*Сонцу майскаму напярэймы:*
*Грудкі на́ўскід,*
*крылцы ўразлёт,—*
*Кожны год вясной не старэю,*
*А з табой маладзею на год.*

*Быццам Бог пасылае збавенне:*
*І такія на песню правы,*
*І такое ў душы абнаўленне,*
*Што амаль не жывеш,*
*хоць жывы.*

**«Літаванне»**

*Быў Галоўліт як маналіт*
*Ідэйнасці партыйнай,*
*Яе надзейны меч і шчыт —*
*І франтавы, і тыльны.*

*Было... Спытайся сёння ў вас:*
*Што ў слове тым за спратам? —*
*Пытаннем будзе і адказ:*
*—«Галоўны літаратар»?..*

*Што ж, так, па сутнасці, й было,*
*І абрэвіятура*
*Таіла ўладнае крыло*
*Для творчае натуры.*

*Каб хоць слаўцо надрукаваць —*
*Не ўдасца без пячаткі, —*
*А ў тым і сэнс: «залітаваць» —*
*Падчысціць, — для парадку.*

*Заўважыць, выкрасліць,*
*стрымаць —*
*Сэнс службы адмысловы,*
*І «літаваць» — як лютаваць*
*Над думкаю і словам.*

*Не знала літасці, хоць спрэс*
*Маўчала «літаванне»:*
*Дзяржаўнай тайны інтарэс*
*Ахоўвала маўчаннем...*

*Было, было... Ды не сплыло:*
*Змяніла апранаху.*
*І тое трэцяе крыло*
*Махае тым жа махам.*

*Залезла цэнзара асцё*
*Ў рэдактарскія шлункі, —*
*А як іначай?! Як дасцё*
*Тварцам літнакірункі?*

*А горш яшчэ, калі падчас*
*Сам дзьмеш у дудку тую ж:*
*Бярэш цэнзурны ватэрпас —*
*І сам сябе «літуеш»...*

* * *

*Не, я не прымхлівы зусім,*
*І ў байкі верыць позна, —*
*Было ў жыцці нямала зім,*
*Адліжных і марозных...*

*Яшчэ гадок, яшчэ гадок, —*
*Нібы надозімкам лядок*
*Іскрыцца пад абцасам*
*Нямеранага часу.*

*І думка ў злагадзе з хадой*
*Ступае сцежкай крохкай...*

*Перад якой гэта бядой*
*Так дыхаецца лёгка?..*

**Цені**

*Стомлена дзень карацее,*
*Спеламу сонцу наўпроч*
*Ніцма даўжэюць цені,*
*З лесу крадзецца ноч...*

*Спешнае ў ночы хаценне:*
*Грэшныя думкі сабраць*
*І перадаць летуценням...*

*Цені кладуцца спаць...*

**«Памылка друку»**

*Чытаю на сябравай кнізе*
*Пазнаку: «Наклад 100*
*асобнікаў»...*
*Ды гэта ж прысуд, —*
*як Нямізе:*
*Схаваць!*
*Ручаінаю дробненькай*

*Загнаць пад зямлю,*
*каб не бачылі —*
*Ні добрыя людзі, ні чорныя...*

*І кнігу —*
*нібы раскулачылі,*
*Як гаспадарніка ўзорнага.*

*І творца ж — не лыкам шыты:*
*Між самых слынных — дастойны, —*
*Бядняк...*
*А як дамавіта*
*Паэзіяй верш настоены!..*

*Ці ты, Беларусь, памылілася*
*Ў даверы друкарскім*
*падсобнікам?..*
*Прызнай, што памылка*
*ўчынілася:*
*Не «сто», а «сто тысяч*
*асобнікаў»!..*

* * *

*За славу душу не таптаў,*
*Паклоны не біў тузам*
*І з д'яблам не вёў перамовы, —*

*А што мне Бог нашаптаў,*
*Усё, што запомніў, — сказаў.*
*І не пачуеце больш — ні слова.*

* * *

*Як развівае крылы дзень*
*І сонцу аддае валоду,*
*Ноч забірае зоркі ў цень —*
*І не пытае ў зорак згоды.*

*А ім хацелася б свяціць...*
*Ды знае сэнс зямля старая:*
*Каб зоркі ў небе блаславіць,*
*Натое, кажа, й ноч бывае.*

**Пера-**

*Пера-шчадрыць, пера-спяліць,*
*Пера-крычаць, пера-саліць,*
*Пера-маўчаць, пера-верыць,*
*Пера-хітрыць, пера-цвяліць,*
*З пустога ў парожняе пера-ліць...—*
*Без меры намеры*
*ў тым «пера-»...*

*Калі ж яно троны пачне*
*чапурыць —*
*Лічы, што клёку — хаўтуры:*
*Ці пера-дурнелы мудрэц*
*мудрыць,*
*Ці пера-мудрэлы дурань...*

* * *

*Крадком, крадком*
*Надозір*
*За радком.*
*Саступкі не малю —*
*А раптам ды злаўлю!..*



**Нішто пакуль не завершана, нішто. Кожная рэч, кожная істота стварае сябе сама. Мы расцем з вядомага ў невядомасць, і цяпер я дакладна ведаю, што мае куміры, — усяго толькі ілюзорная прэлюдыя да майго існага, сапраўднага жыцця, а мая мэта — нішто іншае, як выйсце за межы звыклага, будзённага**

# Гульні з нулявымі сумамі

## Фрагмент аповесці



*Алесь ПАПЛАЎСКІ*

**Я ўсё яшчэ шукаю сябе. Пражываю звыклае, будзённае «сёння», з недаверам узіраюся ў безвыходную прывіднасць невядомага мне «заўтра». Верагодна, людзям, такім як я, наканавана лёсам шукаць сябе пажыццёва. Малюнкі быцця змяняюцца. Відзежы ілюзорнага свету, намаляваныя ўяўленнямі з зайздроснай абыякавасцю, сціраюцца ўсюдыісным часам, але я настырна працягваю маляваць. Я мастак, і мая існая мэта ствараць сябе. Але, спазнаючы новыя сэнсы існавання, я так пакуль і не здолеў распазнаць сярод гэтай размаітасці рэчаў, рэлігій, догм і ілюзій, створаных чалавекам і дзяржавай, свой сапраўдны сэнс, свой сапраўдны шлях, сваю патаемную мару. Я не стаў для сябе Вечнасцю. Я не стаў для сябе Цішынёй, хоць яна мне заўсёды была да твару, і прымяраў я яе, нібы шляхетную вопратку, не разумеючы, што дадзена яна мне насамрэч навырост. Я ўсё яшчэ радуюся жыццю. Я ўсё яшчэ фармую свой дух і гадую сябе. Я імкнуся жыць у згодзе з гэтым светам, з пакорай і непазбежнасцю прымаючы ўсе цяжкасці і нечаканасці жыцця. Я чышчу свой розум любоўю, бо перакананы, што не страціў веры і што мая ўсмешка надзейна застрахавана нябёсамі ад людзей натоўпу. Калі доўга і настырна шукаць сябе, абавязкова спазнаеш Бога. Знойдзеш яго ў сабе...**

Да вандроўкі ў Ізраіль застаецца некалькі дзён. Квіткі на самалёт ужо замоўленыя. Іх застаецца толькі забраць у паломніцкім аддзеле нашай царквы, і я планую зрабіць гэта заўтра. Дні напярэдадні адпачынку як заўсёды эмацыйна насычаныя. І цяжка не пагадзіцца з маім кумірам Мэрфі, што няма межаў таму, наколькі дрэнна могуць пайсці нашы справы заўтра. На паверхню навылазіла процьма незавершаных спраў, і я марна спрабую іх па хуткаму разгрэбсці. Адключаю нават па неабходнасці сотавік, каб адмежавацца ад надакучлівых і не заўсёды карысных тэлефонных размоў, але гэта не дапамагае. На асабістае не стае ні часу, ні сілаў, ні жадання. Яна знаходзіць мяне праз сакратарку.

— Ніякіх заўтра, — настойліва папярэджвае мяне жанчына. — Па-першае, заўтра я не працую, а па-другое...

Якая розніца, што прыгатавала мне гэтая «асоба» на другое. Хочаш, не хочаш, а трэба кідаць незавершанае і перціся праз увесь горад па гэтыя далбаныя квіткі, быццам бы іх нельга перадаць праз каго-небудзь ці ўвогуле аддаць мне асабіста ў рукі перад ад'ездам. Паломніцкі аддзел знаходзіцца на супрацьлеглым канцы горада, а гэта, як мінімум, некалькі гадзін змарнаванага часу. Словам, на працу можна ўжо не вяртацца.

— Добра, — расчаравана прамаўляю я і кладу слухаўку. Незадаволена зіркаю на сакратарку, абвінавачваючы яе позіркам. Спалоханы тварык дзяўчыны выклікае нездаровы воплеск весялосці: — Бог мой — Скала мая!.. — прамаўляю я.

Дзяўчына кідае на мяне здзіўлены позірк, па ўсім відаць, не разумее маёй іроніі і мармыча ў адказ нешта невызначанае.

— Ну што з табой зробіш, — развожу я рукі. — Кубачак кавы, і Бог даруе табе твае грахі.

Насамрэч, мне не да весялосці. З кволай надзеяй пазіраю на гадзіннік і вырашаю, як правільна і больш-менш карысна размеркаваць час. Праз гадзіну, не пазней, так было дамоўлена загадзя з дырэктарам, я павінен быў быць у гарадскім статыстычным аддзеле, дзе мяне ўжо другі дзень запар марна чакаюць з дакладам па выніках працы фірмы за мінулы квартал. Патрэбнай інфармацыі на руках у мяне ўсё яшчэ няма, прытым што тую інфармацыю, якую я яшчэ спадзяюся сабраць, трэба яшчэ будзе ўдакладняць, апрацоўваць... Наступствы гэтай маёй халатнасці для мяне непрадказальныя. Як мінімум, ганебныя разборкі, папрокі і пазбаўленне квартальнай прэміі. І гэта, паўтаруся, у лепшым выпадку. Цешу сябе толькі тым, што ўся гэтая зневажальная працэдура з распяццем на крыжы справядлівасці, з прычыны майго адпачынку, мусіць быць перанесенай на невызначаны тэрмін, і ў лепшым выпадку адбудзецца толькі праз месяц, пасля майго вяртання з Ізраіля. Але на той час, спадзяюся, абставіны зменяцца, ды і сам я буду зусім ужо іншым чалавекам, бо ніхто яшчэ з падарожжа не вяртаўся тым, кім быў да яго.

І меў рацыю Геракліт: усё цячэ і змяняецца... Чапляю на твар сур'ёзны выраз і дэманстратыўна лаюся. Дзяўчына не даганяе майго гумору і пакрыўджана патупляе вочы. Крывая грымаса на яе вабным тварыку, вяртае мне добры настрой.

— Бог мой — Скала мая!.. — паўтараю як мантру завучаны мною некалі выраз з бібліі і, з цяжкасцю стрымліваючы ўсмешку, шчыра шкадую: — Эх, золатка!.. Шкада, што мне нельга матам лаяцца.

Сакратарка вытужвае кволую ўсмешку. З партатыўнага прымача да мяне прарываецца саладжавы голас гламурнай спявачкі. Незадаволена моршчуся, і сакратарка выключае гучнасць.

— А ці ведаеш ты, любая мая, хто такі Эсб'ёрн Свенсан? — па-змоўніцку падміргваю я. Маё не зусім зразумелае, недарэчнае пытанне, мая непрадказальная зменлівасць і зманлівасць настрою ды ненатуральнасць паводзін канчаткова бянтэжаць дзяўчыну. У паветры завісае працяглая паўза. Праз адчыненую фортку ў пакой пранікаюць гукі гарадскога жыцця. Вецер варушыць іх разам з шолахам раскіданых на стале папер. Назіраю, як па руцэ дзяўчыны паўзе выродлівы цень ад настольнай лямпы, і папраўляю фіранку. Пакой нашпігаваны дробязямі і дэталямі. Спантанны павеў ветру агаляе іх існы парадак, дзе кожная з тых рэчаў мае свой сэнс і свой змест. «Нішто не вяртаецца назад, — думаю я. — Усё рухаецца толькі наперад. Маўчанне прамаўляе мільёны слоў, але нават і яны не здольныя выказаць ісціну гэтага моманту...» Яшчэ раз аглядаю пакой. Наша жыццё — і ёсць існаванне сярод гэтых дробязных рэчаў, большасць з якіх непатрэбныя нам. Пераводжу позірк на дзяўчыну і ўсміхаюся. Проста так, без прычыны. Мне дазвольна. З заўтрашняга дня я ў адпачынку.

— Ісціна, золатка маё, тоіцца ў рэчах. На жадь, не кожны з нас здольны распазнаць яе... Мы зусім не цікавімся сабой. Мы не ведаем сябе. Мы корпаемся ў бруднай чужой бялізне. Што мы шукаем там? Шчасця?.. Бога?..

Дзяўчына невызначана паціскае плячыма і маўчыць.

— Не падманвайце сябе, Богу няма месца ў курылках. Ён не павінен туды наведвацца, тым больш там жыць. Ведаеш, што нас, людзей, выратуе? — звяртаюся я больш да сябе, чым да дзяўчыны. — Музыка. Нас выратуе, маё золатка, музыка... Ты шчаслівы, бо ты слухаеш джаз!.. — дадаю я пераканаўча пасля кароткай паўзы.

Гэта аксіёма. І яе існасці я адданы з юнацтва. З тых самых часін, калі ўсвядоміў, што ёсць такое сапраўдны сэнс музыкі, з таго самага імгнення, калі невылечна захварэў лізтаманіяй і пачаў без разбору калекцыянаваць гукі. І я і цяпер усё яшчэ прывучаю сваю памяць захоўваць іх дзеля таго, каб дзяліцца імі з іншымі. «Ты шчаслівы, бо ты слухаеш джаз!» — вучылі мяне мае куміры. І я капіяваў іх. Я рабіўся незаўважна іх копіямі. На жаль, усе мы імкнемся быць чыімсьці копіямі, бяздумна адпрацоўваючы свае: індывідуальнасць, самасць... забываючыся, што ў кожнага з нас свой лёс і сваё жыццё. Нішто пакуль не завершана, нішто. Кожная рэч, кожная істота стварае сябе сама. Мы расцем з вядомага ў невядомасць, і цяпер я дакладна ведаю, што мае куміры, — усяго толькі ілюзорная прэлюдыя да майго існага, сапраўднага жыцця, а мая мэта — нішто іншае, як выйсце за межы звыклага, будзённага. І няважна, што гэтая ідэя індывідуальнай свядомасці толькі яшчэ зараджаецца ў маёй галаве, што святло ад яе пакуль яшчэ вельмі бляклае і амаль незаўважнае. Але відавочна адно: што я на шляху, што я іду насустрач гэтаму кволаму агеньчыку. Ён — маяк мне. Ён — святло ў маёй цемры. І за гэта я ўдзячны не сваім кумірам, а сабе самому. Я паважаю Эсб'ёрна Свенсана як асобу. Ён мог бы стаць маім сябрам, бо гэта ён навучыў мяне разумець і адчуваць прыгажосць гукаў. Музыка ніколі не была для мяне клопатам. «Гукі, як сказаў нехта з вялікіх, — гэта вечнасць!» А я сцвярджаю, што гукі — гэта чарнільныя плямы на бясколерным, цнатлівым аркушы цішыні. Менавіта імі бясконцы Бог піша свае ўспаміны: «...пакажы мне адтуліну з голкавае вушка, і Я расчыню перад табой найвышэйшую Браму...» Праз некалькі дзён — роўна сем гадоў, як не стала з намі вялікага Музыкі. Эсб'ёрн Свенсан быў маім аднагодкам, і я абавязкова вазьму яго гукі з сабою ў дарогу...

— Дык ты ведаеш, хто такі Эсб'ёрн Свенсан? — паўтараю я сваё пытанне і дапытліва зазіраю ў вочы збянтэжанай дзяўчыне. Не дачакаўшыся адказу, адказваю сам: — Эсб'ёрн Свенсан — маё збавенне ад тугі... Яго голас — мой голас!..

Дзяўчына не разумее мяне. І не трэба. Галоўнае, што я сам сябе разумею. Я не з маўклівых і не з глухіх, для мяне важна агучыць тое, аб чым я заўжды памятаю. Агучыць і сыйсці незразуметым. Мы для таго і нараджаемся, каб быць самімі сабой.

— Прывітанне шэфу, — кідаю я на развітанне дзяўчыне ды іранізую: — Абавязкова патэлефаную яму, з Ізраіля. Бай, бай!..

Да аўтобуснага прыпынку не вельмі далёка, але, каб не спазніцца, значны адрэзак шляху крочу падбегам. Некалькі разоў парушаю правілы руху і перасякаю вуліцу на чырвонае святло. Сёння мне ўсё дазволена.

Тралейбус, як заўсёды, набіты біткам, і я з цяжкасцю праціскаюся ў салон. Бурчлівая мажная кабета неахвотна дапамагае мне прабіць квіток, потым прыбірае

з праходу вялізную спартыўную торбу, прапускаючы да акна. Дзякую ёй за гэта і з палёгкай уздыхаю. Нарэшце можна разняволіцца. Пераводжу дых і акідваю поглядам салон. Адчуваю схаваную ў паветры і ў чужых настроях напружанасць. Яна не столькі ў саміх паводзінах людзей, колькі ў іх трывожнай маўклівасці. На фоне яе галасы двух пажылых мужчын гучаць неяк ненатуральна і нават задзірліва, агаляючы ілжывую сутнасць гэтага часу. Прыслухваюся. Мужчыны, як можна зразумець з іх кароткіх рэплік, абмяркоўваюць падзеі ва Украіне. Іх погляды на палітычныя праблемы не супадаюць шмат у чым, і таму гаворка паступова перарастае ў спрэчку. Кожны з іх спрабуе акцэнтаваць увагу на сваім, а таму ім даводзіцца ўвесь час перакрыкваць адзін аднаго. Нічога не зробіш, такая ўжо наша краіна: каб цябе пачулі, трэба размаўляць на ўзмоцненых танах. Галоўная мэта большасці — быць датычным да нечага, прыналежыць камусьці: дзяржаве, ідэі, партыі, рэлігіі... Няважна каму, абы толькі не быць аднаму. Аднаму быць страшна. Мужчыны паўтараюць пачутае з тэлевізараў, але трактуюць яго па свойму і, па ўсім відаць, не сыходзяцца ў поглядах. «Русский мир» даўно ўжо ў маім горадзе, і я балюча, з несхаванай трывогай стаўлюся да ўсёй гэтай ашалелай, непрыхаванай прапагадысцкай лексікі, якую чую з дня ў дзень паўсюль, з дапамогай якой пераважная большасць людзей пераказвае і трактуе на манер ідэёлагаў падзеі ў свеце. За ўсімі плёткамі, неабгрунтаванымі і паспешлівымі высновамі, за ўсім неагучаным і скрытым кожны раз паўстае адно і тое ж пытанне, яно вісіць у паветры неагучаным, але яго здольныя хіба не пачуць толькі глухія: «Быць трэцяй сусветнай ці не?..» Грамадства ведае гэтых «асоб з запалкамі», бачыць іх кожны дзень у тэлевізары, але назваць адкрыта іх імёны не спяшаецца. Так бяспечней. Мяне злуе гэтая людская блізарукасць. І ад гэтай безвыходнасці, ад свайго бяссілля мне хочацца крычаць крыкам: «Яна ідзе ўжо, тая вайна! Яе даўно распалілі нашы куміры!.. Проста яна іншая, не такая відавочная, пра якую вы чыталі ў кніжках ці бачылі на экранах. Час іншы — і войны іншыя...» Але я ведаю: крычы не крычы, а наўрад ці пачуюць цябе гэтыя крыкуны. Тое, чаго ніхто ніколі не бачыў, чаго не спазнанаў сваім досведам, чаго не вынес на сваіх плячах, — не існуе ўвогуле. Дзеля таго, каб зразумець відавочнае, трэба, на жаль, і бядзе, і смерці прыйсці ў кожны дом. Ёсць чорнае, і ёсць белае. Ёсць чырвонае, і ёсць карычневае.

Я не дальтонік. Для мяне рэчы відавочныя. І хлусіць нам можна да пары, як і купіць ды ўсыпіць пільнасць. Я прыхільнік жыцця. Я прыхільнік светлых колераў, а таму я нязгодны з тымі, хто імкнецца навязваць мне павагу да жалобных фарбаў. Верагодна, для натоўпу я праблемны чалавек, а таму перасцярогі гэтай большыні для мяне зразумелыя. Са мною не камільфо. Людзі любяць, каб з імі згаджаліся. Але я ніколі не стану тым, кім бы хацелі мяне бачыць гэтыя людзі. Я не жадаю апускацца да іх узроўню і жыць разам з імі ў норах. Я адчуваю, што ў свеце адбываецца нешта значнае, лёсавырашальнае. Гэты свет на нашых вачах робіцца іншым, не такім, якім быў раней, і ў прыстойных людзей шмат прычын для неспакою і хвалявання. Занадта многа гора і слёз, занадта многа людской крыві ільецца ў свеце. Не патануць бы нам у гэтым згубным крывавым акіяне, не знікнуць бясследна, як знікла некалі легендарная Атлантыда.

Адрываюся ад думак. За акном звыклая воку безаблічнасць вялікага горада. Чаму мы імкнемся асягнуць неабсяжнае, чаму нашы думкі не прасякнуты любоўю да таго, што ёсць, да таго, што мы маем? Прыгажосць свету ў дробязях. Менавіта з іх, нібыта з мноства размаітых пазлаў, і складаецца наша сапраўднасць. І ці трэба нам ехаць на край свету дзеля таго, каб сустрэцца з Богам?..

— І не страшна табе аднаму перціся ў гэтую далячынь? — дакучае сваімі назойлівымі пытаннямі Аля. У яе голасе чую непрыхаваны здзек. Насамрэч, гэта зайздрасць, звычайная людская зайздрасць. Людзям уласціва перажываць расчараванне ад чужой радасці.

Аля — мая сталая сужыцелька. Сапраўднае імя яе Валя. Але яна яго не выносіць на дух чамусьці, а таму скараціла на адну літару і цяпер цешыць сябе, што так гучыць нашмат прыгажэй. Валя скараціла не толькі сваё імя, яна скарачае ўсё, для яе ўсе рэчы і з'явы недасканалыя, не такія, якімі яны ёй бачацца. Такая ўжо яна ёсць, мая Валя. Мы з ёю людзі розныя, хоць і жывем разам цэлую вечнасць. Прызвычаіліся, прыцёрліся адзін да аднаго, як кажуць, зжыліся і даўно ўжо ўспрымаем адно аднаго такімі, якія ёсць. У Алі я трэці па ліку сужыцель. Дзяцей яна ні ад кога з нас не займела, а таму, гэтае пытанне для яе нязносна балючае і непрыемнае. Размоў на такія далікатныя тэмы мы з ёю не баім. Пра існаванне майго сына яна таксама не здагадваецца, а я ёй і не збіраюся расказваць сваю гісторыю. Калі шчыра, яна і не вельмі цікавіцца маім колішнім жыццём. Такі расклад мяне цалкам задавальняе. Яе, верагодна, таксама. У таямніцы свайго жыцця для яе ўваход забаронены.

— Страшна, — згаджаюся я. — Таму і еду не сам, а з паломнікамі. Так зручней, як мне здаецца. Хоць, калі шчыра, то і з імі баюся ехаць. Раптам не ўпішуся ў кампанію.

— Не разумею, навошта табе гэта ўсё? Які сэнс шукаць Бога ў краіне, дзе вякамі ідзе вайна, дзе праліта столькі крыві і слёз? Няўжо каб знайсці Бога, трэба перціся на край свету?

— Сапраўды, Бог нашмат бліжэй, — пагаджаюся я. — Але пачуццё віны, Аля, гэта — магутнейшы сродак для маніпуляцый. Бог — гэта збор нейкіх сусветных законаў, у маім разуменні, а таму прасіць яго аб нечым, безумоўна, гэта дурное. Тым не менш, калі сэрца шчыміць, даводзіцца паратунку шукаць на краі свету.

— Якога ражна тады прэшся? — недаверліва пазірае на мяне Аля. — Наколькі я здагадваюся, падарожжа гэтае не таннае. Лепш бы на здароўе грошы патраціў, якога ў цябе не так ужо і шмат.

— Не шмат, — згаджаюся я. — Але здароўе, Аля, за грошы не купіш. Банальна, але факт. Калі шчыра, ёсць у мяне абавязак адзін перад жыццём, — не падумаўшы, адкрываюся я і вагаюся, раскрываць ёй далей таямніцу ці не.

— Абавязак? — здзіўляецца яна ды іранізуе: — Перад Ізраільскім народам?

— Перад Богам, — удакладняю я сур'ёзна, не звяртаючы ўвагі на яе кпіны.. — Вярнуся, абавязкова раскажу табе сваю гісторыю.

— Чаму не цяпер? — здзіўляецца яна.

— Таму што не час яшчэ.

— Не час, — перакрыўляе мяне Аля і патупляе вочы. — Не разумею, якія такія абавязкі могуць быць у чалавека, які ні ўва што не верыць?.. Ніколі цябе не разумела, ніколі...

У голасе яе чутна крыўда і расчараванне.

— Відаць, ужо ніколі і не зразумею.

— Гэта праўда, — згаджаюся я. — Ды і навошта?..

Адчуваю сваю нікчэмнасць. Месца для нечага новага, пакуль яшчэ нязведанага ў жыцці, амаль не засталося ўжо. Разумею, што з гэтым трэба нешта тэрмінова рабіць, неабходна пазбаўляцца ад гэтага цяжару, ад старых рэчаў, ад выпадковых калег, якія раздражняюць сваёй палітычнай заангажаванасцю, большасць з якіх — пакаленне чорна-белых тэлевізараў, а таму, тлумачыць ім іх жыццёвую бесперспектыўнасць — усё роўна што Алю на ровары вучыць ездзіць. Сяброўства і зносіны з імі нясуць толькі небяспеку і шкоду. Эпідэмія духоўнай блізарукасці, якая за кароткі тэрмін атруціла значную частку грамадства, не абмінула бокам і мяне. З кім жывеш, ад таго і набіраешся. Я, як і гэтыя людзі, губляю свой унутраны зрок, раблюся такім жа бесперспектыўным прыстасаванцам. Мы нібыта сляпцы з вострава Закінтас: нам навязваюць правілы гульні, і мы пакорліва, бяздумна прымаем іх. Людзі схільныя гуляць у гульні без правілаў. Спачатку рабуюць, а потым займаюцца дабрачыннасцю. І ўсё дзеля задавальнення свайго «Я». Іншы раз мне здаецца, што паводзіны большасці з нас не дацягваюць да паводзін людскіх. Калі браць у агуле, мы так і не сталі нацыяй. Мы застаемся толькі «агульнасцю», аб'яднанай не ідэямі, а назвай, мы — жыхары пэўных гістарычных тэрыторый, аб'яднаных не адметнасцю і самабытнасцю культуры, а нікчэмным жаданнем выжыць. Таму ці варта здзіўляцца, што на паверхню з нас лезе ўсё тое бездухоўнае, да якога прыстойныя людзі не маюць ніякага дачынення? Нам жа да лямпачкі ўсё!.. Мы ж «пляваць хацелі на ўсіх!..» Вось і ходзім заплёваныя. Навучыліся падмяняць паняцці, налаўчыліся ашукваць блізкіх. Абыякавасць узвялі ў ранг талерантнасці. Няцерпнасць да хамства вызначылі як канфліктнасць. Счарсцвелі душой, звыкліся з абразлівай сапраўднасцю і робім выгляд, што нічога амаральнага вакол нас не адбываецца. Насамрэч, гэта духоўны генацыд, гэта гвалтаванне чалавека чалавекам, гэта насілле большасці над меншасцю. Мы дазволілі пералічыць нас як бараноў, дазволілі назіраць за намі праз замочную шчыліну, і ўсё дзеля нашай бяспекі, і ўсё дзеля нейкіх высокіх мэтаў. Якіх? Цяпер за намі сочаць паўсюль. Цяпер мы навідавоку, на ланцугу. Таму, зрэшты, якая нам розніца, на якой мове нас абражаюць...

— Будзеце выходзіць?

Нехта далікатна штурхае мяне ў плечы, і я незадаволена азіраюся. Пакрыўджана гляджу на маладога чалавека, потым у вакно, і разумею, што праехаў патрэбны мне прыпынак.

— Буду, — ціха прамаўляю я і раблю крок да дзвярэй.

Са спадарыняй Ларысай, так завуць мэнэджэра, мы знаёмыя яшчэ з мінулай восені, вандраваў разам на Валаам. Ларысе на выгляд гадоў пад сорак. Гэта ўсмешлівая, ветлівая і жыццярадасная жанчына. Адчуваецца, што яна на сваім месцы. У пакоі пануе належны парадак. Мэбля падабраная з густам. Паперы на стале акуратна раскладзеныя. На кніжных палічках стос філасофскіх кніжак. На падваконніках кветкі. У дадатак, Ларыса някепскі псіхолаг. Ва ўсякім разе, мяне яна «пралічыла» ў першы ж дзень нашага знаёмства. Аднаўляючы ў памяці тую колішнюю з ёю гаворку, я схіляюся да думкі, што паводзіў сябе тады не зусім лагічна, наіўна, па-дзіцячы. Круціцца ды прыкідвацца далікатнай цацай было б не варта. Паломнік з мяне сапраўды нікудышні. Вернікам мяне таксама назваць недарэчна. Біблію я, безумоўна, чытаў, але больш дзеля цікаўнасці, чым дзеля духоўнай практыкі. Некаторыя часткі з яе, такія, як «Кніга прытчаў Саламонавых», я і дасюль перачытваю. Малітваў як не ведаў, так і не ведаю. Акрамя хіба толькі што «Ойча наш».

— Ці ўпішуся я ў ваша асяроддзе, як думаеце? — пацікавіўся я ў яе тады.

— Упішацеся, — усміхнулася Ларыса. — З намі розныя людзі паломнічаюць.

Паўза зацягвалася.

— Я павінен прайсці нейкі спецыяльны тэст ці здаць іспыты?.. — парушыў я першым маўчанне і пагледзеў на жанчыну з несхаванай іроніяй. — Калі адмовіце, буду шукаць іншыя шляхі... Але калі ўжо спадобіўся паехаць, абавязкова паеду, не гледзячы ні на што.

— Праблема людзей у тым, што большасць з іх ні ўва што не верыць. Наст у сваю святасць. Калі шчыра, мне таксама недаспадобы фанатыкі... У тым ліку і рэлігійныя, — прызналася яна, ігнаруючы маю іронію. — Ужо нават тое, што вы наважыліся паехаць, што Бог вас спадобіў наведаць Святую Зямлю, заслугоўвае павагі. Ніхто не вяртаўся з паломніцтва тым, кім быў да яго. Дасць Бог, і вам пашанцуе...У тых, хто заблудзіўся, ёсць шанец знайсці дарогу. Тыя ж, хто нікуды не падаецца — нябожчыкі...

«О-о! Мысліць гэтак жа, як і я!» — усцешыўся.

— Гэта сапраўды так: калі вам без розніцы, дзе вы цяпер знаходзіцеся, значыць, вы не заблудзіліся, — сказаў я і на ўсякі выпадак удакладніў: — Адзін з законаў Мэрфі.

— Краіна, у якую вы едзеце, змяняе людзей, гэта дакладна, — праігнаравала маю літаратурную дасведчанасць Ларыса.

— Хацелася б, каб і вашы метамарфозы былі станоўчымі...

Падніваюся па стромкіх вінтавых прыступках на другі паверх і ціхенька стукаю ў дзверы — за імі цішыня. Стукаю яшчэ раз — ніхто не адказвае. Чакаю хвіліну і спускаюся ўніз. Сустракаю Ларысу на выхадзе з памяшкання.

— Ну, нарэшце, — ускліквае яна задаволена. — А я вас чакаю ўжо. Вы хоць не перадумалі?

— Што вы? Безумоўна не, — бянтэжуся я і апраўдваюся: — Яшчэ ж ёсць час. Некалькі дзён наперадзе.

— Па-першае, не некалькі дзен, а менш. А па-другое, заўтра я не працую, а квіткі на самалёт толькі вы адзін не забралі. Калі шчыра, сёння мне таксама не да вас, так што прабачце, адразу ж пяройдзем да справы.

Мы моўчкі паднімаемся на другі паверх. Яна адчыняе пакой і запрашае сесці.

— Хачу вам сказаць, што група сфармавана цалкам, — тлумачыць Ларыса. — Як і планавалася, складаецца яна з пятнаццаці чалавек. Пераважна гэта жанчыны. Ёсць, праўда, некалькі сямейных пар.

— Зразумела, — іранічна ўсміхаюся я. — Нашым мужчынам не да паломніцтва. Ім грошы зарабляць трэба...

— Кватэравацца будзеце ў адным пакоі з айцом Серафімам, — не звяжаючы, працягвае спадарыня Ларыса. — Ён вашага ўзросту. Не хвалюйцеся, айцец Серафім вельмі прыстойны і аўтарытэтны чалавек у нашай епархіі, спадзяюся, вы з ім пасябруеце.

Я згодна ківаю галавой.

— Збор у нядзелю раніцай ля царквы. А шостай гадзіне вас забярэ наш царкоўны «бусік». Вылет з Мінску пасля абеду. Вось і ўсё, калі коратка, — кажа яна і марудна корпаецца ў шуфлядзе. Нарэшце дае мне файлік з паперамі. — Тут квіткі на самалёт, страхоўка і напамінак. Праграма можа мяняцца, самі разумееце, там неспакойна. У Бэн Гурыёне вас сустрэне наш рускамоўны гід.

Спадарыня Ларыса вытрымлівае паўзу, потым працягвае мне перавязаны чырвонай стужкай невялічкі пакунак.

— Гэта... — марудзіць яна. — У мяне да вас асабістая просьба. У лаўры святога Феадосія, што ў Палесціне, а вы там абавязкова будзеце, ёсць наш чалавек, наша зямлячка... Сястра Фаціна. Я шчыра прасіла б вас: знайдзіце яе і перадайце ёй гэты пакунак. Кожны год мы перадаем ёй праз нашых паломнікаў пачастункі. У пакунку напамін аб нашай Беларусі. Знайдзіце яе абавязкова, — паўтарае яна.

— Безумоўна, перадам, — абяцаю я. Нашы позіркі на хвілінку сустракаюцца. Твар у спадарыні Ларысы пануры і сур'ёзны.

— Значыць дамовіліся, — адводзіць яна вочы.

— Не сумнявайцеся, — спяшаюся я.

— Дарэчы, у гэтым манастыры доўгі час пакоілася наша асветніца Ефрасіння Полацкая. Ведаеце пра гэта?

Ківаю галавой. Безумоўна, ведаю. Болей таго, хачу пабыць у тых мясцінах, дзе жыла ў свой час і дзе была пахавана беларуская праведніца. Гэта адна з маіх мэтаў спантаннай і неймавернай паездкі на Святую Зямлю...

# Любі акно



Марыя БАРАВІК

**1.**
*Глядзіць пытанне у акно,*
*Дае мне думкі валакно.*
*З яго цяпер мой тчэцца сон*
*Імклівым хмарам наўздагон.*
*Мо здарыцца, што ў часе недзе*
*Яго мне лёсіць перагледзець.*
*І гэту высь, і шыр з размахам*
*З лясногa поўдня аж на захад.*
*Аж закругляецца здаля*
*Па-за-падсвільская зямля.*
*Высока тут не толькі сонца,*
*А часам, сум у зорнай гронцы.*

**2.**
*У памяці заныла дно:*
*Гляджу ва ўсходняе акно.*
*Там брат на поўнач ад мяне,*
*На Балтыцы, у вечным сне.*
*А блізка ў полі, за гарой,*
*Калісь застаўся тата мой.*
*Рукой падаць — во хата прама —*
*Адсюль пайшла да таты мама.*
*І на паўднёвы ўсход — Сярога.*
*Пліта над ім — шчымлівы знак.*
*Ніжэй — бяздумная дарога.*
*А быў са мною, ля вакна.*

**3.**
*Няма яго — зрабіўся сном,*
*Хто выбраў гэтае акно.*
*Яно зусім не любіць штораў:*
*Яно адкрытае да зорак.*
*І марна жмурыцца ліхтар.*
*Яно ж узнятае да мар,*
*Для руху думкі, пачуцця,*
*Ад каляровага жыцця.*
*З маім акном зімой і летам*
*Вітаюцца вятры са свету.*
*А з белым светам кожным раннем*
*Душа вітаецца старанна.*

**4.**
*Жывільны вецер на пацеху*
*Казыча возера, цярэбіць.*
*Яно заходзіцца ад смеху,*
*А ён ужо — у небе недзе.*
*Бусла штурхае пад аблокі,*
*Яму збівае накірунак*
*І крылам не дае палёгкі.*
*А ў дзюбе птаха падмацунак*
*На рост і сілу буслянятам.*
*У тым гняздзе, да ветру ўзнятым,*
*Што на бетоннай тычцы звіта,*
*Трывогай да яе прышыта.*

**5.**
*Гляджу на бор і цень баровы,*
*На светлы ветлівы трохкутнік.*
*Дык там ці кветкі? Там каровы*
*Скубуць мядунку і трыпутнік.*
*Дубы мацуюць бліжні бераг,*
*Бяроза ў ветравых парывах*
*Схіляецца пад хмарай шэрай*
*Суком з выявай конскай грывы.*
*Заселі ў сад зялёны хаты.*
*Галовы іх прыгладзіў вецер.*
*Здаецца ім, што дзень багаты*
*Спакоем на бялюткім свеце.*

**6.**
*«Любі акно», — душа мне кажа, —*
*Яно тваё штодзень, штовечар.*
*Ноч не бывае ў ім, як сажа,*
*Бо з ранкам дадзена сустрэча.*
*Акно — прарыў у свет-прастору,*
*Аж за бярозавыя косы.*
*Хай за азёрка — не за мора,*
*На бляск і туманоў, і росаў.*
*Яно ў твой верш наставіць косак,*
*Яно ў вачах запаліць дзіва,*
*Пакажа воблакаў прачосы*
*І скажа, што блакіт шчаслівы.*

**7.**
*Акно, як ветлівы філосаф,*
*За гарызонт твой зрок скіруе*
*Ад гэтых хмаравых палосак.*
*І думкі дзіўна прафільтруе.*
*У  ім ёсць змест зімы і лета,*
*Вясны і восені самотнай.*
*І праяўляецца ўсё гэта*
*У позірку тваім вільготным.*
*Няма ў вакне тваім застою.*
*Хоць і праз марыва густое,*
*Імкнецца зрок у адкрыццё.*
*Акно — святло, акно — жыццё.*



**8.**
*Як зловіць позірк твой натхненне*
*Праз промень цёплы ці пякучы,*
*Акно разбудзіць летуценне*
*На кручы сноў, на думнай кручы.*
*Любі сваё акно ў прастору,*
*Каб угледацца не ў задворкі —*
*У птушку над зялёным борам,*
*У сонца, маладзік і зоркі.*

**9.**
*Любі, як слёзы набухаюць*
*На шкле ў нервовай навальніцы,*
*Як першы вецер уздыхае,*
*Каб у дажджы не утапіцца.*
*Як вогненныя мышкі ў норкі*
*(У хмары цёмныя) ныраюць.*
*Трымцяць віхлястыя аборкі,*
*І петлі зззяюць з небакраю.*
*І, як маланкавыя ніткі,*
*Не сшыўшы хмаравыя сшыткі,*
*Секунду ззяннем закрапалі,*
*Пакуль пярун глядзеў на палі.*

**10.**
*Любі вакно, калі вясёлка*
*Абдым пакажа над пасёлкам.*
*Яе характар каляровы*
*Тваё аж выгінае бровы.*
*Любі астылаю парою:*
*Збуджай у снежным роі мроі,*
*Як і ў нябесным думкі-зоркі*
*З салодкім прысмакам і горкім.*
*Любі, калі тугу сціраюць*
*Гракі, буслы перад вачыма;*
*Надзея волю выбірае.*
*І сніцца шчасная Айчына.*

# Паветраны змей



Фелікс БАТОРЫН

***

*З ідэі ў ідэю, з надзеі ў надзею,*
*У веру ізноў з паняверкі —*
*Вось так і жыву я, вось так і мадзею*
*І множу прыкідкі-прымеркі.*

*Куды ні прыду — у завулак,*
*на плошчу —*
*Прасторы для сэрца не бачу,*
*І шчыра зайздрошчу,*
*нязлосна зайздрошчу,*
*Хто ўмее і можа іначай.*

## Выбар

***…Пока не выбрал —***
***выбор есть.***
***Кірыл Кавальджы***

*Ёсць карлы і клары,*
*крадзеж і каралі,*
*Палац, і дамок,*
*і турма.*
*Ёсць выбар у тых,*
*што яшчэ не абралі,*
*А ў тых, што абралі, няма.*

*Каторы ўжо век паміж*
*пеклам і раем*
*З аглядкаю на Задыяк*
*Мы ўсё выбіраем, усё выбіраем —*
*І выбраць не можам ніяк.*



***

*Ручай нічый, і лес, і поле,*
*І неба з зоркамі ў прыполе.*
*Ад узыходу да ўзыходу*
*Усё смакуе хмель свабоды.*
*І толькі чалавеку горка*
*Быць нічыім,*
*як лес ці зорка.*

***

*Наўкола снежна*
*і лясіста.*
*Лыжня збягае пад адхон.*
*Сваё вяселле галасіста*
*Спраўляе чарада варон.*

*І гэткі гучны грай птушыны —*
*Трыумф варонінай душы, —*
*Што анямелі ўсе машыны*
*Непадалёку на шашы.*

## Паветраны змей

*А змею не ляціцца нізка,*
*Як нітку хто закараціў.*
*А змею неабходна нітка:*
*Увысь штурхае супраціў.*
*А змей, парваўшы нітку, рыне*
*У сінь, якой мяжы — нідзе.*
*А змей без ніткі з высяў сініх*
*На шэры прах зямны ўпадзе.*

# Пазнака лёсу



Алесь КІРКЕВІЧ

***

*Гэта горш за адсідку ці здраду сябра,*
*Горш за выбарчы фарс,*
*Горш за жыццё паперы й асадкі,*
*Горш за вайну для Вас.*

*Гэта як быццам калені ў снезе*
*І няма перад табой.*
*І зараз мазгі заменяцца ў месіва,*
*Жылы — у перагной.*

*Смех за спіной ды жарты расейскаю.*
*Б'е ў пустэчу баёк…*
*Шэрань бяроз, запальнічкі крэсіва —*
*Ды рухавік шчэ не змоўк.*

*…Словам сваім, у сацсетках адточаным,*
*Так жа выпальваў уіч энт,*
*Быццам па хмарах мы ўчора не крочылі,*
*Зораў задраўшы тэнт.*

## Зорная

*Пазнака лёсу на ілбе.*
*Паперамення ззяюць зоры.*
*Тваіх вачэй прастора мне*
*Дрыгвуператварае ў мора*
*І вочы колеру дрыгвы*
*Дрыжаць, нібы на небасхіле.*
*Падымеш голаў — разам МЫ*
*У зорных сферах, не ў магіле!*

***

*Ці напішаш мне першая*
*Вершам*
*Ці, можа, прозай?*
*Ты можаш па-рознаму.*
*Ведаю,*
*Паклічаш мяне на сустрэчу,*
*Як цемра апусціцца вечарам.*
*Ведаеш… цемру —*
*Перамагаюць свечкі!*
*Яны былі б сёння дарэчы*
*У нашым зямным раі…*
*«Ведаеш?»*
*«Ведаю…»*

***

*Рывок наперад долі-баязліўкі —*
*Тым больш рашучай,*
*чым менш шансаў на жыццё.*
*Цяжарнай перамогай,*
*абцяжаранай прапіскай,*
*А пад прапіскі штампам —*
*сэрцава біццё.*

*Дамокл не вытрымаў, а меч упаў:*
*Без працы сёння не застанецца Харон.*
*Пасаду нехта страціў,*
*нехта — мовы дар,*
*Калі выносілі на задні двор*
*з палацу трон…*

# Забыты край

**Пісьменнікі ва ўсе часы помсцілі тым, хто без дазволу «кранаў» іх творы.**

Зразумела, па-мастакоўску. Калі падробшчыкаў свайго тэксту нямецкі філосаф адправіў у плаванне разам з дурнямі, то І. Катлярэўскі нейкага шляхціца Парпуру, які самавольна заняўся выданнем ягонай «Энеіды», у наступных раздзелах паэмы змясціў у пекла. Паэты, нібы маці пра дзяцей, клапоцяцца пра «маральнае здароўе» твораў.

У «Сказе пра Лысую гару», напрыклад, змешчаны дадатак «Папярэджанне падробшчыкам». Потым аўтар уключыў у наступныя выданні «Другое і апошняе папярэджанне падробшчыкам», што сведчыць аб істотнасці падобнага раздзела ў агульнай задуме твора...

Незадоўга да смерці народнага паэта я перадаў яму працяг паэмы, напісаны ў Гомелі нібыта ад імя жанчыны. Ніл Сымонавіч быў вельмі здзіўлены і ўсцешаны падобнай спробай. Аўтар твора, як пазначана ў тэксце, — Вядзьмарка Лысагорская. Называўся ён «Лысагорская лірычная». Надрукаваны на машынцы, складаецца з «Уступу», трох раздзелаў і «Эпілогу»; агульны аб'ём — чатыры старонкі машынапісу; замест некаторых слоў шматкроп'і (спрацаваў унутраны цэнзар). Уяўляе сабою споведзь жонкі Ведзьмака Лысагорскага, якая пераняла творчы вопыт мужа і цяпер хоча распавесці «пра горкае жыццё жанчын на Беларусі, пра тое, чым каханне вымяраюць, пра тое, як мужчыны выміраюць»...

Залежнасць ад «Сказа» вельмі выразная, што і зусім не дзіўна...

## Вядзьмарка Лысагорская

**Лысагорская лірычная**

*«О, край мой родны, ты выкляты богам!»*

**Уступ**

*У гэтай споведзі я расказаць бяруся*
*Пра горкае жыццё жанчын у Беларусі.*
*Пра тое, чым каханне вымяраюць,*
*Пра тое, як мужчыны выміраюць...*
*Вядзьмак мой Лысагорскі вершы піша,*
*А сам начамі.../ножкай/ не калыша,*
*То — у бутэльку ён глядзіць, а то налева,*
*Мяне ж завуць другія каралевай!*
*Мой Лысагорскі — лысы ён і горкі.*
*Які тавар, такі таму і попыт,*
*Ды дзякую, што не блудніцы-зорцы,*
*А жонцы перадаў свой творчы вопыт.*
*І вось сціло ў руках сваіх трымаю,*
*Бо расказаць вам тое-сёе маю...*

**І**

*Забыты край...*
*Ніводнага мужчыны!*
*Гляджу цнатліва ўдалеч з-пад рукі,*
*З якое, падкажыце мне, прычыны*
*Вакол — ці блазнюкі, ці гаўнюкі?..*
*Забыты край...*
*Спрадвечнае праклацце*
*Над Беларуссю роднаю вісіць.*
*Найлепшае я апранаю плацце,*
*Пайду сабакам сена лепш касіць!*
*Чужынцы! Дзе былая ваша слава?*
*О, белакуры вікінг, о, татар!*
*Заіржавелі латы Вячаслава*
*Адамчыка, і ківеры гусар*
*У Саюзе родным параслі травою.*
*Апошні шляхціц ўсеўся на насест,*
*Гардзіцкі не махае булавою,*
*Вярцінскі вершы яйкамі нясе!*
*Ды што казаць! Саюз — такая справа,*
*Ад аксакала — да маладняка,*
*Хоць злева падступайся, хочаш — справа, —*
*Усе накшталт Алеся Рыбака,*
*Нягеглыя, нядбайныя заморкі,*
*Ім толькі порах пад сябе пускаць.*
*На белы ножанькі ўздзену я апоркі,*
*Пайду таго, адзінага шукаць!*
*Скажы мне, вецер, дзе той прынц заморскі?*




*Гукаю — рэха ўдалечы звініць...*
*Мне адгукаецца Алёха Кулакоўскі...*
*А што мне з небаракаю рабіць?..*

**ІІ**

*Над Лысагор'ем вецер не лунае,*
*Вакол стаіць святая цішыня...*
*З ванючым смыкам Скрыпка выпаўзае,*
*За ім — уся астатняя х.....*
*Салодкага, глядзі ты, захацелі!*
*А ці ты справішся з жанчынаю, другі?*
*Ты бурбалкі пускаў яшчэ з купелі,*
*Дык зараз лепш сядзі і не п...!*
*Вам толькі б упустую паплявузгаць...*
*Ды — з роту дым, а ззаду — гук адзін.*
*Вось выйшаў Хомчанка з ... х... на вуснах,*
*З вісячай лямпаю сваёй, як Аладзін...*

**ІІІ**

*Забыты край...*
*Як хочацца мне плакаць!*
*Ад горкай безвыходнасці такой.*
*У выдавецтве ўсеўся Янка-лапаць,*
*У «Маладосці» — дрында Сіпакоў!*
*А да таго ж узяць Алега Лойку,*
*Хіба ён здольны на вальяж які?*
*У «Полымі» сядзяць адны шаройкі,*
*Адзіны Жычка — хлопец быў не промах:*
*Сябе жаночым кодлам абкружыў...*
*Вось і цяжарыць Р. Баравікова,*
*Ах, Жычка, Жычка, дык каб ты так жыў!*
*Адна ляжыць, самотная, у ложку,*
*Аўдоця Лось, жанчына хоць куды;*
*Пасляць бы ёй Бялевіча Антошку,*
*Каб не было ізноў якой бяды.*
*Ды што з яго! Ён, як каліф у кайфе.*
*Ін выно вярытас даўно знайшоў.*
*А можа Кучар?*
*Кучар хоча ў Хайфу.*
*Савіцкі? — Той на пенсію пайшоў!*
*Вярба ж у Мінску ссохлася да лінкі...*
*Калі раней — хоць на чужым плячы*
*Ці А. Шаўні, ці аксакала Віткі,*
*Дык зараз — лепш на поўдзень уцячы!*
*А ў Кактэбелі — зноў вербагвардзейцы.*
*На гэты раз — ўжо крытыкаў атрад.*
*Ды што ёй з іх? Яны нібы індзейцы*
*У прэрыях: ні ўперад, ні назад!*
*Жанчыны-літаратары — у вырай*
*Паразляцеліся па розных гарадах.*

**IV**

*Там звякне Басуматрава на ліры,*
*А там — Тулупава з самотаю ў вачах.*
*О, дзе ж вы, рыцары, о дзе ж вы, Дон-Жуаны?!*
*Якім жа чынам свет пазбыўся вас?*
*Прывідам толькі шляхціцаў жупаны,*
*Прывідам толькі рыцар Фарцінбрас...*
*А тут — ні выгляду, ні прозвішча, ні ліры!*
*Адзін Бакаль, а той — зусім Бурдзель!*
*І іншыя кудлатыя сатыры,*
*Ператварылі што паэзію ў бардэль!*
*Гаротныя, я ў роспачы кую.*
*Як мне жыццё нанова распачаць?*
*Бо доля ўжо жаночая такая...*
*Хачу развод я з Лысагорскім ўзяць!*

**Эпілог**

*Забыты край...*
*З адзінаю надзеяй*
*Як Зульфія на Блізкі Ўсход гляджу:*
*Ці то паб'юць арабы там яўрэяў,*
*Ці тыя ім пад хвост загнуць важжу?..*

Пра гэта ж пафасна гаворыцца ў «апакрыфічнай» шостай частцы «Сказа пра Лысую гару», якая ананімна распаўсюджвалася асобна ад «кананічнага» тэкста. Так, змест паэмы выдання 1988 года склалі толькі чатыры часткі з заключным раздзелам «Замест эпілога». Пра гэта сведчыць сам аўтар, які сцвярджае, што пасля рассылкі ў красавіку 1971 года паэма «складалася толькі з пяці раздзелаў (пяты — «Замест эпілога»). Лічба шэсць падкрэслівае, што яшчэ адзін ананім далучаецца да велічнай справы, працягваючы тэкст паэмы новай часткай, якую пазначае лічбай 6.

## Сказ пра Лысую гару

**Частка шостая**

*Цясляр не сядзе век за кросны,*
*Жняя не стане кавалём,*
*А вось бывае, што зайздроснік*
*Ў паэты прэцца напралом.*
*І хоць ён рытмікі не чуе,*
*І мовы роднай — ані ў зуб,*
*Радкі шурпатыя шрайбуе*
*І ўзводзіць нехлямяжы зруб.*
*Не прыжывецца ў доме муза?*
*Не будзе твор чытаць народ?*
*Начхаць на ўсё! Праз колькі год*
*У члены творчага саюза*
*Пралезе гэты вершаплёт*
*І зойме важную пасаду,*
*І класікам даваць параду,*
*Як не пісаць і як пісаць:*
*Спярша тактоўна, незласліва:*
*«Аднак...» «Падчас...» «І лепш магло б ...»*
*Каб тогаю добразычліўца*
*Прыкрыць бычыны цвёрды лоб.*
*Затым смялей: «Няўдала». «Слаба».*
*Усіх — пад нож, усіх — з пляча...*
*Я ведаў гэткага нахаба —*
*«Паэта» К.ышку-смаркача.*
*Вучыў пісаць ён верш і байку,*
*Аповесць, п'есу і раман...*
*І ўцёк, разбіўшы балалайку,*
*Пад скамаронным балаган.*
*З Парнаса кубарам скаціўся*
*Яго сябрук — С..альцоў Міхась,*
*Ён здонжуаніўся і спіўся*
*Ды мордай пляснуўся ў гразь.*
*Былі ж абодва ўжо ў абойме,*
*Былі, як кажуць, на кані.*
*І ўслед за імі лезлі плоймай*
*Бяздарныя Канэ-Шаўні.*

*Мне з Лысае гары, паверце,*
*Усё да кропелькі відно:*
*Хто, як ракета прэ ў бяссмерце,*
*Хто ціха коціцца на дно.*
*Таму! Бо змог у час прыкмеціць —*
*На тое ж я і ёсць вядзьмак —*
*Што ў вершыках Прыходзькі Пеці*
*Як вішні спеюць — дробны мак.*
*Што Звонак не адзеў валёнак,*
*Бо ён і ў семдзесят — арлан,*
*Паціху спакушае жонак*
*Тых лысагорскіх пасялян.*
*Якія д'яблу прадаліся —*
*Начамі ловяць славы цень,*
*Забыўшы, як рыпяць масніцы*
*Туды, дзе жончына пасцель.*
*Падгледзеў, як Алесь Бачыла*
*Нёс на Парнас сваё тачыла.*
*І я падумаў: «Вось дык хват...»*
*Напэўна ж будзе лаўрэат...»*
*Але прайшла зіма і лета,*
*І дзесяць лет і многа зім,*
*Не стаў Бачыла А. паэтам,*
*Змарнеў зусім.*
*Яму на пяткі наступае*
*Спрытняга Лукша Валянцін,*
*Лібрэтта сумныя стругае*
*Без Алтухова ўжо, адзін.*
*На «К» усе бяздарныя у «ЛІМе»:*
*Капусцін. Каршуноў, Шымук*
*І Федасеенка-Барсук,*
*Ды Жычка творамі пустымі*
*Частуе чытачоў, а з імі*
*Хаўтурыць заадно Ул. Крук.*

*Расце лік паэтычных брацій...*
*Здаўна так павялося ў нас:*
*Не толькі жонку — сына, зяця*
*Цягнуць прывыклі на Парнас.*
*Альянс Лужанін плюс Пляфмбаум,*
*Ступіўшы крок, размяк і змоўк.*
*Літаратуру ж не пазбавіў*
*Ад шлюбаў-трукаў іх урок.*
*Вяселлі вольныя па-польску*
*Варганіць Арцік Зэйдаль-Вольскі,*
*А там, глядзіш: праз пару год —*
*Па-італьянскаму развод.*
*Натхненне — Галі Вернасевіч,*
*Яўсеевай, — жывы прыплод,*
*А сам тлусцее і расце ён*
*Углыб і ўшыркі спакваля,*
*Для ўсіх хапае траў мурожных*
*У беларускай старане...*
*Вунь на літфондаўскую пожню*
*Бярозкін выпусціў Канэ:*
*«Грызі травіцу, кабыліца,*
*Няхай ласніцца з тлушчу пойсць.*
*Твая задача — жарабіцца,*
*А везці воз — Іваны ёсць».*
*Панізнік, як той нішчы, свішча,*
*Струменіць юшка-каламуць,*
*Чакае: духу дасць Янішчыц,*
*А той самой няма чым дзьмуць.*
*Калісь не толькі на паперу —*
*І ў вочы секанець магла,*
*Пакуль т...му афіцэру*
*На ўторы ключ не аддала.*
*Да сціплых слава век не прыйдзе*
*На сырамятным паваду*
*Пальчэўскі цягне Цулукідзе*
*У цэх дзіцячы піць бурду.*
*Хто маладым паспачувае?*
*І Брыля-Янкава рука*
*У супер-геніі ўздыме*
*Як зяця, так і сваяка.*
*Ніхто тут слова не прамовіць,*
*Бо з плана выляціць ураз, —*
*Сынка-бамбізу Марціновіч*
*Штурхае моўчкі на Парнас.*
*І Асіпенка, поп-растрыга,*
*З амвона песеньку пяе,*
*Каб байструку — Алесю Крыгу*
*Даць лаўры, — мо і не прап'е.*
*А Венька Рудаў хоць з прахвостаў,*
*Пад старасць трапіў у канфуз,*
*Здурнела баба: «Жонкай простай*
*Быць не хачу — цягні ў Саюз!»*
*Стаў на калені перад Люсяй*
*Алёша — дабрасельскі дзед:*
*«Я не стары яшчэ, бабуся,*
*Дазволь, я на цыбе ўзбяруся,*
*Мо ў нас народзіцца паэт...»*
*Кляне біблейскага Анана*
*Ул. Караткевіч так і сяк:*
*Нашчадкаў мець бы непагана,*
*Ды семя выліў у кулак.*
*Вядома ж, як радні багата,*
*Пажар не страшны жабракам.*
*Збудуюць талакою хату,*
*Збяруць на кніжку па радку,*
*І сумны будзень стане святам...*
*Дзе пагулянка — там ракой*
*Я. Семяжонаў — швагер Танка,*
*Пляменнік Танка — І. Скурко.*
*І не зайдрошчу я патомкам, —*
*Якім жа стане іх Парнас,*
*Калі пладзіць сабе падобных*
*Пачнуць Тармола, Чэрня, Клаз?*
*Тады ўся бездар развінецца,*
*Гайнёй у вечнасць сігане,*
*Засее нашу ніву смеццем —*
*Ніхто й сцяблінкі не сажне.*
*Дарэчы, ўспомніў я Тармолу.*
*Вось дзе паэт — не бачыў свет:*
*Ні мадрагалу, на крамолы*
*Не можа выседзець як след.*
*Калі Бураўкін прэцца ў моду,*
*Сяброў адсунуўшы плячом,*
*Гілевіч смокча верш народны,*
*А Жычка — трактарную оду*
*Варганіць гаечным ключом,*
*Грачанікаў блізнятак множыць,*
*Вярцінскі цень гне на пляцень, —*
*Тармола й гэтага не можа,*
*Гудзе, як сонны авадзень.*
*А пыхі! Ён трыбуну мае —*
*Блакітна-шэранькі экран,*
*І толькі сам сябе ўсхваляе,*
*Грыміць, як шэвецкі барабан...*

**Іван Штэйнер,**
**доктар філалагічных навук**

# Літаратура — як духоўны дар

**Калі я прыгледзеўся да аўтарскага складу калектыўнага зборніка «Вешчуны ідуць на Беларусь» («Кнігарня пісьменніка», «Кнігазбор», 2017) двух апошніх выпускаў Школы маладога пісьменніка, якая працуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў, то налічыў ажно 25 дзяўчат і 7 хлопцаў...**

Найчасцей сённяшнія маладыя літаратары пішуць пра свой унутраны свет, пра ўласныя вычуванні свайго жыццёвага атачэння, а таксама на актуальныя грамадскія тэмы, зрэдку пра каханне. Адчуваецца, што глабалізацыя свету і яе асноўны лакаматыў, — прагматызм ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці, — гэта найбольш часты складнік іх сюжэтаў і ўвогуле празаічных, па-мастацку яшчэ далёка недасканалых, тэкстаў.

Пры чытанні калектыўнага зборніка «Вешчуны ідуць на Беларусь» у мяне склалася ўражанне, што бальшыня аўтараў альбо не чытала, альбо даўно не перачытвала лепшыя апавяданні нашых выдатных пісьменнікаў, аналізуючы і супастаўляючы іх творы ў працэсе закладкі асноў уласнай літаратурнай кухні. А гэта ж класічны фундамент, на якім малады беларускі празаік павінен выбудоўваць і намольваць асабісты храм для свайго жыццёва-грэшнага спавядання.

Вядома, сёння адукаваныя людзі засвоілі азы літаратурнай працы (як від, як жанр, як тэкст, у рэшце рэшт), навучыліся (і пры жаданні могуць удаскanальвацца) прыстойна пісаць і, карыстаючыся навейшымі тэхналогіямі ды тэхнічным прасоўваннем напісанага і выдадзенага, могуць увасобіць (і ў асобных выпадках даволі паспяхова) сваё імя ў сучасным літаратурным працэсе. Гэта неаспрэчна, бо відавочна. Але каб ствараць літаратуру як МАСТАЦТВА, прабачце, тут ужо трэба мець талент. Адны кажуць, што ён ад Бога (прыроды і родавага наследавання), іншыя — што ад вялікага пожаду і катаржнай працы... Уласна я ўспрымаю гэта складнікамі аднаго цэлага.

Цяперашні час страчвае ўнармаваныя формы жыцця — дэмакратыя і глабалізацыя спараджаюць стыхію грамадскіх дзей, учынкаў, вычуванняў, разбіваюць гармонію людской сусветнай уладкаванасці і змушаюць асобнага чалавека перадольваць узніклыя перашкоды дзеля захавання яго ўласнай унутранай упарадкаванасці. Адсюль — бясформеннасць, нелінейнасць пісьма, страта пэўнасці і напоўненасці сюжэтнай асновы твораў. І — пошук ды ўратаванне свайго індывідуальнага чалавечага я-свету ў дыфузійным і хутказменным людскім сусвеце... Уласны стыль — аснова мастацкай творчасці. Няма яго — няма ні пісьменніка, ні твора. Ёсць — літаратар і тэкст.

Нельга сказаць, што сярод аўтараў згаданага зборніка адсутнічаюць здольныя і адораныя талентам людзі. Яны ёсць, і ўжо прадбачваецца іх магчымае праяўленне напоўніцу ў недалёкім часе. Аднак называць і ўсхвальваць канкрэтныя імёны пакуль паасцерагуся (намёкі мной зроблены). Неўзабаве яны самі выявяцца і скажуцца. З новымі творамі і ўласнымі кніжкамі гэтых аўтараў чытачы не прамінуць сустрэцца.

Якія ж агульныя тэндэнцыі (станоўчага і адмоўнага характару) можна вызначыць у творчасці маладых аўтараў?

Пры ўважлівым чытанні адчуваецца, што ў большасці твораў бракуе сямейнага (хатняга) цяпла. Недастаткова акцэнтаваныя ў асобных аўтараў грамадскія і грамадзянскія аспекты сучаснага беларускага жыцця. Наўпрост кажучы, адсутнічае *задышлівае дыханне* Беларусі, яе нацыянальныя і грамадскія праявы. Слабыя, без цэнтрабежнай (узаемапрыцягальнай) сілы, унутраныя дыялогі герояў (і, як вынік, узаемаадносіны аўтара і герояў). Хацелася б верыць, што жыццёвай гармоніі можна дасягнуць і пры разнавектарным успрыняцці свету... Тут




жа часцей за ўсё пераважае маналог, калі чалавек-герой і чалавек-творца роўнааддаленыя для паразумення і ставяць сябе ды свае ўнутраныя светапогляды па-над агульнай праблемай чалавечага жыцця. Падчас натуральна спрабуюць збегчы ад цяжкасцяў рэальнага светаўладкавання ў свае змроеныя метафарычныя «хованкі» (казкі, фэнтэзі, гістарычныя фантазіі і падсвядомасныя прадчуванні ды псеўдафіласофскія алюзіі магчымага). Гэта вельмі просты і даступны метад, але ён не вырашае задачу і сутнасць сапраўднага мастацтва і літаратуры... Матывы экзістэнцыі ў апаведах таксама маюць адценні прыватнага характару, хоць смерць лунае ў тэкстах і падтэкстах ці не кожнага твора зборніка.

Выклікаў цікавасць апавед, назовам якога азагалоўлены ўвесь зборнік літаратараў-дэбютантаў («Вешчуны ідуць на Беларусь»). Дваццацісямігадовая **Марыя Маляўка,** евангельская хрысціянка, аматарка дзікага агратурызму і адна з найбольш таленавітых у гэтым выданні, *«лічыць, што пісьменнік мае дзівосны дар: называць тое, што не мае імёнаў»*. Сюжэт твора такі: у забытую палескую вёску, дзе людзі жывуць як могуць, а не як хочуць, напярэдадні Калядаў прыходзяць «тры Вешчуны з Усходу»... Пасля сустрэчы з імі як бы нічога лепшага ў жыцці вяскоўцаў не адбываецца, апроч таго, што іх абяцаюць далучыць да сеткі інтэрнэту, ды хлопец, які загруз з машынай, на якой вазіў дапамогу дзецям Данбаса, пасля таго, як людзі дапамаглі яе вызваліць са снежных сумётаў, прапаноўвае ім падарожжа на свята ў бліжэйшы горад...

*«— Слухайце, паедзем сёння ў горад, у царкву. Вы выручылі мяне, а я вам зраблю штосьці прыемнае. Пабудзем на свята сярод людзей*<...>

*— Здаецца штосьці зрушылася з месца, — сказала сястры Надзейка.*

*— Ага, зрушылася. Мы.»*

Апошні абзац тут, вядома, выразны і важны. І ўсё ж не зусім зразумела, што канкрэтна даводзіць спадарыня Маляўка ідэяй свайго твора: ці то, трываючы і не губляючы веры, чакаць прыходу «вешчуноў» з добрай весткай, ці то самім, змагаючыся і ствараючы, набліжаць жада-

**Каб ствараць літаратуру як МАСТАЦТВА, прабачце, тут ужо трэба мець талент. Адны кажуць, што ён ад Бога (прыроды і родавага наследавання), іншыя — што ад вялікага пожаду і катаржнай працы...**

ныя перамены. Гэта аддадзена на водкуп чытачам і іх выбару. І такі варыянт не ёсць горшым.

У **Крысціны Бандурынай** апаведы з глыбокай задумай, але з не заўсёды дарэшты спраўджаным ажыццяўленнем. Маладой аўтарцы яшчэ бракуе мастацкай саліднасці, хоць, трэба прызнаць, мова добрая, стыль роўны і тэксты чытэльныя. Крысціна, дарэчы, ужо атрымлівала «Залаты Апостраф» ад «Дзеяслова». У **Надзеі Бароўкі** акрэслена спроба напісаць яркі мастацкі твор. На жаль, вынік пакуль не надта ўражлівы. Маладому літаратару **Аляксандру Дамброўскаму** пакуль што бракуе майстэрства і мастацкага вопыту. Ён чалавек удумны, афарыстычны, схільны да структурнай выбудовы тэксту.

У **Яны Еўдакімовіч** ёсць добрая аснова для працягу і развіцця мастацкай літаратурнай творчасці. У зборніку змешчаны толькі адзін яе кароткі апавед «Гранд батман», але і яго хапіла мне, каб напісаць такое «станоўчае заключэнне». Напрыканцы гэтага апаведа мяне ўразіў такі кароткі і просценькі абзац, якому я прыдаў найбольшае значэнне: *«Трынаццацігадоваму дзяўчу здавалася, што прыгажосць — гэта ўсё, чаго чакае ад яе свет»*. А мы перафразуем — мастацкай красы і сілы. **Ганна Лявоненка** і **Вераніка Ляўчук** пішуць казачныя сюжэты, але пакуль яшчэ сентыментальныя і, можна сказаць, даволі кволыя ў мастацкім сэнсе, асабліва ў Ганны, на сем гадоў маладзейшай за Вераніку, якую выратоўвае метафарычная адстароненасць. Рэдкія мужчыны ў зборніку (**А. Севярын** і **Павел Слізевіч**) пішуць замалёўкі на адцягнута-змысленыя тэмы дзяцінства. У рускамоўнага **Рамана Стэфаненкі** тэкст больш сур'ёзны, але таксама недалёкі ад газетнага жанру (працытую аўтара:*«полёт ради полёта, полёт как искусство — целесообразный полёт без цели»*). Эскізнымі накідамі (апавядальнымі эпізодамі) можна назваць кароткія тэксты рускамоўных дзяўчат **Валерыі Тамковіч** і **Алены Цімашэўскай.** З цікавасцю і недаўменнем я прачытаў у апаведзе «Взрослая жизнь» (апошняй са згаданых) такі заключны пасаж: *«Вот она, взрослая жизнь — работать и думать о деньгах. Вот она, взрослая жизнь — плавать в едких облаках по желанным дорогам и, задыхаясь от проблем, терять счастье, расплёскивая доброту»*. Неяк не надта пераканаўча і нават па-бээрэсэмаўску прымітыўна, тым больш, што гэта словы ад аўтара. **Вольга Чарнова** таксама *«трохі піша апавяданні»*, аднак, заўважу, што яе апавед «Гэты шалёны» пра рэжысуру (тэатральную і паўсядзённа-псіхалагічную) мае права на жыццё.

Гэта такі «безаглядны» і абсалютна суб'ектыўны тэкст пра апавяданні выпускнікоў Школы маладога пісьменніка 2014—2015 гадоў. Далей у гэткім жа стылі агледзім напісанае выпускнікамі 2015—2016 гадоў. Шчыра кажучы, тэксты першых і другіх мала чым адрозныя, маючы на ўвазе іх мастацкую якасць і ступень літаратурнага майстэрства. Зрэшты, пры карпатлівай працы гэта нажыўное. І ўсё-ткі параіў бы маладым аўтарам чытаць больш літаратурнай крытыкі, прычым сур'ёзнай, не цураючыся і класічнай (М. Гарэцкага, А. Адамовіча, Дзм. Бугаёва, М. Стральцова, А. Станюту, М. Тычыну, А. Сідарэвіча), бо сённяшняя крытыка падобная да надзённай адпрацоўкі (сяброўскай, гуртавой ці грантаўскай), таму больш уважная да постаці самога пісьменніка, чым да яго тэкстаў і творчасці ўвогуле.

Рускамоўны апавед «Красные цветы» **Юлі Арцёмавай** даволі добра выпісаны, і яго можна аднесці да мастацкай прозы. Неблагія стылёвыя практыкаванні ў **Марыі Бадзей,** але не больш за тое. Бадай, лепшае з прачытанага ў зборніку — гэта два апавяданні **Івонкі Вярбы** (Марыны Булатоўскай) з Віцебску «Караблікі ў малацэ» і «Бедная Марыя». Добрая проза, амаль сталая, ёсць сюжэт, вобразы, характары — а ўсё дзякуючы жыццёваму і творчаму вопыту аўтара. Адчуваецца, што спадарыні Марыне ёсць што сказаць чытачу. Будзем чакаць новых публікацый. У **Святланы Галузы** ў апаведзе «Яго забіла няпраўда» праяўляецца пажадная спроба зазірнуць у будучыню. Аднак недахоп неабходнай для такой задумы эрудыцыі не дазваляе аўтару выйсці на глыбокія, ужо не кажучы пра глабальныя, праблемы сучаснай тэхналагічнай дзейнасці чалавека, тым больш данесці чытачу пэўныя, запатрабаваныя цяперашнім альбо будучым жыццём, высновы. Прыцягнула ўвагу псіхалагічная проза **Наталлі Голубевай.** А вось **Аліна Длатоўская** спрабуе сябе ў фэнтэзі. Трэба адзначыць яе добрую мову. Рускамоўная **Аліна Жылінская** закранае тэму дзявочых (падлеткавых) комплексаў. І ў цэлым яе апаведы чытэльныя. А вось **Зараслава Камінская** ўжо публікавалася ў часопісе «Дзеяслоў» і нават была намінаванай на прэмію «Залаты апостраф». Яе апавяданне «Гульня слоў», напісанае ў жанры фэнтэзі, арыгінальнае як у стылёвым, так і ў сюжэтным выкананні. Можна сказаць, сталая проза. Ды і тэма даволі сур'ёзная і суровая — праецыраванне падзей 1937 года, калі ноччу з 29 на 30 кастрычніка энкавэдыстамі былі масава расстраляныя беларускія пісьменнікі, на нашы сучасныя рэаліі... Апавед **Канстанціна Касяка** «Чырвоная зорка» напісаны для дзяцей школьнага ўзросту. Сюжэт яго зноў жа вяртае нас да злапомных 30-х гадоў сталінскіх рэпрэсій. Твор выбудаваны і выпісаны на прымальным узроўні, але, як мне падалося, яшчэ далёка не скончаны...

Тры кароткія рускамоўныя апавяданні **Дар'і Кулік** — неблагая заяўка на арыгінальнасць і самабытнасць, як у стылі пісьма, так і ў мысленні, сюжэтных хадах і мастацкай вобразнасці. **Ніна Лістота** прапанавала рамантычна-фантасмагарычную малую прозу. Трэба прызнаць, чытэльную, але пры гэтым усё ж лёгкаважную. Пакуль толькі на дзённікавы эскіз хапіла натхнення ў **Юліі Сямашка.** Чытэльная псіхалагічная (рускамоўная) проза — пра чалавека і яго ўнутраныя вычуванні — у **Рымы Ушкевіч.** Дабротна выпісаны мужчынскі трыптых «Мальчики» таксама рускамоўнай **Веры Філенка;** у гэтым жа моўным шэрагу без асаблівай напругі чытаюцца дзіцячыя навелы **Аляксандры Хамянок** і, талкова зробленая сюжэтна, з добрай мовай і стылёвай агранкай, кароткая проза **Сяргея Шаматульскага.**

Фантастычна-філасофскі рускамоўны апавед **Дар'і Русецкай** «Семнадцать секунд» мяне захапіў, не зважаючы на дваццацігадовы ўзрост аўтара...

Магчыма, хто чакае ад мяне пэўнага рэзюмэ наконт таго, што калектыўны зборнік маладых аўтараў — гэта своеасаблівая лакмусавая паперка на прысутнасць у нашым літаратурным працэсе новых талентаў... Хіба я супраць? Няхай так і будзе.

**Леанід Галубовіч**




# «Замнога зямнога»

**Нядаўна споўнілася і даволі гучна адзначалася пятнаццацігоддзе выдання часопіса «Дзеяслоў», што якраз супала з выхадам яго юбілейнага 90-га нумара.**

Ён атрымаўся глыбокім і разнастайным, як у мастацкім, так і ў жанравым ды ідэйным плане. Не адступаючы ад класічна-традыцыйнай лініі, рэдакцыя не пакідае ўбаку маладых, нават пачынаючых адораных аўтараў і тых творцаў, якія займаюцца пошукамі і выпрабаваннем новых накірункаў у сваіх літаратурных памкненнях.

Адразу прыпынюся на завяршальнай частцы публікацыі рамана **Людмілы Рублеўскай** «Пантофля Мнемазіны», што перацякла з папярэдняга нумара і з'яўляецца як бы цэнтрычнай сярод іншых тэкстаў часопіса. Я ўжо акцэнтаваў увагу аўтара на тым, што гэты твор перанасычаны другаснай фактурай, што прыводзіць да нечаканай заценевасці некаторых калізій і заблытанасці сюжэтных ліній рамана. Хоць прызнаюся, што, не зважаючы на гэта, тэкст трымае чытача ў пастаяннай інтрыгоўнай насцярожанасці і загадкавай цікаўнасці далейшых наступстваў. Фантазіі аўтара і архіўныя ды гістарычныя звесткі часам ідуць як паралельныя прамыя ў помным вершы А. Вярцінскага, сыходзячыся ўжо тады, калі не чакаеш гэтага. Вядома, у тым і палягае талент, каб падвесці магчымае да замысленай ідэйнай высновы. Амаль усе героі Л. Рублеўскай, ад доктара Корвуса да яго блізкіх паплечнікаў і нашчадкаў, маюць як бы сваіх двайнікоў, як лабараторных так і натуральна падстаўных — і гэта таксама спараджае падвойныя (падтэкставыя) алюзіі. У лепразорыі (як у правобразе таталітарнай краіны), аказваецца, можа захоўвацца жывое і чыстае семя для будучага нацыянальнага пераўтварэння. Служэнне і сексоцтва — заплеценыя ў адну канву, слугуюць не надта каб бурнай, але віраватай раманнай плыні. Тут і інтэрнэт-адступленні з пабочнымі тлумачэннямі твора, і нават спасылкі на бальшавіцкую газету Узбекістана «Правда Востока», і пераказ легенды фальклярыста П. Шэйна з наступнай высновай аўтара: *«Легенду абавязкова трэба выкарыстаць. Магчыма, перанёсшы ў наш час. Вох, і намучаецца ў мяне Корвус... Я працерла вочы, натомленыя маніторам. І зноў у адной кампаніі — здрайца, кат і ахвяра... Мае звесткі пра Люцыяна Станіслававіча Корвуса былі адрывістымі, як у студэнта, што на лекцыях гуляў у танчыкі. Зрабіць доктара прататыпам галоўнага героя мяне змусіў кароткі ўспамін беларускага паэта, які ў турме-«амерыканцы» ў 1952-м годзе апынуўся ў адной камеры з біёлагам Люцыянам Корвусам па мянушцы Канкістадор. Таго арыштавалі па справе ўрачоў-забойцаў... Прысуд — дзесяць гадоў лагероў. Ці выжыў — невядома»...*

Агулам, чытач, калі ты самнамбулай трапіш у павуціну раманнага сюжэту, то можаш апынуцца бязвіннай ахвярай аўтарскага доследу з мэтай прэпарацыі ўласнай самасвядомасці на наяўнасць беларускай годнасці і пасылаў да маральна-духоўнага ачышчэння. На мой погляд, менавіта ў гэтым і палягае асноўная вартасць і адносная літаратурная ўдача рамана «Пантофля Мнемазіны» Л. Рублеўскай.

Яшчэ адной даце — 500-годдзю беларускага кнігадруку — прысвечаная публікацыя казання **Кірылы Тураўскага** «Абралі жыццё самаперршае» ў адмысловым перастварэнні **Алеся Разанава.** Можна сказаць, што аўтар нашага гістарычнага мінулага і яго сучасны суаўтар перасякліся і, «завочна» перамовіўшыся, паразумеліся. Чытаецца анталагічны твор на глыбокім унутраным роздыху. Я памятаю, што А. Разанаў рабіў перастварэнні з К. Тураўскага яшчэ ў 1994 годзе, публікуючы ў часопісе «Крыніца» казанне «Слова ў нядзелю святога Фамы». Нам усім варта прыслухацца да гэтых мудрых духоўнікаў беларускага слова:

*Здзівы*
*наблізяцца да цябе*
*й судакранецца*
*з табою глыбачыня, калі*
*розумам і душою*
*увойдзеш у тое,*
*што кажацца.*

На першы погляд, нязмушаная, лёгка чытэльная міні-прытча (нечым блізкая да стылю В. Быкава апошніх гадоў) **Уладзіміра Някляева.** Называецца «Што да чаго?..». Рэзюмэ: пакуль мы бясконца думаем-гадаем — што ж яно насамрэч такое, наша чалавечае жыццё? — яно раптам, у адно імгненне страчваецца, прычым не нашае, але з нашай віны і пэўным чынам з-за нашага гэтага думання... Глыбокая і ўражлівая рэч, якая патрабуе чытацкай развагі.

**Не адступаючы ад класічна-традыцыйнай лініі, рэдакцыя не пакідае ўбаку маладых, нават пачынаючых адораных аўтараў і тых творцаў, якія займаюцца пошукамі і выпрабаваннем новых накірункаў у сваіх літаратурных памкненнях**

У звычных ужо вершах **Андрэя Хадановіча** ўсё, як заўсёды, аптымістычна-сцёбна-іранічна, з літаратурнымі адсыламі, рэфрэнамі, падтэкстамі і тонкімі намёкамі... Паэзія, можна сказаць, жывая і жвавая, чытаць яе не сумна, ды і сам аўтар, па ўсім, не самотны, бо не адну, а ўжо вельмі шмат кніг мае... Уласна я люблю чытаць яго дзеля падвышэння жыццёвага тонуса, а яшчэ, каб не «ачарсцвець душою» на адной толькі «любові да старонкі роднае»...

Адзін з двух тэкстаў у гэтым нумары, які я прачытаў даслоўна, роздумна і ўдзячна, і нават з пэўнай доляй зайздрасці, бо і сам мог (і павінен быў, а мо яшчэ і не позна?), няхай сабе не так таленавіта, як **Сяргей Рублеўскі,** апісаць сваіх светла-чалавечных аднавяскоўцаў, якіх ужо няма на гэтым свеце. Мужчыны вёскі са сваімі адметнымі характарамі паўстаюць перад чытачом, як жывыя. Выдатную літаратурную памятку пра людзей роднай вёскі пакінуў беларускаму свету аўтар. Нездарма ж і назваў гэты збор аповедаў «І ўзыду нанова ярыною...»

*«І ўсё мне здаецца, што аднавяскоўцы, як старажытныя воі, апранулі белыя кашулі перад апошнім боем. «Няўжо апошнім, няўжо больш не будзе?» — пытаюцца яны ў мяне. «Не ведаю... — адказваю я. — Мне здаецца...» Сваёй маруднай, як сялянскі час, хадою яны ідуць, ідуць, ідуць няспынна за плугамі, дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем праз неўзаранае поле... І праз усё маё жыццё.»*

Верлібры **Валянціны Аксак** вольныя ад уціску яе ўнутранага свету, але знясіленыя і не свабодныя ад свету знешняга і крэўнага... Яе вершы *чапляцца,* выжываючы менавіта на гэтым памежжы — аўтарскага Я і грамадзянскага Яна (альбо Майго і Нашага). Чыста жаночая паэзія з глыбокімі народнымі каранямі і датклiва-пачуццёвым душэўным інтэлектам.

*пакідаю любоў*
*у радках на паперы,*
*покуль ранішні госць*
*не бунтуе*
*паўночную млосць.*

«Вандроўка» — выдатнае апавяданне **Андрэя Федарэнкі.** Пра што ў аповедзе? Чалавек су-часнік і чала-вечнік... Свет жывых і свет мёртвых... Людзі (*тут*ашнія і *там*ашнія) на могілках у Берліне і на кладах у глухой палескай вёсцы на Мазыршчыне... Супрацьпастаўленне — кантраст. Пры тым, што стыль пісьма — спакойна-класічны, а літаратурнае майстэрства — адпрыродна-набытае. Паміж імі няма разладу. Разлад ёсць паміж людзьмі, а найперш, ён у самім чалавеку... Здавалася б, абсалютна спрошчаная метафізіка. А якія складанасці ў пошуку ісціны, дакладней сказаць, у вызначэнні самога сябе — тут, дзеля таго, каб некалі ты мог, хоць каму, адгукнуцца ***адтуль...***

*«Ніколі не перастану здзіўляцца такім, здавалася б, простым, а на самай справе дзівосным рэчам: у чужым горадзе, на чужой мове нешта папрасіць, разлічыцца чужымі грашыма, і табе, як ні ў чым не бывала, з падзякай, з ветлівай усмешкай імгненна падаюць менавіта тое, што ты і хацеў, — акурат як некалі ў нашым вясковым магазіне падавалі мне «Яблучнэ міцнэ».»*

У часопісе друкуюцца восем неадназначных вершаў-прысвячэнняў **Леаніда Галубовіча.**

Завяршаецца публікацыя «Парыжскіх казак» **Адама Глобуса,** у якіх выбітны аўтар выводзіць сваіх герояў з шараговай будзённасці да фантастычнай і парадаксальнай незвычайнасці.

**Анатоль Брусевіч** прапануе чытачам нізку новых вершаў пад агульнай назвай «Новы паэт». Эмацыйна высокая танальнасць вершаў А. Брусевіча мае небяспечную магчымасць абрынуцца ў безнадзейна-песімістычную прорву адчаю... хоць, зазначым, сутнасць жыцця і смерці для самога паэта застаюцца цвяроза-ўсвядомленымі і непагрэшна-нязменнымі. Асобныя вершы напісаныя на высокім паэтычным майстэрстве.

*Дзе ты, светлы, наіўны хлопчык,*
*Той, што верыў: зменіцца свет?!*
*У люстэрку іншыя вочы,*
*А ад веры прастыў і след.*
*Бедны хлопчык, ты спіш, спавіты*
*сном атрутным, часу смугой.*
*Пасля вашай са светам бітвы*
*Свет застаўся самім сабой.*

Паэтычны дэбют **Ганны Шакель** з Маладзечна, студэнткі Лінгвістычнага ўніверсітэта сталіцы, даволі самавіты і адметны. Творчы патэнцыял і паэтычная перспектыва ў яе несумненна ёсць. Галоўнае, не паўтарыць магчымы лёс аднаго з герояў яе верша:

*марыў быць*
*мегапісьменнікам.*
*стаў*
*мікраблогерам.*
*памёр*
*наначалавекам.*

Нядаўна адзначыў 60-гадовы юбілей вядомы паэт **Леанід Дранько-Майсюк.** Віншуючы творцу, часопіс прапануе чытачам яго драматычную паэму «Полацкі вір» (напісаную паводле п'есы Аляксея Дударава «Палачанка»). Расповед вядзецца пра князёў наўгародскага Уладзіміра і полацкага Рагвалода ды яго дачку Рагнеду... Паэма чытэльная, не зважаючы на аб'ём, і, як мне падаецца, сцэнічная.

Друкуецца навела «Яны» польскай пісьменніцы **Элізы Ажэшка,** якая нарадзілася і памерла на Гарадзеншчыне, у перакладзе **Анатоля Бутэвіча.** У творы распавядаецца пра жыццё і грамадзянскія паводзіны шляхты і просталюдзінаў у час паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага (1863).

Друкуюцца вельмі цёплыя, шчырыя і чалавечныя ўспаміны да 70-годдзя **Міхася Шавыркіна** (1947-2016) — філолага, рэдактара, літаратара і грамадскага дзеяча, згадкі пра якога напісалі А. Бельскі, А. Гібок-Гібкоўскі, В. Жыбуль, М. Скобла, А. Ігнацюк, В. Міцкевіч і яго дачка М. Шавыркіна.

Вельмі эмацыйны, але і пранікліва-шчыры артыкул **Януся Мальца** «Кароль смеху, або Сказ Гілевіча нашчадкам» — пра адкрыццё ананімнага аўтара «Сказа пра Лысую гару». Усё доказна, фактурна, хоць месцамі і занадта пафасна. Да ўсяго неяк няёмка было заўважаць на працягу даволі аб'ёмнага тэкста аніводнай згадкі пра Міколу Аўрамчыка, як аднаго з падручных суаўтараў сказа (некалькі строф-радкоў, перадача інфармацыі пра жыццё на лецішчы Гілевічу, перадрук, раўспаўсюд — па тым-та часе!). Мне здаецца, не ўпамінаць імя Міколы Якаўлевіча, разважаючы пра гэты твор, як найменшае, не этычна. І, шчыра кажучы, як на мае глузды, то няхай бы гэты сказ і дагэтуль прываблiваў нас сваёй аўтарскай ананімнасцю, якую б мы разгадвалі і разам з тым не давалі б згаснуць гэтаму гумарыстычнаму і выкрывальнаму твору савецкай эпохі... Дарэчы, у мяне захоўваецца падараваны М. Аўрамчыкам «Сказ пра Лысую гару» ў самаробным пераплёце з такім надпісам: *«Дарагому Леаніду Галубовічу — з гарачай прыхільнасцю да яго паэзіі і з удзячнасцю за тое, што ён утравіў мяне калісьці ў заманлівую афёру. (Подпіс) 23.X.2002, Адзін з аўтараў.»*

Друкуецца ў 90-ым «Дзеяслове» літаратурная спадчына **Алеся Наўроцкага** пад назвай «Слова пра слова». Тэксты падрыхтаваў і зрабіў да іх адмысловыя каментары паэт і літаратуразнаўца В. Жыбуль. **Анатоль Трафімчык** прапануе новае прачытанне «Мастацкага свету першай кнігі Якуба Коласа «Песні жальбы». Вядомы выдавец і паэт **Кастусь Цвірка** працягвае публікацыю новых раздзелаў сваёй будучай кніжкі «Човен майго часу» (пра жыццё, лёс і творчасць калег і таварышаў па літаратурным цэху). Гэтым разам вы можаце пазнаёміцца з яго эсэ пра Уладзіміра Караткевіча і Сцяпана Гаўрусёва. Крытык і літаратуразнаўца **Наталля Якавенка** разважае пра творчасць беларускіх паэтак у міжваенны час — анталогію «Бліскавіцы». Рубрыка **«Дзеяпіс»** з кароткімі анатацыямі новых кніг завяршае важкі змест чарговага нумара часопіса.

**ЛеГал**

# Прэмія Медычы

**Італьянскі пісьменнік Паола Каньеці стаў пераможцам прэстыжнай літаратурнай Прэміі Медычы («Prix Médicis–2017») за раман «Le Otto Montagne» («Восем гор»).**



Летам за гэты раманам ён таксама атрымаў літаратурную прэмію «Strega».

Аўтар так распавядае пра свой твор: «Можна сказаць, што я пачаў пісаць гэтую гісторыю, калі быў дзіцем, таму што гэтая гісторыя належыць мне настолькі, наколькі я належу ўласным успамінам. Калі мяне пытаюць, пра што гэтая кніга, я заўсёды адказваю: пра двух сяброў і гора. Так, яна менавіта пра гэта».

Правы на раман Паола Каньецці былі набытыя выдавецтвамі ў 33 краінах, а ў Італіі прадалі больш за 100 тысяч асобнікаў кнігі. У Расіі выхад рамана «Восем гор» чакаецца ў выдавецтве «Corpus» у наступным годзе. Хацелася б, безумоўна, пачытаць яго і па-беларуску...

Лаўрэатамі Прэміі Медычы ў розны час станавіліся вядомыя пісьменнікі Мілан Кундэра, Умберта Эка, Пол Остэр, Архан Памук і Людміла Уліцкая.

# Нейштадтская літаратурная прэмія

**Лаўрэатам Нейштадтскай міжнароднай літаратурнай прэміі, як першым паведаміў «The Norman Transcript», стала амерыканская пісьменніца гаіцянскага паходжання Эдвідж Данціка.**



На прыёме ў Мастацкім музеі Фрэда Джонса-малодшага Універсітэта Аклахомы Кэці Нейштадт, чыя сям'я ў партнёрстве з выданнем «World Literature Today» пачала прысуджаць прэмію ў 1970-х гадах, абвесцілі пераможцу прэміі 2018 года і ўручылі прыз — 50 тысяч даляраў ЗША.

Гаіцянская пісьменніца Эдвідж Данціка, якая дэбютавала з аўтабіяграфічным раманам «Подых, зрок, памяць» у 1994 годзе (ён атрымаў у тым жа годзе прэмію за раман карыбскага пісьменніка, а ў 1996 годзе Прэмію ГРАНТА), найбольш вядомая сваім раманам 2004 года «The Dewmaker».

Нейштадтскай прэміяй яе ўганаравала журы з 8-мі пісьменнікаў, у склад якога сёлета ўвайшлі аўтар з Расіі Аліса Ганіева, амерыканскі аўтар Майкл Джэксан, баснійска-шведскі пісьменнік Аднан Махмутавіч, пісьменнік, паэт і сацыялінгвіст Дзіпіка Мукерджы, пісьменніца Ачы Обежас, самалійскі пісьменнік Ладан Асман, паэт і прафесар Саша Пімэнтал, брытанскі пісьменнік Зія Хайдэр Рахман ды эфіёпскі паэт Махта Шыфераў.

Прысуджэнне прэміі адбылося ў межах правядзення Нейштадтскага штогадовага літаратурнага фестываля, які праходзіў з 8 па 10 лістапада. Асноўная ўвага — чытанне твораў і падпісанне аўтарам кніг — на фестывалі сёлета надавалася паэту Мэрылін Нэльсан, лаўрэату Прэміі Нейштадт 2017 года за ўклад у развіццё дзіцячай літаратуры.

Узнагароды Нейштадта прысуджаюцца раз у два гады. На вышэй згаданым фестывалі ў наступным годзе аўтарам-хэдлайнерам будзе Эдвідж Данціка.



Члены журы прэміі Аляксей Рыбнікаў, Зоя Багуслаўская, Алена Пастэрнак

# Прэмія «Парабала»

**У Маскве ў Цэнтральным Доме літаратараў адбылася чарговая, ужо чацвёртая па ліку, цырымонія ўручэння Прэміі «Парабала» ад незалежнага Фонда імя Андрэя Вазнясенскага.**

На гэты раз Асноўную прэмію атрымалі паэты Марыя Ватуціна і Уладзімір Казлоў, а таксама кінарэжысёр Барыс Хлебнікаў. Моладзевай прэміяй былі адзначаны піяніст Філіп Капачэўскі і акцёр Іван Янкоўскі (унук Алега Янкоўскага).

Марыю Ватуціну прадстаўляў зале член журы паэт Юры Кубланоўскі. Ён сказаў: «Калі я ў 90-х гадах вярнуўся з эміграцыі ў Расію і сустрэўся з Ігарам Волгіным, з літаратурнай студыі якога з'явілася цэлая плеяда паэтаў (Аляксей Цвяткоў, Сяргей Гандлеўскі, Бахыт Кенжэеў), я спытаў у яго, хто, які новы паэт цяпер здаецца яму цікавым. І ён назваў Марыю Ватуціну. У яе тады выйшла першая кніга вершаў, дзе былі такія пранізлівыя радкі: «И печи варварские топятся, / Где наши книги будут жечь». З таго часу я сачу за Марыяй Ватуцінай. Яна, як і Андрэй Вазнясенскі, жвава адгукаецца на падзеі жыцця, піша пра тое, што хвалюе яе і ўсіх нас: «На Руси любой поэт — спаситель. / Через них и будем прощены».

Уладзіміра Казлова прадставіла член журы, дырэктар Дома-музея Барыса Пастэрнака ў Перадзелкіне Алена Пастэрнак. Яна сказала, што ў Казлова ў кожным тэксце ёсць мастацкія «знаходкі» і яркія «дэталі», свой «гукавы лад мовы, свая ўласная мелодыка, інтанацыя».

З іншымі лаўрэатамі знаёмілі члены журы акторка Ала Дзямідава, кампазітар Аляксей Рыбнікаў, старшыня Фонда, удава і муза Андрэя Вазнясенскага пісьменніца Зоя Багуслаўская. На цырымоніі прысутнічалі паэты Ігар Шкляроўскі, Сяргей Аліханаў, Яўген Буніновіч, Сяргей Зянкевіч, а таксама ранейшыя лаўрэаты «Парабалы» Кацярына Мячэціна і Іраклій Квірыкадзэ.

Старшыня апякунчай рады Фонда імя Андрэя Вазнясенскага Леанід Багуслаўскі распавёў аб яго рабоце і аб планах на наступны год: «У гэтым годзе на Вялікай Ардынцы быў створаны Культурны цэнтр імя Андрэя Вазнясенскага, а ў наступным годзе, да 85-годдзя з дня нараджэння паэта, адбудзецца афіцыйнае адкрыццё гэтага цэнтра. Там будуць праходзіць літаратурныя вечарыны і важныя культурныя мерапрыемствы».

# Мемарыяльная шыльда Андрэю Беламу

**Урачыстая цырымонія адкрыцця мемарыяльнай шыльды Андрэю Беламу на доме № 36 па вуліцы Свярдлова ў горадзе Лебядзянь Ліпецкай вобласці, дзе ў 1932 годзе жыў вядомы рускі паэт і празаік, адбылася 17 лістапада.**



У гэты ж дзень у мясцовым краязнаўчым музеі прайшла сустрэча з удзелам прадстаўнікоў улады і грамадскасці, прысвечаная гэтай падзеі.

«Адкрыццё мемарыяльнай шыльды запланавана ў рамках праекта «Андрэй Белы і Лебядзянь», які заклікаць дапамагчы захаванню і аднаўленню дома, які мае гістарычнае і культурнае значэнне, а таксама ўшанаваць памяць знаходжання ў горадзе вядомага пісьменніка і прыцягнуць увагу грамадскасці да гісторыі краю», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы мясцовай адміністрацыі.

Праект «Андрэй Белы і Лебядзянь» рэалізуе муніцыпальны фонд культуры, які атрымаў падтрымку Фонда прэзідэнцкіх грантаў у намінацыі «Захаванне гістарычнай памяці». На сродкі гранта арганізатары праекта правядуць цыкл сустрэч-лекцый з моладдзю, канферэнцыю з удзелам прадстаўнікоў ВНУ і музеяў. Акрамя таго, адбудзецца адкрыццё тэматычнай выставы. Праект праводзіцца сумесна з Лебядзянскім краязнаўчым музеем, філіялам дзяржаўнага музея А. С. Пушкіна «Мемарыяльная кватэра Андрэя Белага» ў Маскве і дзяржаўнай дырэкцыяй па ахове культурнай спадчыны Ліпецкай вобласці.

«Літаратура, народная творчасць, архітэктура, звычаі — важная частка мінулага і сучаснасці любога народа. Займаючыся захаваннем культурнай спадчыны, мы вучымся глыбей разумець гісторыю Ліпецкай вобласці, біяграфіі выбітных людзей, якія жылі на яе тэрыторыі», — адзначыў кіраўнік рэгіёну Алег Каралёў.

# Новы фармат электронных кніг

**Буйнейшы ў Расіі прадавец электронных кніг «Литрес» мае намер прапанаваць на рынак новы кніжны фармат — fb3.**

У кампаніі тлумачаць гэта тым, што fb3 не толькі забяспечыць «новыя патрэбы рынку ў якасных электронных кнігах», але і дазволіць выдаваць кнігі са складанай вёрсткай, вялікай колькасцю табліц і ілюстрацый. У 2017 годзе ў новую тэхналогію плануюць інвеставаць каля мільёна даляраў.



У мінулым годзе распрацоўшчык fb2 і тэхнічны дырэктар «Литреса» Дзмітрый Грыбаў у адным з інтэрв'ю патлумачыў неабходнасць з'яўлення на рынку новага фармату магчымасцю максімальна ахапіць спажыўцоў электронных кніг. На яго думку, фармат fb2, хоць і застаецца самым папулярным у Расіі, тэхналагічна састарэлы.

Даччыная кампанія «Литрес», якая займаецца распрацоўкай фармату, зоймецца стварэннем інфраструктуры, якая дазваляе выдаўцам «убудоўваць» выпуск электроннай версіі ў працэс вытворчасці друкаванай кнігі, захоўваючы пры гэтым першапачатковую вёрстку незалежна ад прылады. Такім чынам, распрацоўшчыкі плануюць скараціць тэрміны з'яўленняў электронных версій кніг у продажы.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by



Фота www.pikabu.ru

**Папулярнасць маньяка можна спісаць на атмасферу тых часоў, калі вялікая частка моладзі на Захадзе адмаўляла традыцыйныя каштоўнасці. Для іх Мэнсан быў не забойцам, а асобай, якая перакрочыла ўсе нормы і табу старога свету. Напрыклад, Джон Ленан назваў Мэнсана «дзіцём дзяржавы, якую стварылі ўсе мы»**

# Загадка аднаго маньяка

Алег НОВІКАЎ

**У амерыканскай турме на 84-м годзе жыцця памёр вядомы маньяк-забойца Чарльз Мэнсан. Памёр, пакінуўшы пасля сябе загадку: чаму такая адмоўная персона стала іконай сучаснай поп-культуры?**


Фота www.golos-ameriki.ru

Біяграфія Мэнсана сапраўды менш за ўсё нагадвае жыццёвы шлях зоркі. Хутчэй, яна чытаецца як дасье злачынцы-рэцыдывіста, які першы раз выправіўся ў турму ва ўзросце 12 гадоў.

Сваёй вядомасцю нябожчык абавязаны забойству, якое здзейсніла падпарадкаваная яму групоўка «Сям'я» ў 1969 годзе, калі ў Галівудзе па-зверску забілі сем чалавек. Сярод ахвяраў была жонка рэжысёра Рамана Паланскі, актрыса Шэран Тэйт, якая знаходзілася на дзявятым месяцы цяжарнасці.

Хаця Мэнсан не быў непасрэдным выканаўцам забойстваў, ён быў прызнаны вінаватым у іх арганізацыі і прысуджаны да смяротнага пакарання. Пасля прысуд яму быў заменены пажыццёвым зняволеннем з магчымасцю ўмоўна-датэрміновага вызвалення, якога вязень, аднак, так і не дачакаўся.

Нягледзячы на жудаснае забойства, вобраз Мэнсана хутка быў растыражаваны ў маскультуры. На цяперашні дзень Мэнсан прысутнічае ў адзенні, графіцы, фільмах, серыялах і нават мультфільмах. Вядомы музыкант Мэрлін Мэнсан (сапраўднае імя Браян Уорнер) узяў частку свайго сцэнічнага прозвішча менавіта ў Чарльза Мэнсана. У 1994 годзе BBC падлічыла, што песні ў гонар маньяка-забойцы толькі ў Еўропе спяваюць каля 70-ці рок-гуртоў. Гэта без уліку шматлікіх кніг, прысвечаных Мэнсану. Апагеем фееры, напэўна, стала рок-опера «Чарлі Мэнсан: лета нянавісці», якую паставілі ў 2014-м у Гамбургу (праўда, шоу праваліласся).

Дзе крыніцы такой эпідэміі папулярнасці маньяка? На гэты конт дасюль працягваюцца спрэчкі. Напэўна, прасцей за ўсё спісаць феномен Мэнсана на скандальны антураж забойства. Дзякуючы яму пра справу Мэнсана казалі значна даўжэй, чым пра іншае падобнае масавае забойства.

Справа ў тым, што групоўка «Сям'я» па сутнасці была сатаніцкай сектай. Акрамя забойстваў, яе сябры (у тым ліку і дзяўчаты) займаліся групавым сексам, служылі імшы д'яблу, ужывалі наркотыкі, рэзалі жывёлаў і пілі іх кроў. Сам Мэнсан абвясціў сябе месіяй.

Забойства галівудскай зоркі, секс, наркотыкі, гвалт... Што яшчэ трэба журналістам для сенсацыі? Прэса хутка зрабіла Мэнсану імідж ледзь не жывой рэінкарнацыі Гітлера. Адсюль тэорыя пра тое, што рэгулярны інтарэс прэсы да справы Мэнсана і дазволіў яму з часам ператварыцца ў сталы элемент масавай культуры як сінонім абсалютнага зла.

Аднак тут ёсць праблема. Публіка на пачатку 1970-х гадоў не ўспрымала злачынцу як звычайнага вар'ята. Шмат хто пачаў яму сімпатызаваць. Папулярнасць маньяка можна спісаць на атмасферу тых часоў, калі вялікая частка моладзі на Захадзе адмаўляла традыцыйныя каштоўнасці. Для іх Мэнсан быў не забойцам, а асобай, якая перакрочыла ўсе нормы і табу старога свету. Напрыклад, Джон Ленан назваў Мэнсана «дзіцём дзяржавы, якую стварылі ўсе мы». Ахвярай сістэмы выстаўляў сябе на судзе і сам злачынца, які аказаўся някепскім псіхолагам.

Амерыканская станцыя NPR мяркуе, што адказ на загадку культу Мэнсана трэба шукаць у яго харызме і разуменні чалавечай псіхалогіі. Тое, што шмат людзей так лёгка пагаджаліся падпарадкоўвацца Мэнсану, ідучы па яго загадзе нават на забойства, дасюль уражвае. Нездарма на пачатку 1970-х гадоў хіпі нават пабачылі ў вар'яце




Ісуса Хрыста, якія вярнуўся на зямлю.

А вось брытанская газета «The Guardian», згадваючы Мэнсана, лічыць, што ідэалізацыя маньяка тлумачыцца асаблівасцямі моладзевай контркультуры, якая нарадзілася напрыканцы 1960-х гадоў. Тады ж паўстаў міф пра пакутніка Мэнсана, якога паліцыя, быццам, абрала ў якасці ахвяры ў рамках вечнай вайны паліцыі супраць маладых людзей з доўгімі валасамі. Сапраўды, шмат сучаснікаў той справы адмаўляліся верыць у тое, што чалавек, знешне падобны на рок-зорку Джыма Морысана, мог кагосьці забіць.

Каб быць паслядоўнымі, нельга не згадаць тэорыю савецкіх культуролагаў, якія бачылі ў папулярнасці Мэнсана дзяжурную праяву крызісу капіталізму, калі расчараваная ў спажывецкіх забабонах моладзь гатовая маліцца на абы-каго або на абы-што, каб толькі гэта было крута.

Наўрад ці пералічанымі версіямі будуць вычарпаныя тэорыі загадкі Мэнсана. Зараз мы перажываем рэнесанс інтарэсу да яго персоны. І гэта, падаецца, толькі пралог. 21 лістапада славуты амерыканскі рэжысёр Квенцін Таранціна распавёў, што збіраецца зняць фільм, дзе адным з герояў будзе заснавальнік секты «Сям'я».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Кіраўнік Беларусі выдатна разумее ўсю моц Захаду і магчымасці Беларусі, але ў агляднай будучыні пакуль паводзіць сябе так, як паводзіць. Таму не трэба нам (ва Украіне) моцна лаяць Лукашэнку. І не трэба нават думаць пра разрыў дыпламатычных адносін ці нешта падобнае. Ён дзейнічае ў калідоры палітычных магчымасцяў. Мы глядзім на яго з вышыні і памяркоўна. Мы гэтую шматвектарнасць прайшлі пры Кучму.

**«Replyua» (Украіна)**

Калі пастаянна, 20 гадоў запар, плюююць ад імя цэнтральных расійскіх СМІ, а часам і ад імя афіцыйнай Расіі, у душу асабіста Лукашэнку і на адрас дзяржаўнага ладу яго краіны, то любы можа даваць збоі. Абаперціся ў такой сітуацыі Лукашэнку ні ў Расіі, ні ўнутры Беларусі асабліва няма на каго. А яму ў гэтых умовах трэба думаць, акрамя ўсяго іншага, і пра захаванне сваёй улады ў Беларусі, каб адным крокам не паляцела ўсё, што створана і захавана. Адсюль і часам нелагічныя і непаслядоўныя яго (Лукашэнкі) заявы і дзеянні апошніх гадоў. Калі будзе іншая сітуацыя, калі ўлада Беларусі адчуе відавочную і шчырую падтрымку з боку Расіі, то ўсе негатыўныя тэндэнцыі ў Беларусі ў гэтым плане будуць ліквідаваныя.

**«Царьград» (Расія)**

Лукашэнка спрабуе адмежавацца Беларусь ад Расіі і ў ідэалагічным плане: маецца на ўвазе ўзмацненне ролі беларускай мовы, крытычны падыход да спадчыны Савецкага Саюза і імперыі Раманавых. Калі гэтая стратэгія кіраўніка Беларусі не суправаджаецца дэмакратызацыяй. Лукашэнка застаецца аўтакратам, чыя ўлада залежыць ад Расіі, гэтак жа, як і беларуская эканоміка, амаль чвэрць ВУП якой у апошнія гады складалі расійскія субсідыі. Праеўрапейскай палітыкі з Лукашэнкам не атрымаецца. Не толькі таму, што ў выпадку павароту да Захаду яму давядзецца асцерагацца жорсткай рэакцыі Масквы, але і таму, што структурныя рэформы і сапраўдная дэмакратызацыя паставяць пад пытанне яго ўласную ўладу.

**«Die Welt» (Германія)**

Уладзімір Пуцін страціў папулярнасць сярод нашых суайчыннікаў, затое Аляксандр Лукашэнка атрымаў. Украінцы не прымаюць аўтарытарнага кіраўніка, затое гатовыя палюбіць добрага цара. Пра тое, што ў Беларусі парадак і стабільнасць, захоплена кажуць нават тыя, хто там ніколі не быў. Найважнейшым дасягненнем Лукашэнкі яго ўкраінскія прыхільнікі лічаць закрыццё «моўнага пытання»: у Беларусі амаль не гучыць беларуская мова, усе размаўляюць па-руску, і ніхто ад гэтага не пакутуе. Затое дарогі добрыя, гарады не захлынаюцца ў смецці, дзяржава забяспечвае будучыню кожнага грамадзяніна — і калі не бунтаваць, слухацца Бацьку і паводзіць сябе добра, пра цябе паклапоцяцца. Украінцы ў чарговы раз пацвердзілі: яны жадаюць не новага Сталіна, а новага Брэжнева, якім для беларусаў, па сутнасці, з'яўляецца Лукашэнка.

**112.ua (Украіна)**

Зразумела, адносіны Мінска з ЕС яшчэ не ў тым стане, каб весці размову пра падпісанне Пагаднення аб асацыяцыі. Каб неяк захаваць і замацаваць узніклы пазітыў, але не адпужваць адзін аднаго і партнёраў гучнымі заявамі, бакі знайшлі зусім новы фармат: «Прыярытэты партнёрства да 2020 года». Менавіта гэты дакумент зараз абмяркоўваецца, і, верагодна, у ім будуць замацаваныя тыя самыя абяцанні, на якія намякаў Аляксандр Лукашэнка.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### АБХАЗІЯ. Нацыянальныя грошы — крыптавалюта

Адгур Ардзінба, міністр эканомікі непрызнанай Рэспублікі Абхазія заявіў пра магчымае стварэнне абхазскіх грошай, якія будуць называцца ABC (Abkhazian Republic Coin). Нагадаем, што ў якасці разліковай адзінкі на тэрыторыі Абхазіі выкарыстоўваецца расійскі рубель. Паводле міністра, за кошт ABC непрызнаная рэспубліка здабудзе сваю нацыянальную валюту — важны элемент дзяржаўнасці. Самае цікавае ў гэтай заяве — тое, што новыя грошы будуць крыптавалютай. Не дзіўна, што адразу з'явілася шмат скептыкаў. Для таго, каб ABC стаў нацыянальнай валютай, у Абхазіі трэба стварыць паўнавартасную лічбавую эканоміку не толькі ў фінансавай сферы, але і ў дзяржаўным кіраванні, адукацыі, медыцыне і іншых сферах жыццядзейнасці дзяржавы. У сувязі з гэтым палітолагі пішуць, што выказванні пра нацыянальную абхазскую валюту — гэта падман. На самай справе, дзякуючы крыптавалютам сепаратысцкія тэрыторыі Паўднёвага Каўказу мараць стаць «сховішчам» для ценявых капіталаў. Нагадаем, што крыптавалюты ствараюцца без удзелу дзяржаў, а ў сваім абароце, па сутнасці, не прызнаюць дзяржаўных межаў і непадкантрольныя дзяржаўным органам.

**Паводле грузінскай прэсы**

### РАСІЯ. Уся ўлада Устаноўчаму сходу!

Праз сто гадоў у Расію вярнулася ідэя Устаноўчага сходу, які, як вядома, бальшавікі разагналі ў студзені 1918-га. У гэтым плане цікава, што менавіта дэпутат-камуніст кінарэжысёр Уладзімір Бортка ўнёс у парламент законапраект «Аб Канстытуцыйным сходзе». Сход неабходны камуністам, каб перагледзець цяперашнюю «Ельцынскую» Канстытуцыю РФ, у якой, на думку Борткі, занадта шмат лібералізму. Пра гэта, напрыклад, сведчыць тое, што міжнароднае права ў Асноўным законе пераважае над расійскім. У яго тэксце забаронена ўсталяванне каштоўнасцяў на ўзроўні дзяржавы (замест іх там прысутнічае толькі выраз — «агульначалавечыя каштоўнасці»). Выказванні Борткі арыгінальнымі не выглядаюць: раней аб тым жа казаў, напрыклад, і лідар ЛДПР Уладзімір Жырыноўскі. Аднак Бортка першым прыгадаў пра наяўнасць такога механізму для змены Асноўнага закона, як Канстытуцыйны сход. Нагадаем, што ён склікаецца ў выпадку, калі прапанова аб пераглядзе якога-небудзь з асноватворных палажэнняў Канстытуцыі будзе падтрыманая трыма пятымі галасоў Дзярждумы і Савета Федэрацыі. Сход павінен альбо пацвердзіць нязменнасць Асноўнага закона, альбо распрацаваць новы праект.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Ці з'явіцца нацыянальная «Гульня тронаў»?

У Польшчы зноў перанеслі прэм'еру 60-серыйнай «Карона каралёў». Фільм павінен быў стаць польскім адказам на «Гульню тронаў». Праўда, у польскай версіі гаворка не пра казачных персанажаў, а пра сапраўдных гістарычных асобаў — польскага караля Казіміра і яго атачэнне. Праект быў запушчаны два гады таму і адразу падаваўся яго аўтарамі як прарыў у гісторыі польскага кіно. Дастаткова згадаць, што гэта самы буйны праект на польскім тэлебачанні посткамуністычных часоў. Аднак у выніку нешта не спрацавала. Фільм, які абяцалі паказаць яшчэ ўвесну, а пасля перанеслі прэм'еру на восень, зноў вырашылі дапрацаваць. На думку шмат каго, прычына банальная — да стандартаў «Гульні тронаў» фільм «Карона каралёў» недацягвае. Цікава, што некаторыя гісторыкі патрабавалі паказаць у фільме ўсю гістарычную праўду, у тым ліку заляцанні старога Казіміра да маладых дзяўчат. Так ці інакш, ужо абвешчана, што цяпер прэм'еру серыялу трэба чакаць у студзені.

**Паводле польскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Каму патрэбна туркменская архітэктура?

Кіраўнік Туркменістану нечакана задумаўся пра тое, што хтосьці зможа пабудаваць аб'екты, падобныя да туркменскіх. Гурбангулы Бердымухамедаў запатрабаваў, каб усе буйныя архітэктурныя праекты, якія рэалізуюцца ў Туркменістане, былі абароненыя патэнтамі. Таксама неабходна — падкрэсліў кіраўнік краіны — прапісваць у кантрактах адказнасць падрадчыка і заказчыка за перадачу праекта трэцім асобам. Такі падыход вельмі дзіўны, бо два туркменскія аб'екты ўнесеныя ў Кнігу рэкордаў Гінеса. У 2012 годзе кола агляду ў Ашхабадзе прызналі самым высокім у свеце колам агляду закрытага тыпу. Аднак гэта не рэкорд. Вышыня збудавання складае 47,6 метра. Для параўнання, вышыня кола агляду ў горадзе Наньчан у Кітаі складае 160 метраў, у Лондане — 135 метраў, у Сочы — 83,5 метра, у Казані — 55 метраў. Таксама ёсць зорка, убудаваная ў фасад 211-метровай вежы Туркменскага радыёцэнтра ў Ашхабадзе, якая была прызнана найбуйнейшай зоркай у архітэктурным ансамблі. Аднак наўрад ці нехта захоча пабудаваць штосьці падобнае.

**Паводле туркменскай прэсы**

# Меркель пойдзе на пенсію?

*Алег НОВІКАЎ*

**Пасля правалу 20 лістапада перамоваў наконт фармавання кааліцыі «Ямайка» ўпершыню ў гісторыі Германіі немцаў запросяць на датэрміновыя парламенцкія выбары. Адзін з іх вынікаў вядомы ўжо зараз — пры любым раскладзе Меркель пойдзе на пенсію.**



Фота www.cont.ws

Хаця з пункту гледжання стабільнасці сістэмы датэрміновыя выбары — не лепшая з'ява, правал перамоваў па фармаванні «Ямайкі» (кааліцыя хрысціянскіх дэмакратаў, лібералаў і «зялёных») утрымлівае таксама пазітыўныя моманты. Прынамсі, фіяска кааліцыі горача віталі ў Парыжы. На думку прэзідэнта Эмануэля Макрона, стварэнне кабінета з удзелам «Свабодных дэмакратаў» (FDP) было б пахаваннем еўрапейскай інтэграцыі. Лібералы адмоўна ставяцца да праэктаў Макрона наконт інтэнсіфікацыі працэсаў еўрапейскага аб'яднання.

Гэтым аспектам пазітыўныя моманты правалу «Ямайкі» не абмяжоўваюцца. На думку палітолагаў, датэрміновыя выбары дапамогуць партыям больш дакладна вызначыцца па ключавых пытаннях, што дапаможа ім хутчэй дасягнуць кампрамісу.

**Будучыя выбары дазволяць адказаць на вельмі важнае пытанне: ці стала прапісаліся ў вышэйшым дывізіёне нямецкай палітыкі правыя папулісты з партыі «Альтэрнатыва для Германіі»? У верасні AfD зрабіла сапраўдны фурор, атрымаўшы 12 працэнтаў галасоў**

Што тычыцца прагнозаў наконт вынікаў галасавання, то ў прэсе не выключаюць, што лібералы пакажуць горшы вынік, чым на выбарах у верасні. На думку шмат каго, іх лідар Хрысціян Лінднэр выявіў сябе падчас перамоваў не з лепшага боку, намагаючыся ператварыць перамоўны працэс ва ўласнае шоў.

Чуткі пра новыя выбары зноў абудзілі дыскусію пра левую кааліцыю (партыя «Левыя», сацыял-дэмакраты і «Зялёныя»). Пра магчымасць такога аб'яднання шмат казалі ўвесну. Тое, што з часам спекуляцыі наконт левага ўраду зніклі, звязвалі з пазіцыяй кіраўніцтва «Зялёных». У партыі на той час перамагла фракцыя «рэалістаў», якая разлічвала на канструктыўны дыялог з Саюзам хрысціянскіх дэмакратаў Меркель (CDU). Цяпер, пасля правалу спробаў дамовіцца з правымі, партыя вымушана не адмаўляцца ад перспектываў удзелу ў кааліцыі левых.

Вельмі інтрыгуючай выглядае будучая выбарчая кампанія сацыял-дэмакратаў (SPD). Пасля апошніх выбараў яны катэгарычна адмовіліся ад удзелу ў кабінеце Меркель, і на цяперашні момант з'яўляюцца галоўнай партыяй апазіцыі. За гэты час унутры кіраўніцтва адбылася важная змена: на пасаду кіраўніка фракцыі ў Бундэстагу была абраная 46-гадовая Андрэа На́лесі, якая ўздымае класічныя для эсдэкаў пытанні барацьбы з беспрацоўем, пенсій і гэтак далей. Не выключана, што менавіта яна можа кан'юктурна стаць кандыдатам на пасаду канцлера. Стаўка на тое, што ў выпадку дуэлі Меркель — Налесі, апошняя будзе выглядаць больш прывабна за кошт маладосці і інтарэсу да сацыяльных праблемаў.

Левы трэнд SPD можа паўплываць на перспектывы посткамуністычнай партыі «Левыя», якая знаходзіцца ў стане крызісу ідэнтычнасці. На ўсходзе краіны — электаральным бастыёне левых, — усё часцей галасуюць за ксенафобаў. Каб захаваць сімпатыі выбаршчыка, частка «Левых» гатовая таксама ўжываць ксенафобскую антымігранцкую і прапуцінскую рыторыку, што, натуральна, не падабаецца больш ідэйным таварышам. Арыенцір на кааліцыю з SPD дазволіць «Левым» узяць дыстанцыю ад падтрымкі курсу Пуціна.

Будучыя выбары дазволяць адказаць на вельмі важнае пытанне: ці стала прапісаліся ў вышэйшым дывізіёне нямецкай палітыкі правыя папулісты з партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD)? У верасні «Альтэрнатыва для Германіі» зрабіла сапраўдны фурор, атрымаўшы 12 працэнтаў галасоў. І, хаця на наступны дзень пасля перамогі ўнутры «Альтэрнатывы для Германіі» выбухнулі разборкі аж да сыходу з партыі сустаршыні, AfD захоўвае рэйтынгі. Лідары партыі мараць пра ўваходжанне ў склад ураду, аднак такі сцэнар малаверагодны.

Добры вынік AfD на наступных выбарах можа хіба што запусціць дыскусію сярод кансерватараў пра неабходнасць шукаць партнёра на правым флангу. Тым больш, аналаг ужо ёсць — у Аўстрыі ўвосень паўстаў кабінет, дзе кансерватары падзяляюць партфелі з правымі папулістамі з «Партыі Свабоды». За імпарт аўстрыйскай мадэлі выступаюць баварскія сацыялісты, якія гістарычна ідуць на выбары ў блоку з CDU.

Аднак самае галоўнае пытанне — што будзе з Ангелай Меркель? Крах кансультацый наконт «Ямайкі» ў прэсе разглядаюць як яе асабістую паразу. Калі ўзгадаць вельмі слабыя для хрысціянскіх дэмакратаў вынікі на верасնёўскіх выбарах, гэта ўжо другі запар яе пракол, што адразу мабілізавала аматараў падседзець фраў канцлера. Тройка прэтэндэнтаў пакуль выглядае так: міністр фінансаў — 37-гадовы Йенс Шпан, прэм'ер-міністр зямлі Саар — 55-гадовая Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр, дэпутат — 45-гадовая Юлія Клёкне. Першым раўндам барацьбы за пасаду лідара могуць стаць прызначаны на сярэдзіну снежня з'езд CDU.

Праўда, большасць каментатараў пагаджаюцца, што досведу і харызмы ў пералічаных кандыдатаў пакуль не дастаткова, і на будучыя выбары ў чацвёрты раз запар CDU павядзе цяперашні лідар. Нарэшце, каб абраць новага правадыра, у кансерватараў банальна няма часу. Так ці інакш, у тым, што гэта будзе апошняя кампанія Меркель, ніхто ўжо не сумняваецца. Як мяркуюць некаторыя СМІ, дата 20 лістапада 2017 года ўвойдзе ў падручнікі гісторыі Германіі як канец эры Ангелы Меркель.



Фота www.rmeduza.io

# Урок Мугабэ

Алег НОВІКАЎ

**Чаму пераварот у Зімбабвэ выклікаў велізарную цікавасць сярод дэмакратаў на постсавецкай прасторы?**


Фота www.rbc.ru

Яшчэ ніколі апазіцыя ў краінах СНД не шукала крыніцаў натхнення ў далёкай і экзатычнай Афрыцы. Аднак падобнае захапленне толькі на першы погляд падаецца камічным. Падзеі ў далёкім Зімбабвэ цудоўна даводзяць тэзіс, які сфармуляваў Антон Арэх, аглядальнік «Эхо Москвы»: «Усялякая ўлада рана ці позна заканчваецца. Усялякі валадар аднойчы, так ці інакш, саступае сваё крэсла. І нават рэкордная па часе кіраванне не доўжыцца бясконца».

Пры гэтым ніхто ў СНД не збіраецца дубляваць учынкі путчыстаў. Казус Зімбабвэ цікавы як ілюстрацыя парадоксу прыроды аўтарытарнага рэжыму. Яшчэ тыдзень таму, падавалася, нічога не пагражала Роберту Мугабэ, чый рэйтынг зашкальваў за 96 працэнтаў. І раптам — літаральна за пару дзён — уся гадамі адбудаваная вертыкаль рухнула. Замест таго, каб абараняць бацьку нацыі ад жаўнераў-путчыстаў, народ пачаў танчыць на вуліцах, святкуючы пераварот.

**Фактар жонкі Мугабэ таксама называюць важнай рэвалюцыйнай прычынай. Шыкоўны лад жыцця Грэйс Мугабэ, якая збіралася стаць пераемнікам, не падабаўся простым людзям**

Наколькі аўтарытарныя краіны Садружнасці наблізіліся ў сваёй эвалюцыі да той крызіснай сітуацыі, якая склалася ў Зімбабвэ, калі ў атачэння кіраўніка дзяржавы папросту здалі нервы? Некаторыя рэаліі Зімбабвэ ў часы Мугабэ сапраўды нагадваюць цяперашнюю сітуацыю ў краінах СНД. Перш за ўсё, гэта салідны ўзрост кіраўніка дзяржавы.

Вельмі важны момант — Мугабэ, як і вялікая колькасць лідараў краін Садружнасці, быў першым кіраўніком дзяржавы, якая атрымала незалежнасць. На гэты момант звяртаюць увагу праціўнікі Назарбаева, чый агітпроп спрабуе легітымаваць аўтакратыю Назарбаева спасылкай на тое, што менавіта Елбасы пабудаваў незалежны Казахстан.

Трошкі падобныя і тэндэнцыі ўнутры класу чыноўнікаў. Як і ў нас, у Зімбабвэ ў дзяржаўным апараце ідзе нефармальная вайна паміж «ветэранамі» і «маладымі тэхнакратамі». У нас першая групоўка прадстаўленая чыноўнікамі з савецкім мінулым, а ў Зімбабвэ гэта былі ветэраны вайны за незалежнасць. Адпаведна, касце «ветэранаў» супрацьстаяць маладзейшыя чыноўнікі, арыентаваныя на заходнія стандарты спажывання. Такой групоўкай у Зімбабвэ быў клан пад кіраўніцтвам жонкі Мугабэ, якая за любоў да раскошы атрымала ў краіне мянушку «Гучы». Раскол кіруючых структур, натуральна, даў магчымасць апазіцыйным партыям дамагчыся поспеху.

Увогуле, фактар жонкі Мугабэ таксама называюць важнай рэвалюцыйнай прычынай. Шыкоўны лад жыцця і забабоны Грэйс Мугабэ, якая збіралася стаць пераемнікам праваднра краіны, не падабаліся простым людзям. У сувязі з гэтым некаторыя апазіцыйныя медыя ў Расіі сумуюць наконт таго, што ў Пуціна няма другой паловы.

А вось выданне «Аргументы и Факты» лічыць, што прэзідэнт Мугабэ павінен прымусіць задумацца лідараў дзяржаў, якія залежаць ад вонкавых спонсараў. У варыянце Зімбабвэ такім спонсарам выступаў Кітай, які моцна эканамічна падтрымліваў гэтую афрыканскую краіну.

«Аднак у нейкі момант кітайцы зразумелі, што з лідарам апазіцыі справу мець прасцей, чым з састарэлым Мугабэ, які ўзяў курс на стварэнне сямейнай дынастыі. Узнікла небяспека, што пасля смерці Мугабэ ў краіне распачнецца грамадзянская вайна, здарыцца крывавы хаос, у выніку каласальныя інвестыцыі Кітая ў эканоміку Зімбабвэ апынуцца пад пагрозай», — тлумачыць прычыны перавароту «АиФ».

Як бачым, досвед Зімбабвэ сапраўды дае глебу для роздумаў над лёсам дзяржаў СНД. Аднак і пераацэньваць афрыканскія рэцэпты не трэба. Афрыка мае свае асаблівасці. Як піша брытанская прэса, шматлікія мясцовыя жыхары лічаць, што карупцыя, раскол элітаў, кітайскія інтрыгі і амбіцыйная жонка не былі чыннікамі перавароту. Паводле іх меркавання, рэвалюцыю выклікалі мясцовыя ведзьмакі, якія «сурочылі» гаранта.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Дональд Туск



Вялікі розгалас ва Усходняй Еўропе набыў запіс экс-прэм'ера Польшчы, цяперашняга кіраўніка Савета Еўропы ў сетцы Twitter.

«Увага! Вострая спрэчка з Украінай, ізаляцыя ў Еўрапейскім саюзе, адыход ад вяршэнства закона і незалежнасці суда, атака на недзяржаўны сектар і свабодныя СМІ — гэта стратэгія PiS або план Крамля? Занадта падобна, каб спаць спакойна», — напісаў палітык. Частка палякаў ліберальных поглядаў убачылі ў гэтай рэмарцы намёк на хуткі рашучы выступ ЕС супраць польскага кансерватыўнага ўрада партыі «Права і Справядлівасць» (PiS).

Калі верыць ліберальнай прэсе, еўрапейцы ў жаху ад «Марша незалежнасці» ў Варшаве 11 лістапада, які сабраў больш за 60 тысяч правых радыкалаў з усёй Еўропы. Каб не дапусціць трансфармацыі Польшчы ў аўтарытарны рэжым, Еўропа збіраецца ўмяшацца ў сітуацыю.

З іншага боку, урадавы крызіс у ФРГ прымушае сумнявацца ў тым, што ЕС гатовы на нейкія радыкальныя крокі. Таму большасць палітыкаў бачаць у заяве Туска сігнал магчымага вяртання ў польскую палітыку, дзе запатрабаваныя антырасійскія лозунгі. Праўда, кадэнцыя Туска на пасадзе кіраўніка Еўрасавета закончыцца толькі праз два гады.

Што тычыцца афіцыйнай Варшавы, то яна абвінавціла Туска ў «нападзе на польскі ўрад і Польшчу». Варта дадаць, што 16 лістапада Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю, якая прадугледжвае запуск механізму артыкула дамовы ЕС, якая можа пазбавіць Польшчу права голасу ў Савеце ЕС.

### Ігар Дадон



Прэзідэнт Малдовы сенсацыйна заявіў, што Прыдняпроўская Малдаўская Рэспубліка (ПМР) можа ўвайсці ў склад Украіны.

Навіна больш за ўсё шакавала кіраўніцтва самога Прыднястроўя. Афіцыйны Ціраспаль паспяшаўся заявіць, што застаецца адданай марыянеткай Масквы. Асцярожна каментуюць ідэю і ў Кіеве.

У прынцыпе, тэрыторыя цяперашняй ПМР да Другой сусветнай вайны была часткай Украінскай ССР, і нейкая юрыдычная база для пераходу гэтай зоны пад кантроль Кіева існуе. Аднак інтэграцыя Прыднястроўя можа каштаваць Украіне вельмі дорага, бо рэгіёну давядзецца даваць аўтаномію, што можа выклікаць працэс дэзінтэграцыі самой Украіны. Між тым, палітолагі дапускаюць, што цяпер магчымы нават такі сцэнар.

Справа ў тым, што сітуацыя ў Малдове вельмі нестабільная. Асноўная частка насельніцтва знаходзіцца ў апатыі, усе партыі цяпер — у фазе перазагрузкі. У такой атмасферы кагорта пасіянарных і актыўных людзей можа навязаць краіне зусім новы парадак дня. Напрыклад, патрабаваць далучыць Малдову да Румыніі. Тым больш, што ў наступным годзе спаўняецца сотая гадавіна румынскай акупацыі Бесарабіі. Пры гэтым уключаць у склад Румыніі ПМР з рускамоўным насельніцтвам прарумынскія сілы не плануюць. У выніку, украінская альтэрнатыва для Ціраспаля выглядае рэальнай.

Нельга таксама забываць, што ўкраінскі прэзідэнт Пётр Парашэнка паходзіць з Бендэраў — аднаго з гарадоў ПМР, і ў свой час вельмі шчыльна працаваў з мясцовай элітай.

### Беатрыс Санчас



Кандыдатка ад кааліцыі «Frente Amplio» на выбарах у Чылі стала галоўнай сенсацыяй выбараў, якія адбыліся 20 лістапада. Яна атрымала 20 працэнтаў галасоў выбарцаў.

Для структуры, якая паўстала толькі на пачатку гэтага года, такая статыстыка сапраўды выглядае фантастычнай. Не кажучы пра тое, што Беатрыс Санчас стала кандыдатам выпадкова.

Шырокі фронт паўстаў на базе шэрагу левых маладзёвых структур, якія вырашылі стварыць нешта накшталт іспанскага «Podemos» — прагрэсіўнага грамадскага руху, пабудаванага на прынцыпах базіснай дэмакратыі і федэралізму. Паколькі большасць лідараў «Frente Amplio» былі маладзей за 30 гадоў — узросту, які дазваляе балатавацца на пасаду кіраўніка дзяржавы, — давялося ісці ў прэзідэнты 45-гадовай Беатрыс. Нечакана для ўсіх жанчына, якая да таго, як пайсці ў палітыку, працавала журналісткай, стала вельмі папулярнай.

Праўда, у другі тур Беатрыс прабіцца не здолела. У фінальным раўндзе за пасаду прэзідэнта будуць змагацца блізкі да сацыялістаў Аляхандра Гільер, за якога галасавала 22,64%, і правацэнтрыст Себасцьян Піньера, які атрымаў 36,66%. Другі тур выбараў прэзідэнта Чылі адбудзецца 17 снежня.

# Пад негалосным

Арсень ЛІС

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 39,42**

Счакаўшы нейкі час, справу пад назваю «Акадэмічны асяродак» КДБ такі завяло. Цікава. Няхай сабе супрацьСцяпана Міско і Міколы Прашковіча органы дзяржбяспекі маглі назбіраць, назбіралі сякога-такога кампрамату...

Сцяпан неаглядна па тым часе вальнадумнічаў, дазваляў сабе іранізаваць над устаноўкамі, некаторымі ідэалагемамі ўлады. Мікола кантактаваў з былой палітзняволенай, паэтэсай Ларысай Геніюш... Што да мовазнаўцаў Алеся Каўруса і Валянціна Рабкевіча, проста цяжка ўявіць, зразумець, што за прэтэнзіі да іх магла мець служба КДБ.

На пачатку 1970-х абодва хлопцы яшчэ надта мала што паспелі зрабіць у жыцці. Адно, час ад часу публікавалі заметкі аб культуры мовы. Навукова засвоіўшы пісьмовыя традыцыі беларускай мовы, дбалі аб правільнасці і чысціні яе ў перыёдыцы і на радыё. Былі пільнымі да так званых русізмаў. Няўжо ў гэтым можна было ўгледзіць правіну, абвінаваціць навукоўцаў у нацыяналізме?

Дарэчы, Сцяпана Міско абурала, як так званыя кампетэнтныя органы ўмудрыліся ўлучыць яго ў «арганізаваную групу «Акадэмічны асяродак» разам з А. Каўрусам і В. Рабкевічам, з якімі ён нават не быў асабіста знаёмы.

Згодна з той, сканструяванай у кабінеце палкоўніка КДБ Рэпіча, справай, літаратуразнавец Мікола Прашковіч, даследчык старажытнага беларускага тэатра Сцяпан Міско, гісторык Міхась Чарняўскі ды мовазнаўцы Алесь Каўрус і Валянцін Рабкевіч абвінавачваліся ў нацыяналізме і былі звольненыя з працы. Як было заведзена практыкай 1930-х, звальненне суправаджалася асуджэннем «зламыснікаў» у калектывах.

Са сваім фіктыўным адкрыццём-выкрыццём дысідэнтаў сярод навукоўцаў КДБ пачаў выходзіць на шырэйшую грамадскасць.

Мусіла абмяркоўвацца, абмяркоўвалася тая інфармацыя КДБ і ў Саюзе пісьменнікаў. Перадавалі, што калі вядучы партсхода І.П.Шамякін між іншым задаўся рытарычным пытаннем: «Кажуць, што Арсень Ліс (а я ў той час ужо быў чальцом Саюза пісьменнікаў) таксама належаў да тых хлопцаў з Акадэміі», — хвілінную паўзу парушыў Іван Якаўлевіч Навуменка. У паважанага навукоўца і пісьменніка я ў свой час пісаў дыпломную работу і зрэдзь часу наведваўся ў сціплую халасцяцкую кватэру яго пры студэнцкім інтэрнаце. Задаваў свайму шаноўнаму педагогу пытанні, не толькі датычныя дыплому... Дык вось, як пераказвалі мне потым, І.Я. Навуменка на тым сходзе сказаў: «Я даўно ведаю Ліса як сур'ёзнага, адказнага студэнта і перспектыўнага навукоўца». На гэтым абмеркаванне віртуальных дысідэнтаў на пісьменніцкім сходзе і скончылася.

***

Падобна на тое, што вынас Камітэтам дзяржбяспекі на грамадскае абмеркаванне справы т. зв. «Акадэмічнага асяродка» папярэднічаў праслухванню яе на закрытым пасяджэнні ЦК КПБ. Апошняе адбылося з ініцыятывы сакратара ЦК КПБ Кузьміна А.Т.

Цяжка сказаць, наколькі партыйнае кіраўніцтва рэспублікі паверыла КДБ аб існаванні арганізаванай групы навукоўцаў-нацыяналістаў. «Накапаныя» службоўцамі ахоўнага ведамства факты, на пранікнёны, узважаны погляд, наўрад былі пераканаўчымі, доказнымі. Але, з другога боку, ігнараваць старанні спецпадраздзялення КДБ аніяк не выпадала. Ужо тое, што КДБ БССР наўпрост справаздавалася свайму цэнтру ў Маскве, выключала непрызнанне выніку яго працы, прымушала кіраўнікоў рэспублікі да аргвывадаў. Аднак характэрна, публічнае асуджэнне апальных навукоўцаў было спынена. Публікацыі аб выкрыцці дысідэнцкай групы ў Акадэміі Навук у друку не з'явілася.

Паказальна, і таго нельга не адзначыць, КДБ у яго бэсэсэраўскім фармаце ў наступныя гады, аж да развалу імперыі, нічога падобнага, ніякага нацыяналізму не выяўляў у Беларускай ССР.



Арсень Ліс з сынам Яраславам. Вёска Залессе, 1974 год







**Цяжка сказаць, наколькі партыйнае кіраўніцтва рэспублікі паверыла КДБ аб існаванні арганізаванай групы навукоўцаў-нацыяналістаў. «Накапаныя» службоўцамі ахоўнага ведамства факты, на пранікнёны, узважаны погляд, наўрад былі пераканаўчымі, доказнымі. Але і ігнараваць старанні спецпадраздзялення КДБ аніяк не выпадала**

***

Становішча пяці навукоўцаў Акадэміі навук, улучаных спецслужбай у міфічны «акадэмічны асяродак», напачатку складалася драматычна. Адно, апынуліся без працы, кавалка хлеба, а па-другое, няясна было з далейшай перспектывай у жыцці. Закрытая дарога ў навуку? Праўда, неўзабаве сам Пётр Міронавіч Машэраў пацікавіўся «нацыяналістам» С.М. Міско і ўзнавіў яго ў партыі. Апальны Міско атрымаў месца рэдактара ў Кніжнай палаце. Міхась Чарняўскі пры падтрымцы земляка мастака Васіля Шаранговіча да часу ўладкаваўся рабочым у Мастацкім камбінаце Саюза мастакоў. Праз нейкі год пры супрацоўленні тагачаснага дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР П.Ц. Петрыкава быў вернуты ў аддзел археалогіі акадэмічнага інстытута, дзякуючы распараджэнню сакратара ЦК КПБ А.Т. Кузьміна. Не расказваючы, як тое адбылося, Міхась падчас адной з нашых беглых сустрэч толькі сказаў: «Кузьмін — гэта чалавек!».

Міхась стойка перанёс ілжывае абвінавачанне, пераслед і ў далейшым сваім жыцці здолеў плённа папрацаваць дзеля беларускай археалагічнай навукі і не толькі...

Быў шчырым патрыётам Беларусі, жыў, працаваў, як сказана ў паэта, «каб не змалела Айчыны ідэя».

Вынікі археалагічных раскопак, шматгадовае даследаванне неаліту і бронзавага веку ў Беларусі абагульніў у трох манаграфіях. Сур'ёзнае пазнавальнае значэнне мае Міхасёва кніга «Ілюстраваная гісторыя старажытнай Беларусі». Неардынарныя веды па археалогіі, гісторыі Радзімы далі магчымасць Міхасю Чарняўскаму напісаць некалькі кніг мастацкіх нарысаў «Вогненапаклоннікі», «Страла расамахі», «Правадыр крылатых вершнікаў: Ян Караль Хадкевіч», ацэненых як адметныя творы небагатай у



Каля Акадэміі Навук, злева направа: Алесь Яскевіч, Іван Цішчанка, Іван Марчанка, Іван Яшкін, Арсень Ліс

# апякунствам спецслужбаў

беларускай літаратуры гістарычнай тэматыкі. Неўзабаве Міхася Чарняўскага прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР.

У разняволеныя 1990-я гады Міхась Чарняўскі быў руплівым, дзейсным у грамадска-палітычным жыцці. Спрычыніўся да заснавання ГА «Мартыралог Беларусі». Разам з сябрам Міхасём Ткачовым рупіўся аб стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Заснаваў і рэдагаваў бюлетэнь ГА «Ветэраны Адраджэння» «Verytas».

Сфальсіфікаванае абвінавачанне Сцяпан Міско, Алесь Каўрус, Валянцін Рабкевіч прайшлі, дакладней, перажылі не без стратаў. Але ўсе здолелі рэалізаваць сябе як людзі творчыя.

Сцяпан Міско выдаў сваю кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную школьнаму беларускаму тэатру XVI–XVIII стагоддзяў асобнай манаграфіяй. На жаль, да тэатразнаўчай працы, апынуўшыся па-за сценамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, не вярнуўся.

Валянцін Рабкевіч абараніў дысертацыю па мове ды патрапіў адбыцца як беларускі літаратар, найбольш прадуктыўны ў перакладчыцкай працы. Пераўтвараў на беларускую мову вершы А.Ахматавай, С.Ясеніна, М.Рыльскага. Перакладаў прозу М.Гогаля, М.Зошчанкі, папулярныя ў свой час раманы «Мары не паміраюць» Л.Метсэра, «Жанчына ў пяску», "Чужы твар» Коба Абэ і іншыя.

Алесь Каўрус жа, пакантаваўшыся без працы каля года, нарэшце ўладкаваўся ў Педінстытут імя Максіма Горкага, дзе працаваў на кафедры беларускай мовы пад кіраўніцтвам слыннага беларускага мовазнаўцы, педагога, прафесара Ф.М. Янкоўскага. Ужо самі назвы Алесевых кніг могуць нешта сказаць пра іх змест, характар і агульны напрамак клопату Каўруса-навукоўца. Вось назвы некаторых з іх: «Культура слова», «Стылістыка беларускай мовы», «Слова наша роднае», «Мова народа, слова пісьменніка», «Дакумент па-беларуску».

***

Падступна сфабрыкаваная КДБ справа «Акадэмічны асяродак» жорстка, фатальна адбілася на жыцці, чалавечым лёсе Міколы Прашковіча. Хлопец пачынаў як паспяховы літаратуразнавец. Прайшоўшы аспірантуру ў спецыяліста па старажытнай рускай літаратуры прафесара Яроміна ў Ленінградзе, Мікола паспяхова абараніў кандыдацкую па творчасці Сімяона Полацкага. Даволі актыўна пачаў друкавацца па старажытнай беларускай літаратуры. Напісаў кніжку «Францішак Скарына — беларускі першадрукар». У сааўтарстве з А. Коршуновым выдаў кнігу Ф. Скарыны «Прадмовы і пасляслоўі», забяспечыўшы яе належным навуковым каментарам. Актыўна адгукаўся



Каля Акадэміі Навук, злева направа: Алесь Яскевіч, Іван Цішчанка, Іван Марчанка, Іван Яшкін, Арсень Ліс

**Трактаваць наглядными органамі спробу студэнтаў БДУ дабіцца на філфаку выкладання прадметаў навучання на беларускай мове як праяву нацыяналізму было занадта вялікай нацяжкай. Ды што зробіш, калі трэба выконваць дзяржаўнае заданне**



Арсень Ліс з Сямёнам Падокшыным, 1964 год

на выхад розных беларускіх выданняў рэцэнзіямі. Займаўся перакладам з украінскай мовы.

Звольнены са становішча старшага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры АН БССР, Мікола на пачатку стаў грузчыкам. Пазней удалося ўладкавацца карэктарам у часопісе «Родная прырода», затым у рэдакцыі газеты «Вячэрні Мінск».

Не спабіўшыся на ўласны жыллёвы кут, жыў дзе давядзецца. Практычна апынуўся зусім выбітым з жыццёвай каляіны. Расхварэўся, з'ехаў на малую радзіму, што на Менскай Бярозаўшчыне. Неўзабаве самотны, хворы, знямоганы трагічна адышоў у вечнасць. Проста згарэў у бацькавай хаце. Як там тое сталася — невядома.

***

З-за занятасці, а дакладней, нядбаласці, толькі праз гады даведаўся я пра адрасат Міколавага ліставання. Перапісваўся ён з унучкаю ўкраінскага паэта-рэвалюцыянера, знанага класіка ўкраінскай літаратуры Івана Франко. У верасні 1939 года, з прыходам на Заходнюю Украіну Чырвонай Арміі, НКВД у Львове сярод іншых украінскіх інтэлігентаў арыштавала паэтавага сына, прафесара Пятра Франко. За што? Папросту, усеўладнае сталінскае ведамства заўсёды мела план і квоту на элімінацыю інтэлігенцыі. Аналагічна восенню 1939 года адбылося і пры вызваленні Заходняй Беларусі. Яшчэ пры функцыянаванні ў Вільні «Беларускага ўпраўлення» на чале з І.Ф. Клімавым, у кастрычніку 1939 года былі арыштаваны беларускія дзеячы, пісьменнікі, журналісты Антон Луцкевіч, Уладзімір Самойла, Аляксандр Уласаў, Макар Краўцоў, Вячаслаў Багдановіч, Баляслаў Друцкі-Падбярэскі і іншыя. Лёс іх быў трагічны.

Такі ж лёс напаткаў і ўкраінскага прафесара Пятра Франко. Пры хапатлівым адступленні ў 1941 годзе з Львова НКВД яго вывезла, а пазней расстраляла. Ягоная дачка даведалася пра гэта ў 1950-я гады, калі прыйшла пасмяротная рэабілітацыя.

Можна здагадвацца, што магла пісаць, пісала ў лістах беларускаму навукоўцу Прашковічу гэта кроўна пакрыўджаная ўладай жанчына і што ён адказаў на яе жалі, гнеў, абурэнне. Пісьмовы дыялог іх, пэўна, быў гарачы, адметны характарам зместу. Перапіска не магла не зацікавіць спецведамства. Яна, зразумела, падлягала перлюстрацыі.

Менавіта ліставанне стаўшых паднаглядными навукоўцаў, відаць, і навяло ахоўнае ведамства на думку сфальсіфікаваць справу т. зв. «Акадэмічнага асяродка».

Антынацыянальнаму падраздзяленню КДБ БССР трэба было апраўдваць сваю працу-службу: справаздавацца вынікова, пераканаўча. Тым больш, што аналагічная структура ахранкі на Украіне дэманстравала канкрэтныя факты выкрыцця і судовага асуджэння дысідэнтаў, асабліва нацыянальна арыентаваных.

А ў прынцыпе жорстка-сумная гісторыя з маладымі беларускімі навукоўцамі — адна з безлічы, якія маглі адбыцца, адбываліся ў закрытым, бяспраўным грамадстве таталітарнай палітычнай сістэмы.

***

Выконваць сваё дзяржаўнае прызначэнне — выяўляць нацыяналізм у Беларусі 1960-х — 1970-х гадоў органам дзяржаўнай бяспекі было адначасова лёгка і цяжка. І ў сказаным няма парадокса. Лёгка — таму, што беларуская інтэлігенцыя, свядомая лёсу свайго народу, паўсталая ад пачатку XX стагоддзя і колькасна ўзросшая ў рэнесансныя для Савецкай і Заходняй Беларусі 1920-я гады, цягам наступных 1930-х — 1940-х была стратэгічна вынішчана сталінскім рэжымам. Усе дзялянкі жыццядзейнасці народу таталітарны рэжым, усталяваны Сталіным, стараўся замяніць, замяніў паслухмянай наменклатурай, якая па прыродзе сваёй не магла мець ніякіх нацыянальных інтэнцый. Яна вырасла ўжо ў спецыфічных умовах закрытага таталітарнага грамадства і была адчужана ад свайго народу нават мовай.

Службоўцам падраздзялення КДБ БССР, прызначанага для сыску, нагляду за праявамі нацыяналізму, заставалася адно — сачыць за інтэлігентнымі адзінкамі, што яшчэ не паспелі сцурацца роднай мовы.

Пасля жахлівых сталінскіх рэпрэсій мала хто з ацалелых інтэлігентаў азываўся беларускім словам. На свядомасным узроўні яно было на падазрэнні дзесь. Людзі памяталі, чым закончылася беларусізацыя 1920-х гадоў, у чым па сутнасці вінавацілі ўладныя чыноўнікі рэпрэсаваную масава беларускую інтэлігенцыю.

Мушу паўтарыцца, сачыць за праявамі нацыяналізму як палітычнай з'явы ў другой палове XX стагоддзя было няпроста, з'яўлялася перастрахоўкай з боку Масквы. Палітычным спадкаемцам Сталіна не было падстаў баяцца беларускага сепаратызму. Па агульным прызнанні, БССР лічылася самай інтэрнацыянальнай рэспублікай у Саюзе. М.С. Хрушчоў, будучы высокім госцем Мінска, хваліў беларусаў, што не трымаюцца роднай мовы, абяцаў, што першымі ўступяць у камунізм. Пры гэтым злёгку папракнуў сакратара ЦК КПБ Кірыла Мазурава за тое, што вітаў яго па-беларуску.

Трактаваць наглядными органамі спробу студэнтаў БДУ дабіцца на філфаку выкладання прадметаў навучання на беларускай мове як праяву нацыяналізму было занадта вялікай нацяжкай. Ды што зробіш, калі трэба выконваць дзяржаўнае заданне. Крытэрыямі апазнання праяў нацыяналізму спецведамствам быў знойдзены самы просты спосаб выведкі. У навуковых, навучальных ды іншых установах, інтэлігенцкіх «свае людзі» з КДБ канкрэтна адказвалі на спушчанае ім пытанне: «Кто разговаривает на белорусском языке?» З гэтага рабілася простая, як аглобля, выснова: «Постоянно разговаривает на белорусском языке, значит, — националист». Беларускамоўны інтэлігент, такім чынам, у вачах органаў станавіўся патэнцыйным носьбітам крамолы, — нацыяналізму. Практычна ж ішлося аб наглядзе за ростам нацыянальнай свядомасці, чалавечай годнасці інтэлігенцыі.

# Старыя Васілішкі. Смерць і ўваскрэсенне аргану

Сяргей ПУЛЬША

**Касцёл Пятра і Паўла ў вёсцы Старыя Васілішкі зноў займеў голас. У ім зайграў старажытны арган.**

Гэтае месца мае надзвычай цікавую гісторыю. Справа ў тым, што менавіта ў Старых Васілішках нарадзіўся выдатны спявак, музыка, кампазітар і выканаўца Чэслаў Немэн. Нягледзячы на яго нараджэнне ў Беларусі, знакамітым ён стаў у Польшчы, і палякі назвалі яго выбітным музыкам XX стагоддзя.

Мажліва, Немэн стаў тым, кім ён стаў, дзякуючы менавіта таму аргану, які цяпер адрадзілі ў Старых Васілішках. Бацька Чэслава Немэна, Антон Выджыцкі (сапраўднае імя Немэна — Чэслаў Юліюш Выджыцкі), быў якраз музычным майстрам, які даглядаў арган у касцёле, граў на ім і, зразумела, рамантаваў яго. Можа, адтуль у славутага музыкі і з'явілася гэтая жыццёвая дарога.

Увогуле, гэтае мястэчка, як расказала знаная мастацтвазнаўца, дырэктарка галерэі TUT.BY Таццяна Бебмель, — сплцеценне гісторыі, якая ледзьве не завязаная на музычным інструменце — аргане.





## Гісторыя і музыка

Каштоўны арган быў створаны сям'ёй нямецкіх майстроў Янтцон (бацька і сын) на мяжы XVIII–XIX стагоддзяў — тыя ж майстры стварылі арган у Будславе. Гэта адзін з унікальных інструментаў у Беларусі. У 1990-х гадах па ініцыятыве прафесара Уладзіміра Неўдахі быў праведзены перапіс старажытных музычных інструментаў, якія былі ў краіне. У час яе высветлілася, што ў нас існуюць каля 120 арганаў у рознай ступені захаванасці. Дзейнымі з іх была добра калі пятая частка.

Аднак і сярод гэтых арганаў інструмент у Старых Васілішках вылучаўся. Справа ў тым, што гэта класічны барочны арган. Большасць з тых інструментаў, якія ёсць у Беларусі, адносяцца да пазнейшага перыяду — да XIX стагоддзя. Арганаў, якія б ствараліся ў XVIII стагоддзі, у нас не так ужо і шмат.

Сама парафія ў Старых Васілішках налічвае ўжо 500-гадовую гісторыю. Першапачаткова арган змяшчаўся ў старым драўляным касцёле XVII стагоддзя. Але напрыканцы XIX стагоддзя парафіяне вырашылі пабудаваць новы, цагляны будынак. Збіралі грошы на яго, як водзіцца, усім светам, прычым значную частку сродкаў на будоўлю далі мясцовыя габрэі. У знак павагі да гэтага ўнёску на касцельных вежах выкладзеныя зоркі Давіда.

Але ў той жа час аўтар праекта святыні — архітэктар Канстанцін Вайцяхоўскі — распрацоўваў будынак такім чынам, каб у ім поўнае гучанне набыў арган. То бок, касцёл будаваўся ледзьве не пад інструмент. І зараз гэта — выдатную акустыку будынку — можна пачуць амаль напоўніцу.

## Амаль смерць

Гэты інструмент перажыў шмат: Першую сусветную вайну, далучэнне Заходняй Беларусі да СССР, Другую сусветную… А амаль не сканаў ён у пасляваенны час.

Як расказвае Таццяна Бембель, да канца 1950-х гадоў арган быў у дзейсным стане і радаваў прыхаджан касцёлу музыкай. Але потым у СССР у часы Хрушчова і Машэрава пачалася антырэлігійная кампанія.

Па дадзеных Бембель, у той час у Беларусі былі зачыненыя альбо зруйнаваныя ці знішчаныя іншым чынам каля 10 тысяч (!) розных рэлігійных аб'ектаў. Не пашанцавала і касцёлу ў Старых Васілішках. Праўда, лёс яго ксяндза быў больш лагодны, чым у іншых: праз яго сталы ўзрост, савецкія ўлады не рэпрэсавалі ксяндза, а дачакаліся натуральнай смерці. Пасля гэтага касцёл быў закрыты, а ўсё, што было ў ім, — было апаганена вандаламі.

Не быў выключэннем і арган. Шукаючы каштоўнасці, яго раскурочылі амаль да неўзнаўляльнага стану: нават разбілі і перакруцілі трубы. Так і заставаўся гэты інструмент разбураным да скону СССР.

А самае прыкрае, кажа Бембель, тое, што са знішчэннем арганаў, натуральна, зніклі і майстры, якія маглі даглядаць і рамантаваць гэтыя інструменты. Бо арган, насамрэч, — гэта не проста інструмент, гэта даволі складанае інжынернае і будаўнічае рашэнне. Узгадайце — і касцёл будавалі так, каб «дагадзіць» аргану.

Карацей, не заставалася амаль нікога, хто ўмеў бы з ім упраўляцца.

## Дапамога, адкуль не чакалі

Пасля скону СССР будынкі, якія падпалі пад хвалю антырэлігійнай барацьбы, пачалі вяртаць вернікам. Адрадзілася парафія ў Старых Васілішках.

Але арган чакаў свайго часу да 2009 года. Менавіта тады Старыя Васілішкі наведала група кінадакументалістаў на чале з Верай Савінай. Прыехалі яны здымаць дакументальны фільм у хату Чэслава Немэна, але пабачылі і касцёл, дзе хрысціліі маленькага Чэслава, будучую зорку польскага і еўрапейскага прагрэсіў-року. Тады ўзнікла ідэя, па-першае, ператварыць хату, у якой нарадзіўся Немэн, у яго дом-музей, а па-другое (крыху пазней) — узнавіць у касцёле ўнікальны арган.

«Ён быў у такім стане, што, калі мы вырашылі заняцца яго ўзнаўленнем, на нас глядзелі як на вар'ятаў. Усе казалі, што ўзнавіць яго немагчыма», — узгадвае спадарыня Бембель. Прасцей было набыць электраарган, як гэта робіцца зараз ці не паўсюль.

Аднак нашы людзі — з тых, што не шукаюць лёгкіх шляхоў. Энтузіясты, якія сталі апекавацца Старымі Васілішкамі (у час стварэння музея яны назваліся Апякунскай радай дома-музея), вырашылі зрабіць усё, як было. Да працы далучылі знанага майстра з Расіі і адначасна пастара лютаранскай царквы Дзмітрыя Лотава, — ён кіраваў працай узнаўлення інструмента. У той жа час, з-за амаль поўнага знішчэння, рэстаўратары не давалі ніякіх гарантыяў, што прывядуць яго ў норму.

Зразумела, на адным энтузіязме далёка не паедзеш. Актыўную фінансавую і маральную падтрымку аказвала Пасольства Германіі ў Беларусі і Пасольства Польшчы. Правесці рамонтныя працы было б немагчыма без ухвалення і спрыяння ксяндза касцёла ў Старых Васілішках, айца Збігнева Драгулы. Дапамогу аказвала і Шчучынскае ўпраўленне культуры райвыканкама.

Падчас чатырохгадовай працы па ўзнаўленні інструмента, дарэчы, знайшлі дэталь, маркіраваную імем бацькі Чэслава Немэна — Антонам Выджыцкім. Кожны майстра, які нешта рамантаваў у аргане, пакідаў на дэталях сваё імя…

У выніку рэстаўратары амаль адрадзілі арган у яго натуральным выглядзе. Нават мяхі ў ім зараз надзьмуваюць не электраматорам (пакуль), а ўручную. А рэстаўратары займелі бясцэнны досвед і бясцэнную дакументацыю — бо запісвалі і замалёўвалі ўвесь шлях узнаўлення інструмента.

## І гэта яшчэ не канец

Першыя акорды ўзноўленага аргана прагучалі сёлета ў чэрвені, на дзень святых Пятра і Паўла. Але тады быў узноўлены толькі адзін рэгістр. На прэзентацыі-канцэрце, які адбыўся пры падтрымцы Пасольства Германіі 18 лістапада, прагучалі ўжо тры рэгістры. Граў на інструменце знаны майстар-арганіст Віктар Кісцень (яго выкананне ў сталіцы можна пачуць у касцёле Святога Роха), а пела пад арган знаная оперная зорка Ірына Кучынская.

Госці з Мінску прывезлі з сабой і квартэт «Aquarelle». Гэта таксама вядомыя музыкі, якія граюць класіку ў розных незвычайных месцах. А мінскія аматары музыкі маглі неаднаразова іх чуць на канцэртах у Верхнім горадзе. Праўда, на жаль, правесці сумесны з арганам канцэрт не атрымалася, бо спалучыць гучанне габою, скрыпкі, віяланчэлі, альту і аргану — праца няпростая. Але і так атрымалася вельмі добра.

Напярэдадні канцэрту кіраўнік Шчучынскага ўпраўлення культуры райвыканкама Аляксандр Амшэй уручыў дыпломы Таццяне Бембель, Веры Савінай і Дзмітрыю Лотаву. А айца Збігнеў Драгула атрымаў ад мінскіх гасцей падарунак — фотаздымак прыхаджанаў яго касцёлу стогадовай даўніны.

Працы па рэстаўрацыі аргану будуць праходзіць і надалей. І мы будзем спадзявацца, што Беларусь усё ж займее выдатны аўтэнтычны музычны інструмент, якім можна ганарыцца нават у свеце.

**Артыкул падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Германіі ў Беларусі**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №1113

Падпісана да друку 24.11.2017. 8.00.
Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.